# Леанід Дайнека

# СНЯЖЫНКІ НАД АГНЁМ

*

ВЕРШЫ І ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
Д 14

В книгу включены лучшие стихи и поэмы пяти сборников поэта, написанные в течение двадцати лет. Любовь к Родине, неугасимая память предков, сложный мир человеческой души — вот стержневой мотив творчества поэта.

Д $\frac{4702120202-087}{М\ 302(03)-89}$ 119—89

ISBN 5-340-00264-0



# ПРАДЗЕДЫ

Якія яны, мае прадзеды,
Дняпроўскія плытагоны?
Яны ў навальніцу ладзілі
З напорам хваляў шалёных.

Яны жартавалі нявесела,
Збягалі з плытоў на прыстань
І мокрыя лапці вешалі
Над цяпельцам іскрыстым.

У вёдрах кіпела варыва,
Цыгаркі дружна дымілі...
Аб чым мае прадзеды марылі,
Пра што ўсю ноч гаварылі?

Напэўна, пра лёс,
пра надвор'е
І пра сялянскую сціпласць,
Пра тое, што дзеці хворыя
Чакаюць бацькоўскіх гасцінцаў...

Вецер лізаў вуголле,
Дзесьці крычалі пеўні...
А тут гаварылі пра волю —
І ў сэрцах адвага спела.

У дзядзькоў барадатых
Вочы гарэлі гнеўна:
— Хутка пад панскія дахі
Пусцім чырвонага пеўня!

* * *

Камяні, камяні —
Ціхай вечнасці жорны...
Не згасаюць агні
У вачах непакорных.
Камяні, камяні
На крывавых палосках...
На гарачым кані
Праляцеў Каліноўскі.
З-за дрымучых бароў
Сонца выблісне рана.
Звонкі гром капытоў
Шчэ жыве за курганам.
Камяні, камяні —
Наша памяць жывая.
Хай праносяцца дні,
Хай вякі праплываюць —
Толькі родзяць палі,
Кветкі шчасцем буяюць...
На радзімай зямлі
Камяні размаўляюць.

## КУРГАНЫ

Вякоў свінцовая трывога...
І плач дачок... І кроў сыноў...
Гляджу наўкола... О як многа
На Беларусі курганоў!

Яны, як помнікі змагання,
Яны — стагоддзяў зорны шлях.
І тая кветка не завяне,
Што вырасла на курганах.

## ЗВАНЫ

Ішоў народ у бой,
Ішоў народ з вайны —
Грымелі над зямлёй
Бяссонныя званы.
І іх адчайны крык
Па горадзе хадзіў,
Маленькіх і старых
У грозны час будзіў.
У наступ вораг лез —
І грукаў кожны звон:
Ушчэнт разбіцца лепш,
Чым трапіць у палон.
На чорных чужаніц,
Як помсты вестуны,
Ляцелі са званіц
Грымучыя званы.

* * *

Недзе ля Магілёва —
Майго шчасця падкова.
Яе конь партызанскі
Там згубіў выпадкова.

Недзе ля Магілёва —
Майго сэрца аснова,
Найсвятлейшая мара,
Найгучнейшае слова.

## РАНІЦА

Стукнуў вецер крылаты
У аконнае шкло.
У прасторную хату
Ціха сонца ўвайшло.

Хтосьці радасна войкнуў,
Усміхнуўся маўчком...
Сонца выцерла вокны
Залатым ручніком.

## НОВЫ ДЗЕНЬ

Падніміце молат, кавалі!
Хлебаробы, плуг свой навастрыце!
Касманаўты, зорку запаліце
Над світальнай роўняддзю зямлі!

Заспявайце песню, гусляры,
Бо пчала ўжо звоніць залатая,
І з-за хмары сонца выглядае,
Як лісіца рыжая з нары.

Новы дзень вясёлкай зіхаціць,
Крочыць морам ён і крочыць сушай...
У людскія радасныя душы
Новы дзень уважліва глядзіць.

## ПУСТЫНЯ

Не дайду, упаду і не ўстану...
Там, дзе вечная вечнасць заснула,
Прама ў сэрца мне ўдарацць барханы
Варанёным штыком саксаула.

Будзе сонца гарэць і бруіцца
Ад гарачых вятроў залатое.
Будуць думкі мае аб крыніцы
З жыватворнай сцюдзёнай вадою.

Тут прасмажана ўсё, нібы ў печы.
Тут карэнняў лясы не пусцілі.

Дзесьці побач нячутна трапеча
Аслабелае сэрца пустыні.

Толькі неба ўзлятае імгліста.
І, як рэха вясновае плыні,
У туркменкі на шыі маністы
Ручайком разліваюцца сінім.

## ВАДА

Вада, вада — як кінуць вокам...
Стаю ля светлых рэк вытокаў,
Бяру яе ў далоні, п'ю
І мокрых губ не выціраю.
Маўчу. І ўсю тугу сваю
Мара́м далёкім павяраю.
Трава, кара, прамень зары —
Усё сплывае к акіяну.
Ах, чалавек, ты вельмі рана
Сумеў прыдумаць якары.

* * *

Бывае — едзеш у вагоне.
Грыміць цягнік: «Хутчэй! Хутчэй!»
І раптам на крутым адхоне
Убачыш сцішаных дзяцей.

З кашамі, з жоўтымі збанкамі
Сярод травы яны стаяць.
Махаюць тонкімі рукамі
І доўга-доўга ўслед глядзяць.

Яны прыйшлі сюды ў суніцы.
Шчаслівым, добрым — ім няўцям,
Што гэтак і маё дзяцінства
Махала калісь цягнікам.

* * *

Калі зайграе паводка,
Запахне ветрам вясны,
Нібы падводная лодка,
Я вынырну з глыбіні
Сваіх трывог і сумненняў,
І мар сваіх, і турбот...
Бачу — на рэчцы вясенняй
Крышыцца звонкі лёд.
Бачу — трапеча голле,
Святлее дрэваў кара,
На ўзмежку шырокага поля
П'е трактар ваду з вядра.
Хавайся, зіма, не хавайся —
Не спыніш вясны маладой...
І сум мой, як белы айсберг,
Сплывае з бурлівай вадой.

* * *

Пайду ў травы сусвет зялёны,
Каб слухаць ранкам залатым,
Як дзень пры дні ўздыхаюць коні
Аб чымсьці вечным і зямным.

Як заклапочана і ветла,
Праклаўшы шлях сюды здаля,
Вясновых дзён жывыя кветкі
Шукае звонкая пчала.

* * *

А мы з табой збяжым туды,
Дзе да світальных зор
Над чорнай прорваю вады
Шуміць зялёны бор.

Там след вавёрак і зайцоў,
Там салаўіны спеў.
Там я цябе калісь знайшоў,
Цябе калісь сустрэў.

Стаялі дрэвы ў ціхім сне.
Пад іх густым шатром
Зялёны вецер нам звінеў
Асмужаным крылом.

Гарыць блакіт тваіх вачэй.
І льецца спеў рака.
Давай руку! Бяжым хутчэй
На звон маладзіка.

* * *

Стаіць — не плача, не смяецца.
Стаіць, маўчыць і бровы хмурыць.
І не закрыць гарачым сэрцам
Вачэй трывожных амбразуры.

І не хадзіць над ручаямі,
Дзе плешча хваля залатая.
...Услед за ціхімі шпакамі
Каханне ў вырай адлятае.

* * *

Яшчэ зіма не адшумела
Апошняй крыгай на рацэ,
Яшчэ даверліва не пела
Гітара ў тоненькай руцэ,

Ды я разбуджан быў аднойчы
Якойсьці светлаю тугой:
Мяне паклікаў сярод ночы
Твой ціхі горад над ракой.

Быў снег апошні, сумны, сіні.
І месяц быў, як белы птах...
Вятры надрыўна галасілі
На ўсіх шасці мацерыках.

Ды верыў я ў абшар світальны,
Ды я ішоў цябе шукаць,

Ішоў, як першаадкрывальнік,
Тваё каханне адкрываць.

І я сустрэў цябе. І рэчка
Запела песню нам з табой.
Салютам нашае сустрэчы
Ўставала сонца над зямлёй.

## ДОЖДЖ

*Мар'яну Дуксу*

Бязлюдны стэп. Аўтамашына —
Забыты богам тарантас...
Яна нас гушкала, смяшыла
І граззю пырскала на нас.

І жоўты стэп здаваўся бурым,
Дажджу мігцела серабро.
І ў кузаве, нібыта бубен,
Грымела звонкае вядро.

Аб нечым вечным думаў суслік,
На лапкі стаўшы, слухаў дождж.
І нам насустрач, нам насустрач
Ляцела наша маладосць.

Як ветразь, сэрца светлым ранкам
Хацела ўдалеч плыць і плыць.
Ты помніш дожджык над Уральскам?
Я не магу яго забыць.



Люблю начныя гарады.
Па звонкіх вуліцах блукаю,
Калі апошнія трамваі
Знікаюць, быццам назаўжды.

Вакол — дамы. Вакол — спакой.
І, як задумлівыя хмары,
Маіх сяброў далёкіх твары
Ўсю ноч плывуць перада мной.

Нікога я не разбуджу.
Да заўтра, людзі! Спіце! Спіце!
І неба ціха сучыць ніці
Скупога зорнага дажджу.

## ЁСЦЬ НА ЗЯМЛІ ПРЫКМЕТА

Ёсць на зямлі прыкмета:
Чакаючы дочку ці сына,
На самыя лепшыя кветкі
Глядзець павінна жанчына.

Пройдуць вёсны і зімы,
І у шчаслівай хаце
Вырастуць дзеці такімі,
Як кветкі, што бачыла маці.

Стукне ў шыбіну птушка.
Ранак успыхне звонкі.

Будуць дзіцячыя душы
Чыстымі, як рамонкі.

У холадзе зімняй ночы,
Летнімі вечарамі
Будуць цвісці іх вочы
Сінімі васількамі.

Сэрца зазвоніць льдзінкай,
Заб'ецца струной напятай —
Думаю: дзе ж хадзілі
Маці забойцаў і катаў?

Якія шумелі ім ветры?
Якія травы спявалі?
Якія страшныя кветкі
На іх шляху расцвіталі?

Зноў цішыня на свеце
Звоніць крылом галубіным.
Спяць у калысках дзеці,
Глядзяць на кветкі жанчыны.

## БЕЛАРУСІ

Мы ад цябе не ўпрочкі бегалі.
Цябе мы ратавалі часта.
О Беларусь! О чайка белая
Над хваляй нарачанскай.

І ты чакала нас, ты верыла
Ў сваю зямную сілу.

Сваімі сонечнымі вербамі
Над рэчкай гаманіла.

Плыла празрыстымі аблокамі,
Чакала з цёплай верай,
Калі сыны твае далёкія
Пастукаюць у дзверы.

Мы прыязджалі. Ты пад ліпамі
Чакала нас уранні.
Калі і як з табой разлічымся
За гэтае чаканне?

* * *

Забудзем гора чорнае
І дзень працяты болем.
Хай музыка мажорная
Закружыцца над полем.
Хай танец разліваецца,
Дзяўчат вясёлых хмеліць,
Хай хлопцы усміхаюцца,
Бы едуць на вяселле.
Хай стануць зноў шчаслівымі
І дзядзька аднаногі,
І тыя, што пад ліпамі
Заснулі ля дарогі.
Усныхні, неба, зоркамі,
Махні крылом арліным.
Забудзем гора горкае,
Ды толькі на хвіліну.

* * *

Пералескі... Бярозкі...
След ласіны ў бары...
О далёкія вёскі —
Нашых душ якары.
О радзімыя хаты —
Хмель святочных сталоў,
Пах зялёнае мяты
Ў цішыні вечароў.
Нібы мак, расцвітае
Твар дзяўчыны ў акне...
Зноўку вёска страчае
І цябе і мяне.
Як хлапчук двухгадовы,
Я стаю на раллі...
Прагна слухаю словы
Сваёй роднай зямлі.

* * *

Табе складаю песню ля кастра,
Маёй зямлі зялёнае застолле,
Калі ў бярозы белыя за полем
Апусціцца крылатая зара.

Гарыць касцёр, як роздум вечаровы,
Спявае мне аб сонечных лугах,
Дзе доіць маці белую карову,
Дзе звон травы, дзе сонца ў ручаях.

Там маіх продкаў галасы і крокі,
Там ад стагоў кладзецца сіні цень.

І спяць у небе срэбныя аблокі,
Як дзеці, што змарыліся за дзень.

Зямля мая! Мой дом, мой хлеб адзіны,
Я вечна твой, я б'ю табе чалом.
Хай вецер і праз вёсны і праз зімы
Звініць ля вуха залатым чмялём.

* * *

Нібы поўнае мора,—
Мая родная мова.
Ціха крышацца хвалі
Каля белага мола.
Ціха крышацца хвалі,
Ціха носяцца чайкі.
І балюча на сэрцы,
Што бываў я не часта
Каля бацькавай хаты,
Каля роднага ганку,
Дзе пастух напявае
У трубу-берасцянку,
Дзе вясновае сонца
Над бярозамі свеціць,
Дзе буслам усміхаюцца
Сінявокія дзеці.

## АСІПОВІЧЫ

Далеч грукатам поўнячы,
Праляцеў эшалон.
Добры дзень, Асіповічы!
Вам мой нізкі паклон.

Вы з усмешкай затоенай,
Што любога кране,
Квасу хлебнага конаўку
Ціха дорыце мне.

Мне і лёгка і радасна...
Што яшчэ гаварыць?!
Ў Асіповічах раніца
На ўсё неба гарыць!

Чырванее суніцамі
У прыполах дзяцей,
Наракае шчасліўцамі
Нешчаслівых людзей.

Крочу вуліцай чыстаю.
І з-за ранішніх хмар
Сонца макавай чырванню
Залівае мой твар.

* * *

Прахалода светлых рэк...
Ціхіх ранкаў дым...
Што ты знойдзеш, чалавек,
На шляху сваім?

Я хачу, каб ты знайшоў,
Сэрцам напаткаў
Сто адданейшых сяброў,
Сто вялікіх спраў.

Не бурштын і не алмаз,
А любоў, з якой
У суровы грозны час
Пойдзеш ты у бой.

І пад шэпат горкіх траў
Ты у барацьбе
Знойдзеш тое, што шукаў,—
Знойдзеш сам сябе.

* * *

Калі будзе прачытана кніга жыцця,
Дзень апошні успыхне старонкай апошняй,
Закрычаць журавы над халоднаю пожняй,
Халаднейшаю стане вада ручая.

Толькі радасна мне — сінявокі хлапчук,
Не спазнаўшы ні літары з кнігі бясконцай,
Будзе ціха ўсміхацца і небу і сонцу...
Не парвецца жыцця разняволены круг!



* * *

Хай у печах мартэнаўскіх сонца бушуе.
Хай на скроні каханых не ляжа зіма.
На уральскім агні загартоўваў душу я,
І пакуль што ні зломаў, ні трэшчын няма.
Помню вас, гарнякі, помню вас, сталявары.
Толькі вочы заплюшчу — і зноў прада мной
Паплывуць, паплывуць вашы светлыя твары,
Як вясеннія воблакі над зямлёй.
Помню цэх шматгалосы і змену начную,
Помню ў шуме і громе, у промнях святла
Кранаўшчыцу, кержачку вясёлую Нюру,
Што з гарэзлівай песняй па цэху ішла.
У далёкіх краях, на дарогах бясконцых
Я усюды ўспомню рабочых людзей.
Нават промень маглі яны выкаваць сонцу,
Каб гарэла мацней і свяціла ярчэй.
Тыя дні, як са школьнае дошкі, не сцерці.
Тыя дні — маіх думак і слоў разьбяры.
Мне здаецца, і сёння звініць маё сэрца
Ля крутога падножжа Магнітнай гары.



Сібір. Зямля халодная.
Маўклівых дрэў кара.
Чытаем Джэка Лондана
Ля зыркага кастра.

За кедрамі, за скаламі
У звонкай цішыні,
Як золаташукальнікі,
Знікаюць туманы.

Вуголлі самародкамі
У попеле гарадь.
Аб тым, што ішчэ не зроблена,
Не варта гараваць.

Аб тым, што ішчэ не сказана,
Не трэба слёзы ліць.
Жалезная, алмазная
Зямля наўкол ляжыць.

І ўсё яшчэ наперадзе.
І, быццам маякі,
Гарадь кастры на беразе
Бяссоннае ракі.

Ідзём тайгой разбуджанай,
Каб шолах зор пачуць,
Што некалі у Шушанскім
Свяцілі Ільічу.

## ВЁСКА

Тут аралі і касілі,
Нараджаліся, раслі,
Ураджаю тут прасілі
У карміцелькі зямлі.

І адсюль пайшлі па свеце
Ручайкі адной ракі:
Падарожнікі, паэты,
Гарадоў будаўнікі.

Тут жывуць вякоў паданні,
Тут грымотнаю парой
Косы — ластаўкі паўстанняў —
Начавалі пад страхой.

## БУСЛЫ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАГА ВЕКУ

Дрыготкае мора травы.
Усхліпы трывожнага ветру.
Якімі будзеце вы,
Буслы дваццаць першага веку?

Думаю зноў і зноў.
Хачу, каб вы, як і сёння,
Хадзілі сярод лугоў
У ботах сваіх чырвоных.

Я мару усё часцей
З наіўнасцю дзікаватай

Аб тым, як малых дзяцей
Прыносіць вы будзеце ў хаты.

Ды, можа,— часіна праб'е,
Зменіцца ўсё на планеце,
І пер'е вам абскубе
Цывілізацыі вецер.

Лугі травой адзвіняць,
У небе зара адшугае,
І будуць усіх вас трымаць
У клетках, як папугаяў.

Лячу праз гадоў небасхіл
Трывожнай душой чалавека...
Жадаю вам моцных крыл,
Буслы дваццаць першага веку.

## МЕТЭАРЫТЫ

Мы — дзеці прасторы. Усе мы згарым,
Зляцім на зямлю, бо ў небе нам цесна.
У лесе, у полі, ў балоце сырым
Шукайце сляды пілігрымаў нябесных.
Начною парой здрыганупца лугі.
Ад яркіх успышак расквеціцца неба.
Шукайце нас, людзі, і куйце плугі,
Не куйце мячоў — яны вам не трэба.
Сейце зярняты, каб жыта ўзышло,
Частуйце дзяцей сваіх пірагамі.
А нас не кладзіце пад музейнае шкло —
Хай сіняе неба ззяе над намі.

* * *

Размовы пра вечнасць заводзім,
Аб ёй уздыхаем часцей,
А ўжо за парог выходзіць
Дзяцінства нашых дзяцей.

О веку і тэмпы і рытмы!
Хай хуткасць дзяцей не саб'е.
Знаходзім мы ў іх свае рысы,
Губляючы штосьці ў сабе.

Жыцця не змялее крыніца.
Касцёр абнаўлення гарыць.
Павінны мы ўсе паўтарыцца,
А значыць, сябе патушыць.

Іскрынкаю гаснучы звонкай,
Пакінем ім радасць, не сум.
Хай стануць іх душы скарбонкай
Усіх нашых песень і дум.

* * *

Вуголле спаленых хацін.
І чорны дым. І чорны вецер.
У кожнага свая Хатынь.
І ўсё ж Хатынь адна на свеце.
У кожнага свая Хатынь,—
Хатынь ці ў Віцебску, ці ў Мінску.
Ды ў посвіст куль, у грукат мін
Пайшоў бы я, каб мёртвы сын
Падняўся з Вашых рук, Камінскі.

* * *

Крывая не замяніцца прамой.
Двудушша не схаваецца пад грымам.
Ёсць розніца паміж агнём і дымам,
Паміж высокай праўдай і маной.

Той, хто да славы лезе напралом,
Хто кожны дзень жыве у новай ролі,
Не стане белым лебедзем ніколі,
А вечна будзе брыдкім качанём.

Святлом зары напоўніўшы свой дом,
Устаньце, людзі пільныя, на варту.
І чэрствасці халоднай кантрабанду
Не пранясе душа з падвойным дном.

* * *

Ваенны год... Лясы... Блакада...
Адчай і боль... Бінты і кроў...
Грыміць апошняя граната,
І ўсё... І ціш з усіх бакоў.

І пахне прыгарэлым хлебам.
І сонца — чорны каравай.
І партызан глядзіць у неба
І шэпча воблаку: «Бывай...»

## ПАРТЫЗАНСКАЯ КАША

Хто пра гэта раскажа?
Хіба — зоркі ўгары...
Партызанская каша
У лясным гушчары.

Дым пахучы, салодкі
Тоіць столькі спакус.
Клапатлівыя цёткі
Рассцілаюць абрус.

Прэе каша ў даёнцы
(Чыгуна не прыдбаць),
І чамусьці няёмка
Лыжку першаму браць.

Але дзед барадаты
Торкне хлопца пад бок:
Што задумаўся, браце?
Налягай, галубок.

О хвіліны маўчання!
О лясоў галасы!
І сядзяць партызаны,
Як у лузе касцы.

І вінтоўкі, як косы,
Паляглі ў цішыні.
І здаецца — наўкола
Ні бяды, ні вайны.

І прыходзяць нячутна
Ў ціхі шум верхавін
Нерэальнасць пакуты,
Нерэальнасць крыві.

Вось дастануць мянташкі.
Пот змахнуць рукавом.
Але строга і важка
Раздаецца: «Пад'ём!»

І ідуць асцярожна
Цераз ноч, да сяла...
Каша, каша, апошняй
Ты для хлопца была.

Будзе ціха і золка.
Звонка грымне затвор...
Як трывожная зорка,
Дагарае касцёр.

* * *

За крокам крок. І дзень за днём.
Усход жыцця. Жыцця змярканне.
Нас паліць стоеным агнём
Вялікай страты прадчуванне.

Дзе той парог апошні, дзе?
Чаму мацнее сум у сэрцы?
Жывём каля магіл людзей
І вечна марым аб бяссмерці.



Магутны дуб. Духмяны бэз.
Арэшнік гнуткі, пакручасты.
Мой родны край, твой лёс, як лес,
Пад грознаю сякерай часу.

Ты цвіў над рэкамі журбы,
Ты рос пад ветрам злым і рэзкім.
Ва ўсе бакі ляцелі трэскі,
Ды не ламаліся дубы.

Бліщчыць раса. Звініць туман.
Стаю маўкліва на узлессі.
...О колькі многа ў вечным лесе
Палян!

## СУЗОР'Е АРЛА

Там, дзе вечных туманаў імгла,
Ёсць у небе сузор'е Арла.
Там крыніцы празрыстыя б'юць.
Там арліныя людзі жывуць.

Там шумяць незямныя лясы.
Незямныя гучаць галасы.
Там блакітнае сонца штодзень
Незямны выпускае прамень.

О як лёгка і радасна мне:
Я туды прылятаю у сне.
З поўным сэрцам шчаслівых надзей
Я іду да арліных людзей.

Я іду і усім гавару:
— Дайце з крылаў сваіх па пяру,
Дайце сэрца арлінае мне,
І нідзе мяне лёс не сагне.

Ды маўчаць тыя людзі, маўчаць,
У высокае неба глядзяць.
І з далёкай планеты арлоў
Я ізноў прылятаю дамоў.

Прачынаюся — дождж за акном,
Але радасцю поўніцца дом.
Хай бяда, хай туга, хай імгла —
Ёсць у небе сузор'е Арла.

* * *

Тонкі пах далёкай мяты.
Серабро дзявочых слёз.
Скверык ля ваенкамата,
Лісце жоўтае бяроз.

Ах, хлапчына, смейся, смейся —
Заўтра станеш пад ружжо.
Хоць яшчэ мы не армейцы,
Не цывільныя ужо.

Паімчыць нас поезд хуткі,
Паімчыць у белы свет.
І дзяўчына сіняй хусткай
Памахае мне услед.

Будуць маршы і сакрэты,
Каравулы і пасты,
Будуць плыць, як зоры ў рэках,
З Магілёўшчыны лісты.

Буду бачыць цёмнай ноччу
У далёкай старане,
Як з пяшчотай яе вочы
Пазіраюць па мяне.

А пакуль — не муліць ранец,
Пад нагой дрыжыць перон,
Мокры клён, як навабранец,
Заглядае у вагон.

* * *

Ёсць бераг чакання зялёны і ціхі
З празрыстым туманам і сонцам гарачым.
Там бачаць шчаслівыя сны парадзіхі,
Дачок сваіх бачаць, сыноў сваіх бачаць.

Ёсць бераг чакання. Туды я вярнуся.
Туды я прыеду з любоўю сваёю...
Як хвораму дрэву, лясы Беларусі
Мне раны залечаць гаючай смалою.

## ЧАЛАВЕК СЫШОЎ НА ПАЎСТАНКУ

З доўгаю нізкаю абаранкаў,
Падхапіўшы цяжкі чамадан,
Чалавек сышоў на паўстанку
І пакрочыў у сіні туман.

Стылі шпалы,
плылі аблокі.
Шэры дым ляцеў пад адхон.
Шчэ быў вельмі доўга здалёку
Шоргат гумавых ботаў чуцён.

Кім ён быў, чалавек маўклівы,
Да чыйго ён спяшаўся агню?
І якія бярозы і ліпы
У маленстве шумелі яму?

Не даведацца, не сустрэцца
На далёкіх крутых шляхах.
Толькі ціха стукнула сэрца.
Толькі крыкнуў тужлівы птах.

Зноў начных агнёў калыханка.
Зноў вагоны рыпяць, бы драчы.
Чалавек сышоў на паўстанку
І, як зорка,
растаў у начы.

## ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА З БАЦЬКАМ

«Вас выклікае міжгародняя»,—
Данеслася з канца зямлі.
І ўсе праблемы міжнародныя
Адразу ўдалеч адплылі.
І ўжо няма бяды ўчарашняе,
І сённяшніх няма трывог.
Я чую: бацька ў трубку кашляе,
Гаворыць мне: «Здароў, сынок».
Ён пра надвор'е мне расказвае,
Пра сад, пра пчол, пра мноства спраў
І ганарыцца новай лазняю,
Што разам з зяцем збудаваў.
Гаворыць мне, са мною раіцца,
А ў словах — суму ручайкі.
Так, непрыкметныя ураніцу,
Гараць начамі светлякі.
Ну вось і ўсё. Размова скончана.
Кладзе ён трубку на рычаг.
З Ахрэмам, нетаропкім конюхам,
Заверне з пошты у прадмаг.
І там, дзе ў небе зоры гронкамі,
Дзе ліпы шэпчуць далёдна,
Яны нальюць у шклянкі звонкія
Халаднаватага віна.
А я, маўклівы, устрывожаны,
Зноў буду марыць многа дзён,
Каб крыкам сумнай птушкі восеньскай
Мяне паклікаў тэлефон.
Скажыце мне — вам не хацелася
Пасля адной з такіх размоў
Хоць праз дажджы, хоць праз мяцеліцы,
Хоць басанож пайсці дамоў?



Узыходзіць сонца, узыходзіць,
На кустах смяецца,
на траве.
Раніцы блакітны параходзік
Да далёкай прыстані плыве.

Крыкнуў певень радасна і звонка,
Як на троне,
певень на страсе.
Хлопчык, перасмешлівы Лявонка,
Бацьку ў поле снеданне нясе.

Над зямлёю курчацца аблокі.
Ён ідзе,
не спішвае хады,
І яму да сталасці далёка —
Яшчэ далей, пэўна, да бяды.

Ён павінен вырашыць сягоння
Таямніцу неба і зямлі —
Хто ў слупах вуркоча тэлефонных:
Пчолы там вядуцца ці чмялі?

Да слупоў ён вухам прыпадае —
Слухае...
Гудуць на ўсе лады,
У нябачных далях прападаюць
Звонкія тугія правады.



Аўтобус. Шум. Вясёлы гоман.
Матор напружана раве.
Гляджу і бачу — дзядзька ў горад
Прывёз дзяды на рукаве.

Ён, пэўна, так сюды спяшаўся,
Меў столькі планаў і надзей,
Што незаўважаным застаўся
Вось гэты самы хітры дзед.

І едзе радасны і горды,
Сярод сталічнай мітусні
Калючы дзед — зялёны ордэн
Маёй вясковай стараны.

## ЗЯМЛЯ

Мы ў сутнасці яе радня.
Дзень заўтрашні, дзень учарашні.
І возьме нас к сабе яна,
Калі часы наступяць нашы.

Пяскі, граніты, чарназём,
І бель снягоў, і звон крыніцы...
Мы паступова пазнаём
Усе зямныя таямніцы.

Над ёй і град, і зорны дождж,
І сосен звонкія антэны.
У чаравіках, басанож
Па ёй мы ходзім, як Антэі.

Калі сустрэнуся ў жыцці
З апошніх дзён апошнім кругам,
Зямля, хачу к табе прыйсці
Не шэрым попелам, а плугам.

* * *

Лясная шумлівая радасць.
І птушак і дрэў галасы.
Ды тых, хто аднойчы ім здрадзіў,
Караюць маўчаннем лясы.

Вы хоць на хвіліну ўявіце —
Ад кветак гарыць сенажаць,
Вясновае сонца ў зеніце,
А дрэвы стаяць і маўчаць.

Ля іх каранёў можаш поўзаць,
І локці ў адчаі кусаць,
І выць на халодную поўню,—
А дрэвы стаяць і маўчаць.

## СОСНЫ

Я лесарубам быў і сосны
Валіў бязлітаснай пілой.
Таварыш мой, тапор мой востры,
Прапах жывіцаю лясной.

Мяне ўсе дрэвы не любілі.
Трымцелі дрэвы і ўва сне,
Бо ім у роднай іх Сібіры
Было прывольна без мяне.

Я летнім днём дамоў прыехаў,
Сцяжыны ў лес мяне вядуць.
У гушчары гуляе рэха.
Я па слядах яго іду.

Я адпускнік. Іду сур'ёзны.
Я гладжу родных дрэў кару.
Ды чую — шэпчуць, шэпчуць сосны:
— Цішэй... Цішэй... Ён лесаруб...

І стыне сэрца ў горкай скрусе.
Адразу дзень цямнейшым стаў.
О сосны, сосны Беларусі,
Хто вам пра гэта расказаў?

## РОДНАЕ

Калі светлае неба зацягне журбой,
Калі восеньскі вецер у шыбах завые,
Я масты успамінаў спалю за сабой
І паеду дамоў у бары векавыя.

Прытулюся шчакой да знаёмай сасны.
На яе на адну буду толькі маліцца.
І прапахнуць мае задуменныя сны
І шурпатай карою і цёплай жывіцай.

Ераспелая шышка ўпадзе на зямлю,
Нібы родных лясоў запаветнае слова.
Хто мне скажа, за што я ўсё гэта люблю,
Гэты шум, гэты гром, гэты звон верасовы?

Калі возьмуць мяне, як дубок малады,
Павязуць ад лясоў, ад палёў Беларусі,
На чужыне пасадзяць — згару ад нуды,
Ліст зялёны ссушу, прападу, не прымуся.

## НАВАГРУДАК

Гэты мох, нібы рэха трывог.
Уздыхае ён сумна і доўга.
Я прыйшоў к табе, замак Міндоўга,
У грымоты суровых дарог.

Ні усмешак, ні плачу, ні слоў.
Толькі вецер над сценамі вые.
Сцены гэтыя — лёсы людскія,
Спрасаваныя прэсам вякоў.

Як разбуджаных гусляў струна,
Тут звініць чалавечае сэрца.
І, як сімвал жыцця і бяссмерця,
Шэры камень свідруе трава.

* * *

Мае думкі дома і не дома.
Я гляджу на поле, на буслоў.
Правадоў сталёвую салому
Зноў трывожаць зерні нечых слоў.

Чалавек, каму ты тэлефоніш?
Аднаго хачу я пажадаць:
Каб ты словы, сказаныя сёння,
Заўтра мог таксама ўслых сказаць.

* * *

Не было ні вершаў, ні сям'і,
Не было зусім-зусім нічога.
А была далёкая дарога.
І ўсю ноч спявалі салаўі.

О як пахла летняю зямлёй!
О як лісце ў небе трапятала!
Ад мясцінаў родных да Урала
Шлях далёкі слаўся прада мной.

І шапталі сосны мне: — Пастой...
Не ідзі адгэтуль на чужыну...
Нас ніколі дзед твой не пакінуў.
Не пакінуў нас і бацька твой.

О турбота соснаў маладых,
Родных пушчаў светлая трывога!
Ў прадчуванні новае дарогі
Я ішоў, не слухаючы іх.

Зведаў шчасце, зведаў многа бед...
Дык чаму ізноў мяне трывожыць
Тая ноч і той маўклівы вожык,
Што дарогу ў лесе перабег?

* * *

А мы далёка пойдзем,
Мы песняй свет разбудзім,
Бо нашых жыццяў поўдзень
Яшчэ не хутка будзе.

Пад небам неабдымным,
Пад сонцам і слатою
Усе мы маладыя,
Нібы трава вясною.

Няхай жа сэрца носіць
І радасць і усмешку.
Каса, што нас пакосіць,
Ляжыць яшчэ ў застрэшку.

## ПОЎНАЧ

Чумаў чорныя конусы.
Дым над снегам азяблым.
Тут не ходзяць без компаса.
Тут не ходзяць без сябра.

Над сівымі сумётамі
Люлькі зморана курым.
Сваю песню дрымотную
Нам спяваюць каюры.

І далёкія вобразы
Выплываюць з туману...
Ля трывожнага вогнішча
Енчыць бубен шамана.

Ды над сцежкамі нашымі
З-за аблокаў пунсовых
Рэактыўнымі нартамі
Пранясецца паштовы.

Стане шумна і сонечна
Ад ягоных грымотаў.
І каюры вясёлыя
Усміхнуцца пілотам.

* * *

Шыбуем мы шляхамі гладкімі,
Нас дождж і вецер не кране.
А дзесь на ўскраіне Галактыкі
Сумуюць гусі па вясне,
І стыне неба ў ціхім гомане,
І, як аб светлых днях туга,
Гарыць раса з лугоў наднёманскіх
На моцных крылах важака.



Цяжэй за ўсё з сабою ваяваць,
Цяжэй за ўсё сябе перамагаць.
Ты — пераможца. Толькі ты і той,
Хто здаўся і прайграў рашучы бой.

Два лагеры, дзве сілы у табе
Сышліся у адчайнай барацьбе.
І ты глядзіш з тугою у вачах,
Хто першы з іх узніме белы сцяг.

Ды вось сціхае спуджаная кроў,
І непатрэбна больш ніякіх слоў.
І промень крыўды неўпрыкметку згас.
...Смяюся я і пла́чу ў той жа час.



Агні маланак. Хмар агонія.
І паміж небам і зямлёй
Стаіць дзяўчына на балконе
З высока ўзнятай галавой.

Шалее неба ў чорнай злосці.
І праз дажджу тугую плынь,
Нібыта капітанскі мосцік,
Ляціць балкон удалячынь.

## РЫЖАВАЛОСАЯ ДЗЯЎЧЫНА

У непраглядная завірусе
Цябе прыкмечу я здалёк —
Сярод чарнявых, белых, русых
Ты ўся гарыш, як вугалёк.

Замілавання словы, знаю,
Не часта песцілі твой слых,
Ідзеш па вуліцы, зямная
І не падобная на ўсіх.

І не магу я устрымацца,
Твой позірк радасна лаўлю.
Скажы, адкуль ты? Можа, з Марса
Ты прыляцела на Зямлю?

Вячэрнім небам вочы поўніш,
Нясеш усё такім, як ёсць:
Адкрытым — сэрца, чыстым — погляд,
Нефарбаванай — прыгажосць.

* * *

Давай паедзем на свабоду
Да птушак, вожыкаў, мядзведзяў.
Не на прыроду — у прыроду
Давай з табою мы паедзем.

Ахвяра разумовай працы,
Я буду сярод дрэў кашлатых
Хадзіць, маўчаць і напаўняцца
Энергіяй, як кандэнсатар.

Мы будзем чуць: спяваюць сокі.
Мы будзем бачыць: спее ранне.
І гэта будуць не уцёкі —
У свой далёкі дом вяртанне.

Адной дарогай мы прыходзім
Сюды, дзе, светлая, густая,
Стагоддзі — не! — тысячагоддзі
Лясная ціша нас чакае.

* * *

У зорках, у расе
Ракою ноч бруіцца.
Заснулі людзі ўсе.
І толькі мне не спіцца.

Да раніцы ў цішы,
У светлым задуменні
З бароў сваёй душы
Тралюю слоў бярвенні.

Мне трэба ўзвесці дом
І светлы і высокі,
Каб быў той дом відзён
Сябрам маім здалёку.

Каб град па шыбах сек,
І маладзік усходзіў,
Каб добры чалавек
У дом у мой заходзіў.

У зорках, у расе
Ракою ноч бруіцца.
Заснулі людзі ўсе.
І толькі мне не спіцца.

Да раніцы ў цішы,
У светлым задуменні
З бароў сваёй душы
Тралюю слоў бярвенні.

* * *

Да вытокаў вяртаемся мы, да вытокаў,
Да зялёнай зямлі і да зоркі высокай,
Да дрыготкай вады, што звініць пад вятрамі,
Да густой цішыні над начнымі палямі.
У спакоі дубоў, у журбоце асіны,
У палёце зязюлі, у следзе ласіным,
У задумлівым шэпце бярозы-красуні
Ёсць з душой чалавечай таемная сувязь.
Тут усюды прырода спрадвеку пануе,
Веснім сонцам прырода сябе каранує,
Тут усюды прырода, усюды прырода,
Тут спякота вякоў і вякоў прахалода.
Дзіўным соснаў зеллем, хаджу, назіраю.
У дрымотным сасонніку дзень дагарае.
Мурашы па галінцы рабіны бязлістай
Падымаюцца ўгору, нібы альпіністы.



Над зямлёй аблокаў крыгалом.
Б'ецца ў бераг звонкая рака.
Пакаціўся дзесьці першы гром,
Як пусты бітон з-пад малака.
Весела красуе сенажаць.
На рацэ рыпіць стары паром.
І дзяўчына, каб прыгожай стаць,
Мые твар бялюткім малаком.

## НАЧЛЕГ У СТОЗЕ СЕНА

Як добра спаць сярод лугоў,
У цішыні, у стозе сена.
Даўно за лесам сонца села,
І зоры запалалі зноў.
Як добра пад мігценне зор
Хоць на кароткі міг убачыць:
Кладзе стары дзядок ламачча
У патухаючы касцёр.
Ён сёння зноўку малады.
Пад бляск расы, іржанне коней
Прыходзяць з далечы зялёнай
Яго юначыя гады.
І сіл старому не стае.
Куды ад успамінаў дзецца?
Ён варыць юшку у вядзерцы,
Пра вочы карыя пяе.
А на яго з другіх планет,
З галактык, мудрых і вячыстых,
Цікаўна, строга, урачыста
Глядзіць загадкавы Сусвет.



А ён не той, не твой каханы,
Ды толькі што цяпер зрабіць —
Пярсцёнак, ім падараваны,
На пальцы золатам гарыць.

А ён не той, не твой каханы.
І стыне неба над табой.
Ты птушкаю акальцаванай
Сядзіш у клетцы залатой.

## ПТУШЫНАЕ ГНЯЗДО

*Анатолю Кудраўцу*

Я знайшоў птушынае гняздо —
Кволых жыццяў кволае цяпельца.
Як аднойчы згубленую песню,
Я знайшоў птушынае гняздо.
Я хмызняк маўклівы расхінуў
І убачыў у святле зялёным
Дом птушыны, дом безабаронны,
Што дрыготка слухаў цішыню.
І была даверліва-святой
Гэтая яго безабароннасць.
Недзе побач каркалі вароны.
Каршуны кружылі над зямлёй.
Я нікому адрас не скажу.
У гаях яно, ад сонца светлых,
Пасярод Зямлі, у цэнтры Свету,
Там, дзе шолах ветру і дажджу.

Там, дзе ў травах дрэмле зарапад,
Дзе жыве пад небам звонка-сінім
Цішыня, як дзюбы птушанят,
Што вось-вось праточаць шкарлупінне.

* * *

Ліхтары такія цьмяныя.
Град у вокны б'е.
Можа, ты мяне падманваеш,
Можа, я цябе.

Аж трымціць начная вуліца —
Холад... Ветру спеў...
Хай цярпенню сэрцы вучацца
У маўклівых дрэў.

* * *

А прыйдуць лепшыя за нас
І прыгажэйшыя за нас.
У вочы мудрым зорам глянуць
Уладары касмічных трас.

Сплывуць стагоддзі, як плыты,
І пройдуць зорныя дажджы,
З тугой і роспаччу глухою
Сканаюць горныя хрыбты.

А мы застанемся з табой.
Мы станем ветрам і травой.
Мы будзем вечна жыць, як гукі,
Як гукі музыкі зямной.

* * *

Пранёсся дождж з птушыным лямантам
Сярод садоў, маўклівых ніў...
І кроплі, як электралямпачкі,
На кожнай траўцы запаліў.

І ад святла іх незвычайнага
Не зможаш ты адвесці воч,
Пакуль не шчоўкне выключальнікам
Глухая жнівеньская ноч.

* * *

Я знайшоў цябе напрадвесні
Без узнёслых слоў і без сведак.
Так знаходзяць у цёмным лесе
Паляну поўную кветак.

Так знаходзяць у лузе крыніцу,
Нечакана, раптоўна, удзячна.
І маўчаць, перад тым як напіцца,
Доўга ў вочы яе глядзяцца.

## ВОСЕНЬСКІ СШЫТАК

Пастаўце помнік верасню,
Які даўно прайшоў,
Пастаўце помнік верасню
Сярод густых лясоў.

Вазьміце лісце соннае,
І сіні звон вады,
І вецер, і ў сасонніку
Ласіныя сляды.

Вазьміце рэчку, воблака,
Вавёрку на сасне,
Вазьміце цемнавокую
Дзяўчыну і мяне,—

І вы тады паверыце
У шчырасць гэтых слоў.
І будзе помнік верасню,
Які даўно прайшоў.

* * *

Калі сляды сплятаюцца
У дзіўны след адзін
І сэрцы разгараюцца
Пад полымем асін,

Калі вада дрымотная
Звініць аб светлых днях,
Я вольнай птушкай лётаю
Па пушчах і лугах.

Гарыць агонь рабінавы.
Сумуюць жураўлі.

І ты стаіш, адзіная,
Сярод усёй зямлі.

Прамой дарогай верасня
Прыйшла ты да мяне.
І мне сягоння верыцца:
Наш рай — у будане.

* * *

Я жыў, як птушка ў выраі,
Без шчасця, без святла.
Як мора ледавітае,
Мая душа была.

Не сябраваў я з песнямі,
Глядзеў з тугой наўкол.
І вось каханне першае
Прыйшло, як ледакол.

І вось ільды пакрышаны
Грымучаю вадой.
І я стаю над крыгамі
З абноўленай душой,

І я стаю над вечнасцю,
І гавару услых:
— Ты ветлая, ты — светлая,
Ты — лепшая за ўсіх!

* * *

О дзякуй, месяц верасень,
За той лясны спакой,
Дзе я сустрэўся з вернасцю
І шчырасцю зямной,

За тую зорку дзіўную,
Што азарыла шлях,
За тую птушку дзікую,
Што ціўкала ў кустах.

О дзякуй, месяц верасень,
За сонца у акне.
Хоць, можа, і не вернецца
Каханне да мяне.

Хоць ты дажджлівы, воблачны,
Ды я з часіны той
Цябе ўяўляю ў вобразе
Дзяўчыны маладой.

## РАДАСЦЬ

Ападае лісце жоўтае.
Лес стаіць у ціхім роздуме.
Восень, восень, ты не жорсткая,
Сёння ты, як я, цвярозая.

Што было і што адбудзецца —
Ўсё маё, да кожнай дробязі.
Я іду па нашай вуліцы,
І на сэрцы цёпла робіцца.

І ляцяць балконы светлыя,
Нібы птушкі, пад аблокамі.
І на самым верхнім весела
Мой кірпаты сын галёкае.

Ён стаіць над самай прорваю
І ад страху не калоціцца,
А са смехам папяровыя
Мне пускае самалёцікі.

І усё — такое чыстае,
Не падманнае, не жорсткае.
Льецца звонкі спеў з транзістара.
Ападае лісце жоўтае.

* * *

Прыходзь зімовымі начамі
Праз завірухі злую бель
І каля ціхага прычала
Спаткаеш ціхі карабель.

Ён пад свінцова-шэрым небам,
Дзе уладар адзін — мароз,
Аброс ільдом, дрымотным снегам,
Тугой трывожнаю аброс.

Ён уздыхае ледзьве-ледзьве
Сярод снягоў, сярод трывог,
І ён увесь, як хворы лебедзь,
Што ў вырай паляцець не змог.

Халодны вецер заскуголіць,
І сціене сэрца смутку снег:
Чаму ж заснуў ён на прыколе?
Чаму ж у мора ён не збег?

* * *

Шум зімовай пургі.
Холад рэк ледзяны.
І бялеюць снягі,
Як дзіцячыя сны.

Ды каханне жыве
І цвіце, як цвіло.
Як сказаць мне табе
Пра каханне сваё?

Як знайсці той маяк,
Той агонь залаты,
Калі ты — гэта я,
Калі я — гэта ты?

* * *

Санны след. Імклівы полаз.
Храп каня пад белым небам.
Я люблю глядзець на поле,
Зацярушанае снегам.

Ўсё здаецца мне, здаецца,
Ўсё мне мроіцца заўсёды,
Што гарачы конь нясецца
Праз халодныя сумёты.

Ззяе месяц срэбнарогі.
Ткуцца снежныя лагчыны.

І трымціць уздоўж дарогі
Злосны бляск вачэй ваўчыных.

Ліхаманкава, трывожна
У каня бялее грыва.
Адзінокі падарожнік
Азіраецца пужліва.

А ў санях, на сене мяккім,
Спіць хлапчук, шчаслівы самы.
І малому сніцца маці,
Хата з цёплымі блінамі.

# КЛЮЧ

## Паэма

*Словы маці:*
Мой сынок,
для людзей прамяністаю зоркай гары.
Ды куды б ні паехаў, куды б па зямлі ні пайшоў —
Ключ ад роднае хаты з сабою ў дарогу бяры,
Не губляй гэты ключ, калі хочаш вярнуцца дамоў.

* * *

Мне сніўся сон: я плугам стаў.
Гарачым, вострым, светлазвонным.
Які каваль мяне каваў,—
Шчэ не вядома мне і сёння.

Я ціха плыў у баразне
Сярод каменняў і карэнняў.
І на, жалезнага, мяне
Глядзелі травы у здзіўленні.

Без сонца я у цемры слеп.
Мой шлях нялёгкі быў, нялёгкі.
І баразна была, бы след
На возеры ад хуткай лодкі.

І на мяне з усіх бакоў
Насоўвалася, нібы вечнасць,
Краіна крохкіх каранёў,
Краіна чорных галавешак.

Чаго тут толькі не было —
Плылі насустрач гільзы, кулі,
Гранаты, тоўчанае шкло
З тых вокнаў, што навек заснулі.

І думаў я: о, колькі іх,
Зярнят вайны, нямых і чорных.
І я крычаў, крычаў услых:
Каб іх змалоць, не хопіць жорнаў.

Усё пярун тут спапяліў,
Тут балявала смерць па-царску.
Я ў яе царстве плыў і плыў
І пад зямлёй убачыў цацку.

Нібы прамень мінулых дзён,
Нібы шматок марское пены,
Ляжаў, быў толькі мне відзён
Шкляны, блакітны, сумны пеўнік.

Маўчала чорная зямля.
Маўчала спаленае рэха.
І супыніўся плуг. І я
На камень памяці наехаў.

Скрозь скібы, нібы скрозь гады,
Глядзеў я, змораны і ціхі.
Ліле́яй з цёмнае вады
Павольна выплыла дзяцінства.

І сон прайшоў. І дзень святлом
Усё наўкол заліў уладна.
Жаданнем бачыць родны дом
Мяне працяла, як маланкай.

*Словы маці:*
Мой сынок,
усміхайся, шчаслівыя песні спявай
І з сябрамі сваімі прайдзі скрозь любую бяду.
А забавішся дзе, пад цаглінаю ключ пашукай —
Я заўсёды яго пад цагліну кладу.

* * *

Вітаю рэкі і палі.
Вітаю сонечнае ззянне.
Вітаю да сваёй зямлі,
Як да саміх сябе, вяртанне.

Не загаіць нічым той сум,
Што кліча нас у край буслінь.
Той сум прыходзіць, як самум
З глухой распаленай пустыні.

І птушкі болей не пяюць.
І не бруяцца болей рэкі.
Лістоту скідвае сваю
Душы знясіленае дрэва.

...І зноў паглядам я абняў
Край самы светлы, самы лепшы.
Быў летні вечар. Цішыня
Паклала рукі мне на плечы.

Быў летні вечар. Родны дом.
Травою пахла. Пахла дымам.
Блакітнай поўняй над сялом
Мне ў вочы глянула Радзіма.

О пустаслоў-касмапаліт,
Цябе я зноў і зноў шкадую.
Табе ніколі не праліць
Слязу сыноўнюю, святую.

Шукай сівых вякоў сляды,
Пішы вучоныя трактаты,
Ды будзеш жыць, як крот сляпы,
Калі не маеш роднай хаты.

...Спяшаўся я, як толькі мог.
Не ўбачыў, а душой адчуў я,
Што на дзвярах вісіць замок
І цішу сонную пільнуе.

У цемры сумны жук прагуў.
Гарэлі зоркі над зямлёю.
Цагліну я перавярнуў,
Ды не было ключа пад ёю.

І раптам страшна стала мне:
Што, калі я даўно тут лішні?
І ў родным матчыным акне
Ніколі больш святло не блісне?

Што, калі смерць сваёй касой
Усё скасіла тут зацята
І ўжо не хата прада мной,
А толькі прывід роднай хаты?

Ці ноч была наўкол, ці дзень —
З глухой шчымліваю тугою
Я ціха сеў на мокры пень,
Які калісьці быў вярбою.

* * *

Калісьці тут была вярба —
Пявуння вуліцы вясковай.
З высокім воблакам вяла
Яна бясконцую размову.

Я помню той далёкі час,
Я помню шум яе зялёны,
Я помню: раніцой да нас
Фатограф завітаў з раёна.

Ну як было тут утрываць?
Мы пад яго паглядам строгім
Не ведалі, куды схаваць
Свае парэпаныя ногі.

Я помню: на зыходзе дня,
Пасля цяжкой сялянскай працы,
Збіралася уся радня,
Каб разам сфатаграфавацца.

І першым, нібы капітан
Перад стыхіяю марскою,
Белабароды дзед Сцяпан
Уладкаваўся пад вярбою.

Наўкол дарослыя гулі,
А мы, аж пад страхою хаты,
Паселі дружна у галлі,
Паселі, быццам птушаняты.

У светлы край, за далягляд
Плыло сівых аблокаў веча.
І пстрыкнуў фотаапарат.
І нас усіх увекавечыў.

...У цішыні, у барацьбе,
Пад ветру грознага павевам,
Радзіма, бачу я цябе
Вечназялёным, мудрым дрэвам.

Цябе не зломіць вецер злы.
Дзяды — вось корань твой глыбінны,
Бацькі — надзейныя ствалы,
А мы — бяссонныя галіны.

* * *

Як белы ветразь, ноч плыла.
Плыла без грукату, без тлуму.
Сцякала з дрэў раса, смала.
А я сядзеў. І думаў, думаў.

...Усім прыходзіць час мудрэць
І разумець душою строгай,
Што ёсць у нас жыццё і смерць —
І больш нічога, больш нічога.

Усім прыходзіць час сталець
І бачыць новымі вачыма
І бохан хлеба на стале,
І ў сінім небе сцяга чырвань.

І, крочачы за далягляд,
Павінны помніць мы да скону,
Што ўсё Радзіма нам дала:
І гэты хлеб, і сцяг чырвоны.

Яна у нас адна, адна.
І без імя яе на вуснах
Даўно б мы высахлі да дна,
Як рэкі, што не маюць вусця.

Яна наш вечны неспакой.
Ніщто нас з ёю не разлучыць.
Калі ў бядзе балюча ёй,
Павінна быць і нам балюча.

...Вось так я думаў. А наўкол
Свае вянкі сплятала лета.
І ў садзе падалі на дол
Светла-ружовыя ранеты.

І вечных зор плылі агні
На неба сінім цыферблаце.
І ў гэтай светлай цішыні
Пачуў я крокі. Крокі маці.

*Словы маці:*
Ты сядзіш тут даўно?
Ля парога. Адзін. Без святла.
І нікога няма. І на хаце — маўклівы замок.
А я ў Вольгі была. На радзінах у Вольгі была.
Надта ж добры ў яе нарадзіўся сынок.

* * *

Жыццё! Няхай жыве жыццё!
Шчэ міг назад усё маўчала,
Як перасохлае трысцё,
Як хваля ноччу ля прычала.

Але раздаўся раптам крык,
Шчаслівы і звонкагалосы.
Вось так, адкрыўшы мацярык,
Крычаць ад радасці матросы.

...Расці, зямляк! Гарыць усход.
Вось-вось зазвоніць сонца бубен.
Ты маладзей на трыццаць год.
Я веру: ты шчаслівым будзеш.

І для цябе я ў гэты час,
У час твайго світання добры,
Другі геалагічны пласт,
Другі, далёкі, непадобны.

Ты ўбачыш мудрых зор святло,
Пачуеш голас іх спрадвечны,

Што не пад сілу мне было,
Ты возьмеш з лёгкасцю на плечы.

Але ніколі часу, тлу
Не падзяліць нас — цвёрда знаю.
Яднае нас вось гэты ключ,
Якім я дзверы адчыняю.

Яднае нас вось гэты ключ
Ад роднай хаты, дзе раслі мы.
Яднае нас вось гэты ключ
Ад сэрца маці, ад Радзімы.



* * *

Іду праз святы і праз будні
І п'ю ваду з грымучых рэк.
Жыву у эпіцэнтры буры,
Імя якой — дваццаты век.
Ён звышімклівы, звышактыўны.
Ён любіць вострыя вуглы.
І з самалётам рэактыўным
Не паспрачаюцца буслы.
Над полем, над ляском зялёным
Грымотны гул ідзе здаля.
Мацнее вецер, і спрасоння
Нервова ўздрыгвае зямля.

* * *

Мне рэха ўсіх сусветных бур
У сэрца стукае — не ў шыбы.
Палае дзён бікфордаў шнур,
І дзень апошні — быццам выбух.

І покуль ён не прагучаў,
І покуль вецер шчокі студзіць,
Хачу аддаць зямлі і людзям
Усё, што ў іх калісьці ўзяў.

* * *

Ад гора прадзед слеп
Каля глухіх аселіц.
І дзед мой сеяў хлеб,
Як быццам гора сеяў.

Ды іх надзел пусты
Мой лёс мне не пакінуў.
Дала мне шчасце ты,
Савецкая Айчына.

Не трэба многа слоў.
Хачу любіць заўсёды
І шум тваіх лясоў,
І гул тваіх заводаў.

Адной табою жыць
І, як належыць сыну,
Агнём сваёй душы
Плаціць табе даніну.

Не трэба многа слоў.
Ты на зямлі шырокай
Аснова ўсіх асноў,
Выток усіх вытокаў.

Пад небам дарагім
Сярод вясновых пожняў
Табе мой першы гімн,
Табе мой гімн апошні.

## ГУМНО

Штодзень у сэрца уваходзяць
Трывогі, крыўды, мары, сны.
О памяць, памяць! Ты калодзеж,
З якога зоры ўдзень відны.

Што разумець я мог, малеча?
Ды помню: чорнае акно...
У шыбах зарыва трапеча...
Гарыць калгаснае гумно.

Гарыць, як на хаўтурах свечка.
Салома курчыцца ў агні.
І жоўты месяц — сумны сведка,
Глядзіць панура з вышыні.

І нечы крык, гаротны, немы —
Раз у жыцці крычаць вось так.
І шэпча маці: «Немцы... Немцы...»
І бацька кашляе ў кулак.

А мы у тым гумне гулялі.
Зімой, вясной і ў лістапад.
І начаваць на сенавале
Туды хадзіў старэйшы брат.

Там светлы пыл над сенам віўся —
Грызі травінку і маўчы.
Там, таямнічая, на вільчык
Злятала зорка уначы.

І вось яно гарэла. Ціха
Над чорным полем слаўся дым.
Цяпер я ведаю: дзяцінства
Згарала ў полымі густым.

Цяпер я ведаю: без жалю
Усё забраў агонь сляпы.
І у адным кастры згаралі
Бярвенні, людзі і снапы.

І калі зноў палезуць гуны
У край калоссяў залатых,
Я ў бой пайду за нашы гумны,
За гнёзды ластавак у іх.

## БАЛАДА ПРА СОЛЬ

Паслухайце слова пра торбачку солі,
Пра торбачку солі, пра юную Соню,
Паслухайце слова пра грукат блакады,
Пра грозныя дні ў партызанскім атрадзе.
Было іх шаснаццаць. Было іх шаснаццаць.
Яны да канца не хацелі здавацца.
Было іх шаснаццаць і юная Соня.
Яны паміралі без хлеба і солі.
А побач — пасечана кулямі вецце.

А побач — крычаць уначы па-нямецку.
Ах, юная Соня, вясёлыя вочы,
Ты ў бітве суровай быць лішняй не хочаш.
Бярозы, бярозы, не выдайце Соню.
Ёй трэба у вёску прабрацца за соллю.
Закрыйце зямлю ўсю, начныя туманы,
Бо крочыць яна па трывожных палянах.
Застылі над полем халодныя цені.
Вось родная хата. Сасновыя сцены.
Адчынены дзверы. Адчынены сенцы.
Тужлівая маці стаіць ля акенца.
— Патухлі ўсе зоры, замоўклі ўсе птушкі.
Навошта ж мяне пакідаеш, дачушка?
Не пройдзеш улева, не пройдзеш управа —
На кожнай дарозе застава, застава.
— Прабач мне, матуля, што будзеш адна ты.
Прабач мне, матуля, ды рвуцца гранаты,
Ды кроўю гарачай заліты паляны.
Мяне ўжо чакаюць сябры-партызаны.
І зноўку дарога, і зноўку дарога.
І сосны стаяць непрыступна і строга.
І дзесьці фашысты ля самай дарогі.
І хочацца ўбачыць святло перамогі.
Яе каля рэчкі аўчаркі дагналі,
Пад веццем бярозы яе расстралялі.
І з торбачкі белай пад шэпат бярозы
Бруілася соль, як халодныя слёзы.
Заснула дзяўчына ў лясным перагудзе.
Жывіце шчаслівымі, родныя людзі.
Хай будзе жытло ваша з хлебам і соллю.
Жывіце і помніце юную Соню.

# ГАРМОНІК У ПАРТЫЗАНСКІМ МУЗЕІ

Прыціхлы, трошкі сіратлівы,
Хоць кожны дзень наўкол — народ,
Пад шклом, халодным і маўклівым,
Ляжыць ён тут які ўжо год.
Сярод лясоў, жывых і мёртвых,
Сярод вайной стаптаных ніў
Хто на табе іграў, гармонік?
Хто да пляча цябе туліў?
У час кароткага прывалу,
Дзе воблака замест страхі,
Якая песня саграваль
Твае старэнькія мяхі?
Гуло ў лясах блакады пекла,
І пад гармат шалёны гром
Адно з табою сэрца пела,
Другое плакала цішком.
Ляжыш, маўчыш,
бы хто пакрыўдзіў,
І адзіноты лічыш дні,
І ўсё чакаеш: прыйдзе, прыйдзе
Той, самы лепшы, гарманіст.
Мяхі пявучыя разгорне,
Цябе прыладзіць як ямчэй.
І зерні слёз у самых гордых,
У мужных пацякуць з вачэй.
Вятры прыціхнуць штармавыя,
Зязюля змоўкне ў той жа міг,
Каб чулі гэту песню тыя,
Што спяць на могілках лясных.



Як хлапчук, на высокае дрэва залезу
І замоўкну, заціхну у мокрым галлі.
Пачынаецца песня світальнага лесу.
Пачынаецца песня світальнай зямлі.
Дуб дрымотны зялёнай трасе галавою.
У гушчар уцякае сляпая сава.
Промень сонца прабіўся лясною травою,
І прабілася промнем лясная трава.
Цішыня, цішыня на блакітных палянах,
Але сэрца наскрозь праціпае ізноў
І трывожны пагляд партызанскіх зямлянак
І гаркавы дымок партызанскіх кастроў.
І плывуць туманы, як сівыя ільдзіны,
Сярод цёмных бароў, сярод светлых гаёў.
Гэта — наша зямля, гэта — наша Радзіма,
Наша першая радасць і наша любоў.
Чуйна слухаюць неба бярозаў радары.
І вастрэй адчуваю ля вечных крыніц:
Колькі часу прайшло, як пярун тут ударыў,
А зямлі і дагэтуль нясцерпна баліць.

## ЛЮДЗІ З ДАВАЕННЫХ ФОТАКАРТАК

Залаты, няўлоўны і упарты,
Промень сонца тлее на сцяне.
Людзі з даваенных фотакартак
Пазіраюць проста на мяне.
Іх любоў і вера іх са мною
І агонь вачэй, які не згас.
І усё ж вайною, як сцяною,

Час няўмольны падзяляе нас.
Колькі адзвінела гордых сэрцаў!
Колькі зарасло травой дарог!
Мне б знайсці у той сцяне акенца,
Зблізку б глянуць мне, а не здалёк.
Бачыць, як аруць і жнуць у полі —
Аж гарыць на тварах шчодры пот,
Як вядуць цераз Паўночны полюс
Шэранню аброслы самалёт.
Гарады будуюць і плаціны,
Вараць сталь,
плывуць сярод ільдоў.
Там яшчэ патрэбна толькі ў ціры
Трапнасць варашылаўскіх стралкоў.
Мне б адчуць, як там,
дзе росы чэзнуць,
Птушанят рыхтуючы ў палёт,
Набірае сілу хмельны чэрвень,
Спеліць травы сорак першы год.

## ПАТРОНЫ,
## ЗНОЙДЗЕНЫЯ Ў ЛЕСЕ

Ішоў я сцежкай баравой,
Збіваў з кустоў расу густую,
Ды, нечакана, пад травой
Трывожна бліснула латунню.

Патроны! Колькі доўгіх год
Ужо прайшло з часіны бою.
Травой прабіла навылёт
Зусім іржавыя абоймы.

Руплівы дзяцел сук дзяўбе,
Бы кулямёт грукоча страсны.
І я ўяўляюся сабе
Падносчыкам боепрыпасаў.

І зараз у маім жыцці
Адна задача, мэта, справа —
Дайсці мне трэба, дапаўзці
Туды, дзе льецца кроў на травы.

Спазніцца нельга мне ніяк,
Бо партызаны там канаюць.
Ды ціха ўсё... Як жоўты лак,
Блішчыць смала...
Сасна ўздыхае...

І хіліць голаў да зямлі
Адной суровай думкі сіла:
Патроны гэтыя згнілі,
А іх у бітве не хапіла.

* * *

Не, не забыць той снег суровы
І маразоў, што лютавалі...
Удовы ехалі у дровы,
Сякеры ў лесе пагублялі.

А ў лес сабраўшыся, ў дадатак
Забыліся яны пра пілы.
Пасталі сумна, вінавата
І ціхенька загаласілі.

Ішло наўсцяж скупое рэха.
Лес камянеў жалобай тою.
Ды дроў ніколі не нарэзаць
Слязой, хоць нават залатою.

Стаялі, ўцехі слоў не чулі.
Былі зусім не вінаваты,
Што іх мужы навек заснулі —
У сорак першым, сорак пятым.

І я маліў: «Пашлі ім, лесе,
Не, не жыццёвае удачы,
А хоць галля, дамоў завезці,
А хоць ялóвага ламачча».

* * *

Сярод стоенай восеньскай слоты,
Там, дзе дождж пералескі дзяўбе,
Правяраю сябе адзінотай,
Правяраю маўчаннем сябе.

Стань мне, восень,
і шчасцем і болем,
Мае крыўды, як лісце, спалі.
Перапоўнена сэрца любоўю
Да маўклівай і мудрай зямлі.
Гавару я ледзь чутна: «Дабрыдзень» —
І аблокам і холаду рэк.
Ад яе па чарзе мы адыдзем,
А яна застанецца навек.
Будзе дуб узнімацца зялёны.
Як жалеза, яго карані,

Будуць пасвіцца вольныя коні
У празрыстай начной цішыні.
Нам здаралася плакаць і падаць.
Але веру — ад нас на зямлі
Застануцца і песня і памяць
Шчодрым зернем у шчодрай раллі.

* * *

Крыніцы... Сасновыя хаты...
Па гэтай цярплівай зямлі
Цярплівыя людзі — салдаты —
На ўсход і на захад ішлі.

Яна ж, лугавая, лясная,
У росах, у шолаху траў,
Кавалкам была каравая,
Кавалкам, што з краю ляжаў.

Хай вецер раскажа барвовы,
Як тлелі наўкол вугалі,
Як тут галасілі удовы,
Як дзеці за плугам ішлі...

Цярпліва загойвае раны,
У горы не плача — пяе.
І мякка у ложках пясчаных
Усім, хто сканаў за яе.



Там, у сініх лугах, зноў цвіце
несмяротная лотаць,
І кажан праплывае,
як прывід начны, над зямлёй.
Там, на вільчыку хаты,
драўляны гудзе самалёцік,
Змайстраваны калісьці маёю дзіцячай рукой.
Там, на ціхай зямлі,
ты прысніліся мне, зямля ўся,
Там убачыў свой твар я
ў праменнай крынічнай вадзе.
Я адтуль паляцеў.
Толькі мой самалёцік застаўся.
Дзень і ноч ён гудзе.
Аб дзяцінстве далёкім гудзе.

## НА СТАРАДАЎНІМ ГАРАДЗІШЧЫ

Аблокаў белае руно...
Дажджы... Вясновых зор пажары...
У гэтай цішыні даўно
Ні меч, ні плуг не гаспадарыў.
Дык вось яно, жытло славян...
Пясок... Алешына крывая...
Расой абсыпаны дзірван
Вякі мінулыя хавае.
Плыве туман з усіх бакоў.
І гарадзішча, нібы востраў.

Вось тут у полымі вякоў
Згарэлі людзі, як бяроста.
Вось тут гучаў іх звонкі смех.
Вось тут, дзе я стаю, калісьці
Малы хлапчук у поле бег,
Каб сонцу шчасцем пахваліцца.
Ён у душы сваёй бярог
Зямлю і лесу шум зялёны.
Сляды імклівых босых ног,
Здаецца, бачу я і сёння.
А на маўклівую траву
Ї вёсны падаюць і зімы.
Схіляю нізка галаву
Перад спакоем прарадзімы.

* * *

А мой шлях — з варагаў у грэкі.
Я бацькоўскую хату пакінуў.
І нясуць мяне ціхія рэкі
Па дрымотнай зямлі успамінаў.
У гарачым пяску па калена
Валаку я волакам човен.
Ты махні мне рукой, Алена,
Ты не стой у трывозе чорнай.
Ты павер мне, павер, Алена,—
Я не кінуў цябе б ніколі.
Ды славянская кроў заалела
У шырокім зялёным полі.
Там грымяць мячы аб шаломы,
Там шалёныя коні скачуць.
Калі я не вярнуся дадому,

Аба мне хай доўга не плачуць.
О, як спіць васілёк у жыце!
О, як неба хмурынкі цэдзіць!
О, як трапна ліхі чужынец
Проста ў сэрца стралой мне цэліць.
Упаду, паплыву у вечнасць,
На круты курган узбяруся,
Пасаджу на кургане кветку,
Назаву яе Белай Руссю.

* * *

Знясілею, стамлюся, упаду,
Зноў паднімуся і пайду скрозь беды.
Не ў дальні край за песнямі паеду —
У родным лузе песні я знайду.
Яны бяссмертныя, як мой народ.
У іх агонь і пошчак салаўіны.
Іх, як алмазы,
трэба выбраць з гліны,
Якой іх засыпалі столькі год.

* * *

Халодную ноччу бяссоннай,
Калі увесь свет анямеў,
У цёмным і дрогкім вагоне
Я ехаў насустрач зіме.

Рассунуўшы снежныя хмары,
Душы падарыўшы спакой,
Плыў месяц,
як жоўты ліхтарык,
Запалены над зямлёй.

Было і нязвыкла і дзіўна
Сядзець, не зламанаму сном,
Глядзець, як начная радзіма
Плыве за вагонным акном.

Драмалі ў туманнай чарнечы
І снег,
і лядок на вадзе.
І толькі дрыготкі агеньчык
Зазыўна мігцеў дзе-нідзе.

Драмала маўклівае поле,
Не віўся над вёскамі дым.
Хацелася быць мне, да болю,
І вёсак і ніў вартавым.

Каб светла і сцішана спалі
І ў зімнія халады,
Ніякай трывогі не зналі,
Не зналі ніякай бяды.

І трэція доўгія суткі
Крычаў паравозны гудок.
Пастуквалі колы. Насупраць
Сядзеў барадаты дзядок.

Сядзеў у паўзмроку вагона,
Ківаў галавою у сне,
Як быццам адвешваў паклоны
Радзімай сваёй старане.



Зямлю не Буда збудаваў,
І не Хрыстос Зямлі даў крылы.
Сярод маўклівых дрэў і траў
Гляджу на ціхія магілы.
Тут спяць ратаі і ткачы,
Салдаты пасля жорсткай бітвы,
Тут спяць паэты, што ўначы
Шапталі вершы, як малітвы.
Яны бясконцыя вякі
Зямлю для шчасця рыхтавалі,
Яны абпальвалі гаршкі
І сэрцы ў бітвах гартавалі.
Змагаліся — не проста так
У глыбіню вякоў глядзелі.
Зямля стаіць на трох кітах —
Любві іх, Веры і Надзеі.

## ЭЦЮД

Хто ён — неандэрталец?
Горды нашчадак багоў?
Якою маўклівацю тайнай
Сцяты вусны яго?
Стаіць знямоглы, знямелы
Над пенай грымучых рэк,
Суровы, як век каменны,
Глухі, як каменны век.
Трывогай пружыніцца цела.
Засмоктвае ногі пясок.

А ўперадзе толькі цемра
І крыкі сярдзітых соў.
Ды мара кветкаю крохкай
У сэрцы яго расцвіла.
О веліч першага кроку
З ночы сляпой да святла!
Будзе Сусвет бясконцы,
Яснага розуму культ,
Будзе неба і сонца,
Будзе ўсё, а пакуль —
Лес уздыхае глуха.
Маланкі трапеча агонь.
Дагістарычная муха
Пякуча садзіцца на скронь.

## РАДЗІМЕ

Ты пачыналася ў лясах,
Дрымучых, неабдымных.
Ты пачыналася ў слязах
І ў песнях салаўіных.
Ішла пастушкай па раллі,
Была жняёй у полі,
І ў час пакут цябе вялі
У полымя сляпое.
Радзіма, дай з табой пабыць,
Бо я ішоў здалёку.
Радзіма, дай усмак папіць
Бярозавага соку.
Спляліся у вянок адзін
І колеры і гукі.
Стаю, маўчу, бяру з галін
Лісточак — сонца ў рукі.

* * *

Такая ўжо вякоў прыкмета:
Пакуль жыцця віецца ніць,
Адзін другому людзі месца
Заўжды павінны саступіць.
І саступаюць, саступаюць,
Куды б шляхі іх ні вялі,
Малодшы — месца у трамваі,
Старэйшы — месца на Зямлі.

* * *

Няма ўжо тых падзей
І тых дзяржаў таксама.
Няма ні тых людзей,
Ні галавешак храма.
Ды ўсё гарыць пажар,
Упарта і зацята.
...Нібы плявок у твар —
Бяссмерце Герастрата.

## СПАРТАК

Яго мячамі пасекла
Шалёных ворагаў зграя.
Яшчэ не было пекла.
Яшчэ не было раю.

На захад ішлі аблокі.
І ў дзень той, глухі і шэры,
Было да свабоды далёка,
Далей, чым да новай эры.
У сечы злой,
рукапашнай
Упаў ён на дол зялёны.
Смяяліся хрыпла і страшна
Рымскія легіёны.
Ляжаў ён, мужны і горды,
Сцяўшы крывавыя зубы.
Са смерцю прыйшла свабода,
Таемная, як Везувій.
Скончыліся прынукі,
Смерць —
за свабоду плата.
Болей не пырскне на рукі
Кроў гладыятара-брата.
Змоўкне водгулле бою.
І шчасце,
што ён не ўбачыць,
Як кінуць слабыя зброю,
Зноў у ярме заплачуць.
Колькі яшчэ пакаленняў
Жыць без святла, без хлеба?
Стануць рабы на калені,
Глянуць рабы на неба.
І над зямлёй панясецца
Дрымотных вякоў лавіна.
...Спартак паміраў. У сэрцах
Сплятаў Хрыстос павуціну.

## ЛЮДЗІ І КАСТРЫ

*Чалавек-попел*

Агонь разгараўся паволі,
Шыпеў крыважэрным зверам.
Згарала жалезная воля.
Згарала крыштальная вера.

Агонь цалаваў у вусны,
Агонь заглядваў у вочы.
Сваім крылом раўнадушным
Не раз ахінаў і не двойчы.

І ў гэтых пякельных абдымках,
У гэтым вогненным храме
Рабіліся людзі дымам,
Рабіліся людзі кастрамі.

Помні, Зямля, помні,
Помні, пакуль не знямела,
Страшную еднасць полымя
І чалавечага цела.

Юдавы слёзы не ліце
Вы, што ў агонь барвовы,
Спальваючы вялікіх,
Сухія падкідвалі дровы.

Прыміце праклёну словы
І недзе без лішніх сведак
Рыхтуйце для геніяў новых
Новую плошчу Кветак.

Толькі ў агні не ўтопіш
На светлую веру права,

Бо застаецца попел,
Бо застаецца праўда.

Гора не спыніш плачам,
Доля бяскрылых — плакаць.
...Іду скрозь попел і бачу —
Стаіць чалавек-факел.

### *Чалавек-факел*

Ён перад полымем бурым,
Што нават жалеза трушчыць,
Ахвяра з касцей і скуры,
Ахвяра з бялкоў і тлушчу.

Што яго светлы розум?
Што яго мудрыя рукі?
Ён перад полымем грозным
Матэрыял гаручы.

Сыплюцца іскры градам.
І у агні нядрэмным
Ён, нібы дрэва, згарае,
Нават хутчэй, чым дрэва.

Пакут чалавечых манбланы,
Якою вас змерыць мерай?
Стаіць чалавек скатаваны
І ўсё-ткі у Сонца верыць.

Ён верыць у пах жывіцы,
У шлях свой, прамы і ясны.
Колькі было інквізіцый,
А чалавек застаўся.

Колькі было засценкаў,
Колькі было цемрашалаў,

Якая жуда нясцерпна
Над соннай зямлёй ляжала!

А ён уставаў Праметэем,
Распроствай сагнутыя плечы,
А ён у знявечаным целе
Насіў агонь чалавечы.

Ішоў прамы і нязломны
І падаў, свой гімн не дапеўшы,
Бо той, хто першы ў калоне,
Смерць сустракае першы.

Але пакрочаць удалеч
Новыя пакаленні.
Яны — акіянскія хвалі,
Касмічных ракет ступені.

Згарэў чалавек заўчасна,
Паплыў вадою па рэках,
Расцвіў лугавою краскай
І стаў чалавекам-рэхам.

*Чалавек-рэха*

Рэха трывожыць, рэха,
Душы людскія, сэрцы.
Нібы цягнік па рэйках,
Час няспынна нясецца.

Рэха трывожыць, рэха.
Коласам звоніць жытнім.
Стануць аднойчы рэхам
І нашы з табою жыцці.

І паляцім над зямлёю,
Над попелам і над чадам,

Каб не даваць спакою
Сваім далёкім нашчадкам.

Станем званоў меддзю,
Полымем рэвалюцый.
Веру, што зразумеюць,
Веру, што адгукнуцца.

Веру, бо з намі побач,—
І іх нічым не закрэсліць,—
І чалавек-факел,
І чалавек-попел,
І чалавек-рэха.

Пад небам грымотным і грозным
Мы і нашы дзеці —
Рэха балтыйскіх матросаў,
Рэха чырвонагвардзейцаў.

След змагароў не сатрэцца.
Мы далей іх шлях праторым.
У гаванях нашых сэрцаў
Кінула якар «Аўрора».

* * *

Быў светлы дзень. І быў пачатак.
Быў промень сонечны ў акне.
І недзе ўжо па трэцяй чарцы
Узялі суседзі за мяне.

Але Зямля была цвярозай.
Спакойны быў яе пагляд,

Бо у яе жывых баразнах
Гуло жыццё другіх зярнят.

Яна знайшла ўжо з той мінуты
Сярод палеткаў і крыніц
І цвёрды камень — спатыкнуцца,
І лекі — рану загаіць.

* * *

*Брату Аляксандру*

Маленства пачынаецца з суніц,
Якіх у ціхім летнім лесе процьма.
Яны гараць, як зорачкі, і просяць:
— Зірні пад ногі...
Нас не абміні...
Ты ягады збіраеш у гладыш.
Чырвоны сок абпырскаў рукі, губы.
Ідзеш далей. І вось ужо ля дуба
У светлым задуменні ты стаіш.
Падняўся ў неба пушчы уладар.
Стаіць над светлай вечнаю крыніцай,
Стаіць, шуміць, нікога не баіцца:
Ні ветру, ні маланак і ні хмар.
Ты дзівішся:
— Вось гэта дык галлё...
Вось гэта ствол...
Куды там хвоям розным...
І з сонечнае веры ў бессмяротнасць
Маленства пачынаецца тваё.



Нібы птушкі, ўсе людзі.
Кожны з песняй сваёй.
І у кожнага будзе
Развітанне з зямлёй.
Прыйдзе прыцемак першы,
І над холадам рэк
Лебядзіную песню
Запяе чалавек.
Паплыве тая песня
Па блакітнай вадзе.
Звонкім жолудам песня
У траву упадзе.
Упадзе, затрапеча,
Змрок асвеціць густы.
Адкажы, чалавеча,
Што за птушка быў ты?
Мо ты сокалам лётаў?
Мо быў сумным драчом?
Мо на слабых употай
Нападаў крумкачом?..



Тады, калі не стане нас,
Калі патухнуць зоры,
Калі значэнне страцяць Час,
Матэрыя, Прастора,
Калі у глыбіні лясоў
І смех і плач растане,
Узыдзе ціха кветка-сон
На сонечнай паляне.

І будзе там звінець пчала,
Няўлоўна і няясна.
І будзе песня, што прайшла,
Але ў душы не згасла.

## ВЯСНА

Вясна змывае з шэрых вуліц смецце,
Зганяе снег і лёд з пустых лугоў.
Вясною можна верыць у бяссмерце
І можна нават не жадаць яго.
Надыдзе дзень, калі мяне не будзе,
Ды я вітаю майскае святло.
Мяне ж, хоць быў і дождж,
і гром, і людзі,
Ўжо раз, да нараджэння, не было.

* * *

Жыву, чакаю халадоў.
А сонца свеціць так высока.
І так далёка,
так далёка
Да замаразкаў і снягоў.
Пясок абпаліць — толькі ляж.
Ажно кіпіць вада ў купальні.
Халодны снег,
як нерэальнасць,
Як неіснуючы міраж.

Няма канца спякотным дням.
Красуе лета залатое.
Ды ўсе мы ведаем пра тое,
Пра што не трэба ведаць нам.
Мы ведаем,
                    што прыйдзе час,
І краска летняя завяне,
У вокны цёмны вечар гляне,
Сухім сняжком абсыпле нас.
Так, многае прадбачым мы.
Магчыма, гэта падрыхтоўка,
Душы і сэрца загартоўка
Перад няўмольнасцю зімы.
А сонца свеціць зноў і зноў.
Свой твар я сонцу падстаўляю,
Іду у луг, вянкі сплятаю.
Жыву. Чакаю халадоў.

* * *

Трэба многае ў душы узважыць,
Каб адолець паварот круты
І затым, рашуча і адважна,
За сабой спаліць усе масты.
Новы крок. Ён повен новай рызыкі.
Што нясе ён? Шчасце ці бяду?
Чалавек не конь кавалерыйскі,
Не перакуецца на хаду.
Чалавеку трэба хоць імгненне,
Каб дыханне вечнасці адчуць,
Каб схіліць перад былым калені
І у вочы новаму зірнуць.



Перастулаю Рубікон,
Дрыжу і ўсё ж пераступаю.
Нібы шалёны белы конь,
Нясецца воблака над гаем.

Мне трэба толькі крок зрабіць
Да той травы, густой і светлай,
Да той расінкі, што дрыжыць
На ціхіх вейках дзікай кветкі.

Бывай, мой дом! Бывай, мой верш!
Бывай, душы маёй свабода!
Я паднімаю рукі ўверх —
Бяры ў палон мяне, прырода.

## ЧАЙКІ

Галосяць чайкі зноў і зноў,
І людзі мудрыя гавораць,
Што плачуць душы маракоў,
Якія стрэлі смерць у моры.
Ці верыць гэтаму, ці не?
Ды ў шуме хваль, пад небам шэрым
Якое сэрца не кране
Самотных чаек галашэнне?
Яны ляцяць за небасхіл
І да вады з вышынь ныраюць.
Ім быццам не хапае сіл,
Паветра быццам не хапае.

З адчайнай гарыччу, з тугой
Іх крык разносіцца ахрыплы.
Яны між небам і вадой,
Як паміж Сцылай і Харыбдай.

## СЁМЫ МАЦЯРЫК

Туман далёкіх галасоў.
І бераг незнаёмы.
На свеце шэсць мацерыкоў,
А я шукаю сёмы.
Прабач, прабач мне, Магелан,
За гэтую адвагу.
Выходжу ў грозны акіян
Пад светлай мары сцягам.
Наўкола чаек сумны крык.
У хвалях дзень згарае.
Ляжыць мой сёмы мацярык
За сінім небакраем.
І трэба сэрца запаліць
Надзеяй маладою.
І трэба рукі прасаліць
Грымучаю вадою.
І я плыву, і я плыву,
І я плыву і веру,
Што ўбачу цёплую траву,
Зялёны ўбачу бераг.
Глыбокі сон змарыў акул,
І хваля спіць марская,
А я свайму мацерыку
Усю ноч імя шукаю.



Я цвёрда ведаю адно:
І ў чэрствых сэрцах ёсць любоў,
Бы скарб у трумах караблёў,
Што некалі пайшлі на дно.
Ды сэрцы гэтыя маўчаць,
Хоць не патухлі назусім.
Нялёгка ім, няпроста ім
Жыццё на новы лад пачаць.
Дзе ж той адважны вадалаз,
Што змрок бяздоння расхіне,
І адшукае скарб на дне,
І прынясе яго да нас?

## БАЛОТА

Гнілая багна... Холад забыцця...
І адчуванне — замарудзь на хвілю,
І выскачыць сабака Баскервіляў
З таемнага трывожнага трысця.
Усё зялёнай цвіллю зарасло.
Усюды раўнадушша і лянота.
...У роздуме гляджу я на балота:
Яно калісьці возерам было.



Маленькія людзі — цені вялікіх людзей.
Маленькія мары — цені вялікіх надзей.
Чаму не маглі да вяршыняў яны дарасці?
Чаго не хапіла, маленькім ім, у жыцці?
Магчыма — удачы,
што ў рукі сініцай ляціць,
Магчыма — надзеі,
што любай жанчынай глядзіць,
Магчыма — натхнення, што ззяе,
як плуг на сяўбе.
Ды болей за ўсё не хапіла ім веры ў сябе.



Фатаграфуюцца ля помніка...
Стаяць з усмешкай зухаватай
Турысты, шумныя паломнікі,
На фоне бронзавых салдатаў.
Фатаграфуюцца ля помніка...
Стаяць і думаюць цвяроза
Пра прыгажосць уласных позіркаў,
Пра прыгажосць уласнай позы.
А побач травы пахнуць порахам.
А побач кветкі і магілы.
...Стаяць ля помніка, як помнікі
Душы халоднай і бяскрылай.

* * *

Будзь мужнай, песня, зор абранніца.
Сярод бяды, сярод хвалы
Яшчэ не раз душа параніцца
Аб крыўдны смех, аб погляд злы.

Яшчэ не раз цябе, праменную,
Вадой халоднай абальюць —
Ты ж не на дробязі разменьвацца
Прыйшла на гэтую зямлю.

Ты мне старонкай роднай дадзена.
Ты — мая маці, я — твой сын.
Бы ў зерне, у цябе закладзены
І будучыня, і ўспамін.

* * *

Калі ад смутку
Душа счарнее,
Як птушка Фенікс,
Устань, надзея.
Распраствай крылы,
Ляці высока
Туды, дзе ў згодзе
Жывуць аблокі.
Не трэба ў небе
Шляхоў мне гладкіх.
Рукой мне трэба
Крануць маланку.
Калі не ўскрыкну,

Не апякуся,
З гарачым сэрцам
Дамоў вярнуся.
І будзе верш мой
Служыць Айчыне.
І не астыне.
І не загіне.

* * *

Я заклінаю: будзь здароў,
Мой верш, мой дух зямны і добры,
Ты забіраў мяне надоўга
І ад віна і ад сяброў.
Па цёмных вуліцах вадзіў,
Дзе ліхтары былі, як зоры.
Ты слоў гарачых метэоры
У ціхім сэрцы запаліў.
А гэта быў дзівосны сон!
Вякі са мною размаўлялі.
Мне птушкі крыламі махалі,
І сок цадзіў маўклівы клён.
І я баяўся ўсё часцей,
Што стану зоркай альбо птушкай
Ці ўспыхну так, што не патушыць
Мяне ніхто з усіх людзей.
Я шум аблокаў чуў здаля,
Мне біў у грудзі вецер пругкі,
І доўга трапяталі рукі,
Нібыта крылы жураўля.

* * *

Зайграй, беларуская ліра,
Пра край лугавы і лясны,
Хоць струны табе апаліла
Полымя чорнай вайны.

Чуеш — равуць саксафоны,
Джаз, бы галодны, завыў.
Ты ж нам зайграй пра Лявона,
Што чаравічкі купіў.

Зайграй пра яго нявесту.
...Часам да слёз не стае
Чуць у наймодным аркестры
Звонкі абцасік яе.

* * *

Запомні ў шчасці альбо ў горы,
Сярод вясны, сярод зімы,
Што выраслі з табою мы
Не ў беспаветранай прасторы.
Што тым, да нас, было цяжэй,
Ноч за вякі была даўжэй.
Плячом к плячу, рука ў руку
Яны ішлі па цаліку.
Іх вецер снегам засыпаў,
І нехта ў снезе замярзаў.
Быў лёд на шчоках, як кара́.
... Успомні іх каля кастра.

## ЧАЛАВЕК

Хачу зірнуць у рэчаў глыбіню,
Хачу каля глухой лясной крыніцы,
Нібы паганец,
 добраму агню,
Зямлі, вадзе і небу пакланіцца.

Я сто вякоў ішоў сюды з пячор
Скрозь дождж і снег,
 скрозь холад неаліту.
І сядзе дзікі голуб на плячо,
І пырсне сок рабін крывёй пралітай.

* * *

Хто я такі? Я — лёд. І я — агонь.
З дуброў жыцця адзін-адзіны лісцік.
Я — хваля, круг ад каменя таго,
Што ў рэчку часу кінуты калісьці.

Хто я такі? Я сын зямлі, вады.
Я сын снягоў, дажджоў.
 Я сын маланак.
Пабудаваны мною гарады,
Пустыя стэпы мною узараны.

Няхай вякоў мартэнаўская печ
У шлак і попел сэрца пераплавіць.
Я — чалавек. Я вечна буду пець.
Нязгасны розум вечна буду славіць.

## УРАЛЬСКАЯ БАЛАДА

Ад марозу цягнік ахрып.
Кедр на ўзлеску, як белы грыб.
Белы снег. І чорны метал.
Дым над трубамі. Зімні Урал.
Бачу я пасярод халадоў
Ланцужок таропкіх слядоў.
Звонкі смех і халодны снег
Ты нясеш у мартэнаўскі цэх.
А наўкола шуміць тайга,
На паўсвету грыміць пурга.
Узышоўшы на п'едэстал,
Танк глядзіць на зімні Урал.
Сніцца танку ваенны год,
Скрозь пажары на захад паход.
Сніцца танку суровы бой
У лугах над Бярозай-ракой.
Хоць ні бітваў няма, ні атак —
Пазірае на захад танк.
І да тракаў навек прыраслі
Пыл і снег беларускай зямлі.

* * *

Мне не цярпелася ў жыцці,
Не спалася мне на канапе.
Мне ўсё хацелася прайсці
Гімнастам лоўкім па канаце.

О, гэта прага вышыні!
Рукой, здаецца, гладзіш хмары.

А ўнізе — жоўтыя агні,
Людзей напружаныя твары.

І хоць я мог тады зламаць,
З каната ўпаўшы, свае косці,
Мне ўсё хацелася здзіўляць
І абганяць заўжды кагосьці.

Ды вось мінуліся гады.
Я іншы стаў, я стаў вучоны.
Хапіў бяды, нібы вады,
Вады марской, горка-салёнай.

Дарэмна ўрокі не прайшлі,
І ў іншым бачу я адвагу —
Не на канаце — на зямлі
Трымаць патрэбна раўнавагу.

## АБЕД У ЗАВОДСКАЙ СТАЛОЎЦЫ

Абед у заводскай сталоўцы,
Шчэ гімны табе не прапеты.
Пішу чырвоным алоўкам
На самай белай паперы.
Пішу пра цябе удзячна,
Бо з дня стварэння Сусвету
Патрэбна каша швачкам,
Патрэбна каша паэтам.
О гэты ўрачысты момант!
Ніхто за сталом не лішні.

Рукі,
        трымаўшыя молат,
Бяруцца за хлеб і лыжкі,
Вось сталявар дасціпны
Хітрае вока жмурыць,
Вось у чырвонай хусцінцы
Сядзіць за сталом прыгажуня.
П'ю кампот з кавалямі.
А побач складна і дружна
Гамонка плыве над сталамі,
Нібы з-пад фрэзаў стружка.
Усмешак людскіх завея
Кружыць наўкол нязгасна.
Сяджу, гавару, здаравею
Разам з рабочым класам.
І добра мне ў тлумнай сталоўцы
Пад строгім заводскім небам
Адным саграваецца словам,
Адным харчавацца хлебам.

* * *

Выплываюць міражы
Пасярод крутой дарогі,
Пасярод сляпой трывогі,
Калі побач ні душы.
Возера з жывой вадой
Выплывае раптам зранку,
Нібы ў вёсцы з-за фіранкі
Твар дзяўчыны маладой.
Мы хапаем кацялкі,
Мы вады напіцца хочам.

Толькі весела рагочуць
Каракумскія пяскі.
І, здаецца, свет зачах.
І, здаецца, крок да згубы.
Будзь што будзе — сцяўшы зубы,
Мы ідзём па міражах.

## НАЧНЫЯ ТЭЛЕГРАМЫ

Іх адстуквае ноч:
«Прыязджайце... Хварэю... Мама».
Альбо гэтак: «Сумую... Кахаю...
Чакаю даўно...»
Іх адстуквае ноч.
І ляцяць над зямлёй тэлеграмы,
Каб трывожнаю птушкай у цёмнае стукнуць акно.
І не спіць чалавек.
І надзеяю свецяцца вочы.
Ён гатоў паімчацца за тысячу тысяч зямель.
Мне чамусьці здаецца,
што толькі глыбокаю ноччу
Тэлеграмы такія лягчэй чым калі зразумець.
Калі светлая памяць аб добрым і родным сатрэцца,
Калі вернасці поезд вось-вось паляціць пад адхон,
Іх адстуквае ноч,
і бяссонніца нечага сэрца
Урываецца ў наш і глухі і бясклопатны сон.

* * *

Пасля доўгай дарогі,
І пякучай нуды,
І балючай трывогі
Зноў прыйду я сюды.

Каля соннага дома
Лёгкі крок прыпыню.
Хай ні бурай, ні громам
Не ўзарве цішыню.

Хай шапоча сасоннік,
Ў лузе фыркае конь.
І няхай у патроннік
Не ўваходзіць патрон.

Аж пакуль не засвеціць
Зорка новага дня,
Тут, дзе спяць мае дзеці,
Хай жыве цішыня.

Я над сном іх, над ложкам,
Покуль поўнач праб'е,
Ўстану дрэвам трывожным,
Павартую яе.

## РАЗВІТАННЕ З КВЕТКАМІ

Там, дзе Вольса між лугоў сінее,
Дзе бруіцца светлай хваляй Друць,
Валасы мае адпалымнеюць,
Мае вочы ціха адцвітуць.

Што ж скажу я вам пры развітанні,
Рушыўшы у свой апошні шлях,
Кветкі ў лузе, ў лесе на паляне,
Кветкі ў полі, ў любай у руках?

Зноў гляджу, як вас калыша ветрык,
Зрок вы мой палоніце і слых.
Кветкі, кветкі, вы зямныя сведкі
Слёз маіх і радасцей маіх.

Вы вясною з сонечных узгоркаў
Дружны пачынаеце разбег,
Сінія, нібы начныя зоркі,
Белыя, нібы паўдзённы снег.

Я салдатам быў не на парадах,
Пыл дарог глытаў без трубачоў.
І калі ад жорсткай стомы падаў,
Кветкі падстаўлялі мне плячо.

На вучэннях ботамі цяжкімі
Я таптаў вас, кветкі, дзень пры дні,
Вы ж былі цярплівымі такімі,
Вы шапталі толькі: «Адпачні».

І ляжаў я, зліўшыся з зямлёю,
І у мроіве салдацкіх сноў
Адчуваў сябе тады пчалою
Пасярод бязмежнасці лугоў.

Адплыву, як воблака,— не плачце.
Хопіць іншых вам вясёлых спраў.
Вы за тое, кветкі, мне прабачце,
Што ў жыцці я часта вас таптаў.

* * *

Пяю, сціскаю кулакі,
Сяброў за стол склікаю
І ўсюды думаю: які,
Які нас лёс чакае?

Ці захаваем у душы
Святло юначых мараў,
Ці знікнем, нібы мурашы
У час лясных пажараў?

Змаганне... Холад забыцця...
Пяшчота майскіх ранкаў...
У чалавечага жыцця
Сто тысяч варыянтаў.

## ІДЗІ, МОЙ СЫН...

Ад спеваў бясконцых вятры ахрыплі,
Ноч сляпая, як крот.
Стаяць у пясках піраміды Егіпта.
Ззяе грэнландскі лёд.
Заснуў ты сном блакітным, дзіцячым,
Твой сон, як пошум лясны.
У снах маленькія хлопчыкі бачаць
Вечнае неба вясны.
Яшчэ зара твая зашугае,
Успыхне дзень не адзін,
А я ўжо загадзя паўтараю:
— Ідзі, мой сын, ідзі...
Ідзі, мой сын,

Усе мы калісьці
Пайшлі у далёкі шлях.
Бярозы дзяцінства махалі нам лісцем.
Трубілі ласі у барах.
Ідзі, мой сын, праз восень і лета,
Шукай дарогу сваю.
Ідзі, мой сын, мая эстафета,
Якую вам аддаю.
Ідзі, мой сын, без страху і стомы
Праз ноч і буры выццё.
Не будзь кватарантам у светлым доме,
Імя якому — жыццё.



Хоць на хвілю б мне вярнуць гады,
Калі быў мой бацька малады.
У бясконцым мроіве дарог
На яго мне б глянуць хоць здалёк.
Вось ідзе ён лугам веснавым.
Кнігаўкі маркоцяцца над ім.
І плывуць аблокі ў сіняве
Светлыя, як думкі ў галаве.
Льецца ў вочы майскае святло.
Першы трактар выйшаў за сяло.
Звоняць крыльцы соннага чмяля.
Пахне навальніцаю зямля.
Крочыць бацька па густой траве,
Шчаўе у світальным лузе рве.
І яшчэ зусім не знае той,
Што павінна маці стаць маёй.

* * *

Ён лічыўся дзедам бывалым.
Звонкі голас. Чысты пагляд.
Да Сібіры дайшоў па шпалах
І па шпалах вярнуўся назад.
Колькі світак знасіў,
                    колькі ботаў.
Пад якім дажджом ні калеў.
Ён здаваўся нам ледзь не богам,
Што ўсё ведаў і ўсё разумеў.
Ён выходзіў, садзіўся на ганак,
Гаварыў, сабраўшы дзяцей:
— Ну й жыццё пайшло...
                    Люба глянуць!
Год бы трыццаць скінуць з плячэй.
Быў вясёлы.
            Ды ў дзень свой апошні,
Калі дождж за сцянойляскатаў,
Ён ляжаў на шырокім ложку,
Хмурыў бровы сівыя, маўчаў.
Толькі раз прамовіў сумотна,
Бы ў сваёй прызнаваўся віне:
— У самалёце я, ўнучкі, не лётаў...
У самалёце палётаць бы мне...

* * *

Калі прыйшлі жыцця яго дажынкі
І сталі ў рад гады, нібы снапы,
Пайшоў ён полем, вузенькай сцяжынкай.
І сам ён быў, як колас залаты.

Па вёсцы жонка бегала ў трывозе:
— Прапаў стары. Прапаў.
А божа ж мой...
А ён сядзеў у полі, пры дарозе.
Маўчаў.
Курыў.
Развітваўся з зямлёй.

* * *

Лісцем з восеньскіх галінаў
Асыпаюцца гады.
О, мой поўдзень хуткаплынны,
Лістапад мой залаты!

Як сканаю, хто заплача?
Хто мяне пад шум бяроз
Апячэ слязой гарачай
Пасярод халодных слёз?

## РОЗДУМ

Цёплай срэбнаю расой
Дождж дубам абсыпаў плечы.
Тлее вечар над зямлёй,
Залаты, недаўгавечны.
Воблакаў цямнее медзь.

Шпак крыло пад ветрам выгнуў.
...Ці змагу я зразумець,
Ці змагу душой спасцігнуць
Гул раз'юшаных стыхій,
Шум лясоў, густы і важкі,
Караванныя шляхі
Чалавека і мурашкі?

* * *

Вячэрні час... Да ночы шчэ далёка.
Шуміць пад ветрам голы, мокры сад.
Плывуць чырвоныя і сінія аблокі,
Як сто, як тысячу гадоў назад.
Стаю адзін пад гэтай вечнай плынню,
Свайго юнацтва ўспамінаю дні.
І нада мной нябесная пустыня
Халодных зор запальвае агні.

* * *

А першы снег — раптоўны, як каханне.
Праменны, чысты, свежы, малады,
Ён упадзе, счарнее і растане,
Ды толькі будзе помніцца заўжды.
Рыдлёўкай дворнік прагрыміць суровы.
І зноў вада закапае са стрэх.
А ноччу ў сон мой ціха ўвойдуць словы,
Што ты шапнула мне у першы снег.



Гром трамвая... Дамоў паверхі...
Шэрай траўкі кусцік малы...
У пранізаным сонцам паветры
Рытуальны танец пчалы.
Дзе духмяных кветак спакуса?
Пыльны горад устаў, як скала.
Пэўна, збілася пчолка з курсу,
Хоць разведчыцаю была.
Шумны двор — не пчаліны вулей,
І ў каменным палоне яна
То пагрозліва дзынкне, як куля,
То жалосна звініць, як струна.



Як мокрая птушка, праз поле, праз сад
Задумлівы дождж прыляцеў к нашай хаце.
Я кінуў бы птушцы хоць жменьку зярнят,
Ды толькі не вырасціў я ні зярняці.
А птушка халодную шыбу дзяўбе.
Вось-вось гэта шыба расколецца,
трэсне.
О птушка, аддаў бы я песню табе,
Ды толькі не склаў яшчэ добрую песню.
І роздум прыходзіць сярод цішыні:
Як многа яшчэ да вясны і да шчасця.
І ўдалеч ляцяць незваротныя дні.
І трэба спяшацца, і трэба спяшацца.



А ёсць вышыні невысокія,
Ёсць далячыні недалёкія,
Ёсць дні да крыўднага звычайныя:
Кіпіць вада ў шчарбатым чайніку...
І на рабоце штось не ладзіцца...
І за сцяной суседка лаецца...
І хоць бы кропля гераічнага.
Ты сам сабе здаешся znічкаю
Ў будзённым небе рачаіснасці.
І ціхім сумам сэрца сціснута.
Ты лёс пытаеш з горкім выклікам:
А дзе ж святое? Дзе ж вялікае?
Але глядзі, глядзі уважлівей —
Вось ломіць лёд рака адважная...
Трава пад снегам прачынаецца,
Камета ў небе разгараецца...
Так на шляхах жыцця пратораных
Усё і сцішана і стоена,
Але прыходзіць дзень з маланкаю,
З грымучых хваляў ліхаманкаю,
І ён гаворыць людзям весела:
— Рыхтуйце сэрцы, нібы ветразі!

## ВЯЧЭРНІ САМАЛЁТ

*Хведару Чэрню*

За мітуснёй, за гоманам,
За дробяззю турбот
Убач, убач над горадам
Вячэрні самалёт.

Над спешкай непатрэбнаю,
Над тлумнаю зямлёй
Плыве ён птушкай срэбнаю
І рыбкай залатой.
На горад змрок спускаецца,
Касцёр зары датлеў,
А ён яшчэ купаецца
У сонечным святле.
Адтуль, з вышыняў ярасных,
Хоць скрозь гусцее ноч,
Ён бачыць сонца яркае,
Што людзям не відно.
Маленькі над вялікаю
Планетаю людзей
Ляціць ён гордым выклікам
І змроку і бядзе.
Ідзеш, ад думак згорбішся,
Ды ў сэрца, нібы шрот —
Плыве, плыве над горадам
Вячэрні самалёт!
Ён ззяе сонца чырванню,
Ты на яго зірні —
І зноў душа адчынена
Для зор і цішыні.

* * *

Лясны спакой.
                    Ні голасу, ні рэха.
Густы туман спаўзае па траве.
Згарае ноч, бы тая цыгарэта,
Схаваная ў салдацкім рукаве.

Даўно лясы дрымучыя заснулі.
І тчэцца ў небе светлы зорны шлях.
Мы ў дваццаць год стаім у каравуле.
Блішчыць раса на нашых шынялях.
Нам дваццаць год.
І ўсё наўкол празрыста.
Рухома ўсё і зменліва, як дым.
І сумны драч, начных лугоў транзістар,
Крычыць аб нечым даўнім,
аб сваім.
Над галавой трывожных лісцяў вырай,
Далёкіх зор халодныя агні.
У дваццаць год стаім мы вартавымі
На рубяжы світальнай цішыні.
Нам так стаяць ужо другое лета,
Нам на пасты у золь начэй ісці
І цвёрда ведаць,
што хвіліна гэта
Яшчэ не раз успомніцца ў жыцці —
Патронаў звон, адрывісты і крохкі.
Халодны штык.
Пагоны старшыны.
Над цёмным лесам белыя аблокі,
Бы душы тых,
што не прыйшлі з вайны.

## ІДУЦЬ САЛДАТЫ

Быў гром, як буйвал вастрарогі,
Блішчаў з-за хмар маланкі нож,
Ды сціхла ўсё. І па дарозе
Ідуць салдаты басанож.

Гарыць блакіт, вясновы, чысты.
Вясёлка ў небе, як салют.
Ідуць салдаты, смеючыся
І парушаючы статут.

Ідуць па лузе, не па пляцы.
Каманды не чутно: «Раз! Два!»
Ідуць салдаты. І між пальцаў
Пралазіць мокрая трава.

Ах, як і весела і добра,
Нібыта ўпершыню ў жыцці,
Ім, васемнаццацігадовым,
Па цёплых лужынах ісці.

Сляпой бядой, свінцовым ліўнем
Не абпякала іх вайна.
Дазволь жа ім шчэ хоць хвілінку
Прайсці вось гэтак, старшына.

Не бой грыміць — дзятлы у лесе.
Не чорны дым — туман плыве.
Не па агні, не па жалезе —
Ідуць салдаты па траве.

* * *

Сярод слоў, як сярод лясоў,
Як сярод шумлівых дуброваў,
Заўважаю я зноў і зноў
Адзіноту пяшчотнага слова.

Слоў суровых узводзім муры,
Слоў калючых адточваем шпагі.
На пяшчотнае ж слова, сябры,
Не заўжды нам хапае адвагі.

Быццам кветкі для нас не цвілі
І буслы крылом не махалі.
Быццам мы на вясновай зямлі
Не спявалі і не кахалі.

Дай мне, сэрца, каб вершваяваў,
Але й там, у пярэднім атрадзе,
Пра каханне любай казаў
І дзіця па галоўцы гладзіў.

## МАСТАК

*Івану Ласкову*

Ён славу поўным кубкам піў.
Яго яе ўздымалі крылы.
Ды слава — штó? Цукровы пыл,
Якім душу пасаладзілі.
Аднойчы ён прыйшоў сюды,
Дзе пад гармідар вераб'іны
Над чорнай прорваю вады
Трымцяць чырвоныя рабіны.
Журботных птушак галасы
Згасалі ціха над палямі.
І побач плакалі лясы
Незразумелымі слязамі.

З нябёсаў па ствалах рабін
Сцякала ззянне залатое,
І ўсё, што ён раней рабіў,
Было зусім, зусім не тое.
Тут, сустракаючы зіму,
Была ў сябе прырода дома,
Непадуладная яму,
Непадуладная нікому.
Яе, хоць локаць укусі,
Не падмяніць бліскучым лакам.
...І ў мастака хапіла сіл
Зламаць свой пэндзаль і заплакаць.

* * *

Раскрыўся лес зялёным парасонам.
Па лісцях дрэў маўклівых
уначы
Лапоча дождж, задумлівы і сонны,
Нібыта хоча іх пералічыць.
У тым дажджы і радасць, і трывога,
І светлы сум, і роздум маладзы.
І бачыцца мне мокрая дарога,
Начное неба, поўнае вады.
І бачыцца мне горад салаўіны:
Халодным срэбрам плачуць правады.
Жыве ў далёкім горадзе дзяўчына.
Ёй вельмі падабаюцца дажджы.
Яна адна ідзе начной парою.
Бывай да раніцы, бацькоўскі дом!
І ціха ззяе зорка над зямлёю,
Абмытая задумлівым дажджом.

* * *

Калі надыдзе дзень трывожны
І прыйдзе смутак разам з ім,
Успамінай мяне прыгожым,
Не ўспамінай мяне благім.
Успамінай мяне вясёлым,
Вясновым зоркам раскажы,
Што быў я першым навасёлам
У цішыні тваёй душы.

* * *

Арэшнік — хоць зразай на вуды...
І мох. І восеньскае лісце.
І ты — наіўная Аліса,
Што трапіла ў Краіну Цудаў.
Іду, спяшаюся, заву,
Крычу ў адчаі: — Дзе ты? Дзе ты?!
...Трымціць па ўскраіне планеты
Тваё трывожнае «ау».

* * *

Зіма. Мароз. Агонь дзявочых шчок.
І у вачах дзяўчыны смех і шчасце.
Імчыцца па шашы грузавічок.
Ад колаў застаецца след рубчасты.

Пякучы вецер над раўнінай дзьме.
Грузавічок у снезе не буксуе.
І я сяджу у кузаве, і мне
Па-маладому весела і сумна.

І бачу я далёкіх вёсак дым,
У сіняватым інеі бярэзнік,
Тарпяк саломы, поле і у ім
Чырвоную лісу на белым снезе.

* * *

Я знаю — пройдуць дзень за днём,
І гэта здарыцца з табою —
Душа пакрыецца лядком,
Як рэчка ранняю зімою.
І ўжо не тая будзеш ты,
Што ні рабі, але не тая.
І промень сонца залаты
У сны твае не завітае.
Ты будзеш слухаць голас дрэў,
Як маладосці нашай рэха.
Ты ўбачыш, як я пастарэў
І як сама ты пастарэла.
Прабач тады за ўсю тугу,
Прабач за той халодны вечар,
Калі я ўскласці не змагу
Твае гады сабе на плечы.

# СВЯТЛО ТВАІХ ДАЛЁКІХ ВОКНАЎ

## Паэма пра маці

Ізноў прашу цябе: — Жыві!
Устань! Куды ад гора дзецца?
Ляжыш. Маўчыш. Патухла сэрца
Адной любві, адной крыві.

* * *

Дык не спявай жа, птах крылаты.
Не ззяй, вясёлка, над зямлёй.
Прыйшла й мая часіна плакаць,
І я застаўся сіратой.

Зара у небе дагарае.
Лясы замоўклі і сады.
Прабач мне, мама дарагая,
Я думаў — вечнай будзеш ты.

Я думаў — будзеш ты на свеце
Жывой і радаснай заўжды,
Як летні дождж, як цёплы вецер,
Як звон крынічнае вады.

Я думаў, мама,— твае косы
Завея часу не кране.
Ды ў год грымотны, высакосны
Ты адплываеш ад мяне.

І не пачуць ужо, не ўбачыць,
Не прытуліцца больш шчакой.
Я плачу, мама, горка плачу
Над дамавінаю тваёй.

Памерла ты... Патухлі словы.
І стала цёмна уваччу.
Дзяўчынкаю русагаловай
Цябе убачыць я хачу.

Маланка неба ўдоўж рассекла.
Ад смутку нікне галава.
Іду па лузе. «Тэкля... Тэкля...» —
Мне шэпча ціхая трава.

Даўным-даўно на срэбных крылах
Тут узляталі матылькі.
І ты, маленькая, хадзіла,
Свае сплятаючы вянкі.

Яшчэ твае ўсплывалі вёсны,
Як воблакі, ўдалечыні.
І расхінаўся свет дзівосны,
І клікаў вецер: «Дагані!»

І бегла ты дамоў, дахаты
Праз красавіцкія сады.
Навошта ж, мама, спаць лягла ты,
Лягла так рана, назаўжды?

* * *

Спякотным поўднем, ясным ранкам,
Хоць дождж, хоць град у вокны б'е,
На цягнікі усіх напрамкаў
Білеты лета прадае.

І я лічыў вялікім святам,
І я у сэрцы шчасце нёс,
Калі на станцыю Несяту
Мяне ізноў прыводзіў лёс.

З вагона я хутчэй выходзіў
Пад шум бяроз, пад зорак рой
І па вячэрняй прахалодзе
Ішоў дарогаю лясной.

У цемры лес стагнаў і войкаў,
Ды лёгка крочылася мне —
Святло тваіх далёкіх вокнаў
Струменілася праз мяне.

Вясна на рэках грукатала.
Трашчаў мароз. Ды кожны год
Не спала ты, мяне чакала,
Стаяла ноччу ля варот.

* * *

І вось я зноў пад свіст шпачыны,
Пад ціхіх кветак перазвон
Прыйшоў к табе на сарачыны
Аддаць сыноўні свой паклон.

Устань жа, мама! Дзень гарачы
Чмялямі звонкімі загуў.
Я сорак дзён цябе не бачыў,
Я сорак дзён цябе не чуў.

З травы выглядвае суніца,
Як зіхатлівы вугалёк.
Няхай яна табе прысніцца
У цемры незямных дарог.

Няхай табе прысніцца поле,
Жніво, вясёлка над вярбой.
Няўжо так будзе, што ніколі
Мы не сустрэнемся з табой?

Іду адзін пад небам белым,
І у вачах маіх імгла.
Дзе ж той журботны чорны бераг,
Куды навек ты адплыла?

* * *

Дзе крок, як шолах хваль крынічных?
Пявучы, чысты голас дзе?
Ніхто мне ноччу навальнічнай
На лоб руку не пакладзе.

Хай промень месячны пачуе —
Я вечна буду паўтараць:
Ніхто мяне не пашкадуе,
Як ты умела шкадаваць.

Не дома ты заначавала —
Ты не вярнулася дамоў.
І ўсіх пяшчотных слоў не стала,
Як быццам не было тых слоў.

І мне, сумотнаму, здаецца,
Што ўсе усмешкі адцвілі.
І у грудзях заместа сэрца
Лясоў асенніх б'ецца ліст.

І больш не будзе светлых святаў.
І вецер смутку студзіць лоб.
...Не зарасце ніколі страта
Травой спакою, як акоп.

* * *

Калі назад я азірнуўся
На дні пакут, на дні нястач,

Як воблака, над Беларуссю
Зноў паплыве жаночы плач.

Любоў жаночая святая
Узыдзе яснаю зарой
Над фронтам, што крывёй сцякае,
Над партызанскаю зямлёй.

І ў час атакі ці ў шпіталі
Успомніць сцішаны салдат
Пра вочы, што яму шапталі:
— Прайдзі жывым праз куляў град.

У лесе ўспомняць партызаны
Пра вас, як пра святло вясны.
Паклон вам, Тэклі, Марфы, Ганны,
За ўсё, за ўсё — паклон зямны.

Вы — цудадзейныя багіні,
Выратавальніцы Зямлі.
Вы — бессмяротныя вяргіні,
Што ў ліхалецце расцвілі.

* * *

Ці доўгім будзе, ці кароткім
Мой век, успомню ў снег і ў град,
Як біў цябе раменнай плёткай,
Біў па руках фашысцкі кат.

З усмешкай вёў ён катаванне:
Бац! — па кісцях,
па пальцах — бац!
А тыя б рукі грэць дыханнем,
А тыя б рукі цалаваць.

Яны ж заўжды мяне малога
Да сонца неслі, да святла.
І не пакрыўдзілі нікога,
Нікому не зрабілі зла.

Яны адбельвалі палотны,
Варылі, жалі у палях.
І вось па іх — раменнай плёткай!
Па іх! Па матчыных руках!

Не праліла ты слёз, ссушыла
У сэрцы. Я іх сёння лью.
О рукі маці! Рукі-крылы!
На вас Зямля ляціць к святлу.

* * *

Пад зорным небам, цёплым ветрам,
Там, дзе юначых сноў выток,
Ляжаць яны у цэнтры свету,
Магілы нашых мацярок.

Клянуся сонцам, полем, жытам —
Аддам усю да кроплі кроў,
Каб ні адзін ліхі чужынец
Ля іх і блізка не прайшоў.

Каб іх паглядам не спаганіў.
Няхай лунае тут заўжды
Лугоў спакойнае дыханне,
Празрысты звон рачной вады.

Няхай жыве тут вечны роздум
Бяроз шумлівых і калін.
І свецяць ранішнія росы,
Як вочы матчыны калісь.

Згарацъ у небе зарапады.
Успыхнуць белыя снягі.
І неаднойчы за парадай
Да гэтых прыйдзем мы магіл.

* * *

Ты ні лістом,
ні тэлеграмай
Ужо мяне не пазавеш.
Я знаю — я не вечны, мама,
Хай вечным будзе гэты верш.

Няхай ён пра цябе раскажа
Пад сонцам іншае вясны,
Пакуль пяюцца песні нашы
Каля Дняпра,
каля Дзвіны.

Пакуль надзеяй, марай, працай
Жыве на свеце чалавек.
Як рэкі, маці.
Сіл набрацца
Прыходзім мы да гэтых рэк.

Бывай! Бывай! І ўсё ж бясконца
Сярод зімы, сярод вясны
Дрыготкім ясным промнем сонца
Ты да мяне прыходзь у сны.

# ПЕСНЯ БЕЛАГА СНЕГУ

**Паэма**

Я — прапрапрадзед самога сябе.
Замерзлі у сэрцы і плач і смех.
Іду па зямлі. Мне вочы дзяўбе
Белы снег.

Іду адзін сярод снежных раўнін.
Ветрам хістае мяне ў бакі.
Шаснаццаты век. І я — ліцвін.
І недзе ў полі выюць ваўкі.

Снег пад лапцямі хрусь ды хрусь.
Шлях доўгі нудзіць, як доўгі верш.
Якім ты воблакам, Беларусь,
У снах нашчадкаў маіх паплывеш?

Якім ты ветрам захмеліш душу?
Які пярун тваё неба праб'е?
Я ні кропелькі не схлушу,
Калі скажу, што люблю цябе.

Калі закрычу, што я твой сын,
Што вочы мае — блакіт тваіх рэк.
Ды я ліцвін. Чуеш? Ліцвін.
Яшчэ ж шаснаццаты толькі век.

Яшчэ толькі ў песнях,
дзе смутку шмат,
Жыве на свеце тваё імя.

А белы снег мяце і мяце.
Пад белым снегам бялее зямля.

І, як сумёт снегавы, расце
Крыўда мая.

Крыўды гэтай хопіць на ўсіх.
Аж на стагоддзі хопіць яе.
Вецер халодны лупіць пад дых.
Белы снег сваю песню пяе:

— Замятаю шчыты і мячы,
Там, дзе ў бітве палеглі крывічы.
Гэй, зямля, пух свой зімні тчы,
Дзе заснулі радзімічы.

Тоўсты брух,
                    п'яны дух — грозны князь,
За сцяну за каменную залазь
І ад злосці там локці грызі —
На цябе ідуць вайною князі.

Будзе сеча не апошняя яшчэ.
Кроў халопская ракой пацячэ,
Аж ахрыпнуць глоткі ў званоў.
Гэй, званы,
                    хутчэй склікайце груганоў!
Вось завыў у цёмным лесе шэры воўк.
А з-за лесу выязджае Міндоўг.

...А белы снег мяце і мяце,
Бязважка падае на раллю.
Скажы, Беларусь, на якой вярсце
Згубіла калісьці славу сваю?

Абсып мне плечы снегам сваім,
Зірні на мяне з-пад нізкіх стрэх.
О Беларусь! Дым, дым...
О Беларусь! Снег, снег...

* * *

Замерзлі ў сэрцы і смех, і плач,
І роднай песні журботны гук.
У цэнтры вёскі сядзіць палац,
Бы ў павуцінні тлусты павук.

У тым палацы пануе пан.
Для ўсіх даўно ён, як бог зямны.
І бізунамі худых сялян
Лупцуюць тлустыя цівуны.

Тут кожная хата сніць бяду.
Тут сонца скрозь снег
відно ледзь-ледзь
Я, горкі хлоп, на калені ўпаду,
Буду на панскія боты глядзець.

Пан жыватом пагрозна трасе.
На ўсіх гатоў ён адзець хамут.
Збіраецца пан у Люблін на сейм.
Гэй, хлопы, сядлайце коней яму!

І странуцца там, на сейме, яны —
З па-над Дняпра,
з па-над Віслы паны,
І ў крыку паны выцягнуць шыі:
— Рэч Паспалітая нех жые!

*Голас касцельнай мышы:*
— Я гладкая, я спраўная,
Ледзь ступіш — згіну znічкай.
Была я праваслаўнаю,
А стала каталічкай.

Я мыш зусім не гордая,
Маўчу і назіраю:

Траслі папы барадамі,
Цяпер ксяндзы спяваюць.

Мышынай незалежнасцю
Я ганаруся ўсюды.
Былі б сталы тут з ежаю,
А крошкі... крошкі будуць.

Мне шчыліны адчынены.
Ксяндзы, гучней спявайце.
І толькі, па магчымасці,
На хвост не наступайце.

Малітвы ўсе спасцігла я.
Мой апетыт у норме.
Я — мыш. Я той рэлігіі,
Дзе лепш мяне накормяць.

...А белы снег мяце і мяце.
Ён мне у вочы, у вушы залез.
Скажы, Беларусь, дзе цяпер расце
Тваіх успамінаў таемны лес?

Гляджу наўкола.
Стаіць касцёл,
Сабой вянчае палёў абсяг.
Стаіць касцёл, быццам касцёр,
Што ўспыхнуў некалі на касцях.

А ў бедных хатах голад і плач.
Дзіравая світка спаўзае з плеч.
Я цёмнай ноччу спалю палац
І ўцяку з сябрамі на Сеч.



*У XVI—XVII стагоддзях на Украіне і ў Беларусі ў складзе казацка-сялянскіх атрадаў ваявалі воіны-пехацінцы, узброеныя дубінамі. Гэтых воінаў называлі дайнекамі.*

Дзе вы, землі чарназёмныя?
Дзе вы, коні меднагрывыя?
У траву упалі зоркамі
Людзі, некалі шчаслівыя.

Паліць ноч у лузе вогнішчы.
Шалясціць туман над рэкамі.
Дык прыйдзіце ў сны трывожныя
Вы, што зваліся дайнекамі.

Бачу — дол гарачы, спалены,
Як пярун,
дубіны ляскаюць.
Бачу — людзі ў бітве падаюць
За свабоду за сялянскую.

І рашучы, моцны, радасны,
З прагай волі незабітаю
Разам з вамі, мае прадзеды,
На паноў іду з дубінаю.

Засынаю, ціхі, змораны.
Льецца ў вочы неба чыстае.
Сняцца землі чарназёмныя.
Сняцца людзі непахісныя.

...А белы снег мяце і мяце.
І на дарозе —
гурба за гурбой.

Скажы, Беларусь — сваіх дзяцей
Не развучылася клікаць у бой?

Крычу табе праз цякучы снег
Я, запарожскі казак-ліцвін:
— На полі гісторыі ты не агрэх,
Не выбіты градам бясхлебны клін.

Крочыла ты па дрыгве вякоў,
Бачыла ты пакуты і кроў,
Чужых паноў і чужых багоў,
Сваіх паноў і багоў.
Радзіма!
Не ў сіняе мора —
мне ў сэрца цякуць
Твой вольны Дняпро, і Шчара, і Друць.
Мне звоняць травой твае паплавы,
Заснуць не даюць твае журавы.
Радзіма!
Калі няўмольнай халоднай тугой
Мне вочы закрые вечны спакой,
Хацеў бы я стаць тваёю зямлёй,
Тваёю вадой, тваёю травой.
Радзіма!
Ты выткана з промняў яснай зары.
Памру за цябе,
калі скажаш — «памры».
...І вось з-за Прыпяці,
праз снег,
Пачуў я голас: —
Прыйдзі да мяне!
Прыйдзі да мяне...
Бяду разгані.
Бо выдзяўбуць сэрца мае груганы.

* * *

Полымем гнеўным успыхнуў усход.
Коні б'юць капытамі.
Гэй, у паход!
Гэй, у паход!
Родны край перад намі.
Лаваў казацкіх не спыніш нічым.
Сэрцы звіняць агнявыя.

Хай нашых вёсак спаленых дым
Ворагам вочы выесць.
Хай іх атруціць наша вада,
Наша дрыгва засмокча.
Песню гучней запявай,
грамада.
Жыць нам абрыдла моўчкі.

Мы —
не натоўп схіленых спін.
Мужны народ герояў!
Біце ў званы,
Тураў і Пінск,
Слуцак, Бабруйск і Лоеў.
Хопіць вілаў
На Радзівілаў.
Пырскне з паноў
Чорная кроў.

...А белы снег замятае бур'ян,
Жалобную песню пяе нада мной.
Мне грудзі прабіў каралеўскі улан
Вострай бліскучаю пікай сваёй.

Я ў сечы крывавай упаў з сядла.
Лягло там сяброў і ворагаў шмат.

На поўнач казацкая лава пайшла,
Не падлічыўшы ні ранаў, ні страт.

Услед за ёю я поўз і поўз,
Губляючы сілу, губляючы кроў.
Быў белы снег, як белая поўсць
Белых, халодных,
касматых звяроў.

Мне вочы сляпіў мяцельны віхор.
Каня майго воўк шалёны задраў.
Пад бляскам вечных маўклівых зор
На белым снезе я паміраў.

Зіхцеў зледзянелага неба абрус.
Млечны Шлях курыўся, як дым.
І ты схілілася, Беларусь,
Над тварам маім.

Якою сцяжынкай, якою хадой
У гэтую замець ты прыйшла?
Але ты схілілася нада мной,
І прашаптаў я: —
Мая зямля...

Мая зямля, яшчэ сіл не стае
Табе, каб чорных скрыпыць груганоў.
Яшчэ сканаюць Багрымы твае
На стайнях жорсткіх халодных вякоў.

Яшчэ ты не сонца, а прамень,
Яшчэ ты не мора, а ручай.
І як іржа жалеза,
Штодзень
Тваю душу раз'ядае адчай.

Але ударыў Гаркуша у звон,
Але Вашчылы шабля блішчыць,
Але Каліноўскага голас чуцён,
І гавару я: — Ты будзеш жыць!

Будзеш жыць!
Дык дазволь хоць на міг
Глянуць тады на цябе з вышыні
Белай сняжынкай тваёй зімы,
Сіняй дажджынкай тваёй вясны.



* * *

Пад святлом зарападаў
У жыцці хуткаплынным
Найвялікшая радасць —
Быць зямлі сваёй сынам.

Ёй не здраджваць ніколі,
Браць заўжды за аснову
Вернасць чорнаму полю,
Вернасць светламу слову.

* * *

Я выйду ў дарогу зарана,
Як хваля усхліпне ў трысці.
Маланкамі неба ўзарана,
Ды мне не па небе ісці.

Я слаўлю дарогу, якая
Заўсёды вядзе да людзей,
Дарогу, якая яднае
З сягоняшнім заўтрашні дзень.

Грымяць над зямлёй ураганы,
Гараць штармавыя агні,
Бяссмертныя вочы каханай
Глядзяць на мяне з вышыні.

Чакае сустрэч мяне многа
З вятрамі, з грамамі, з людзьмі.
Дарога, дарога, дарога,
Хутчэй маё сэрца вазьмі.

Змагацца, не ведаць спакою!
Такі ўжо і век наш і свет,
Згарым мы і станем расою,
Не ціхаю, не лугавою —
Расою на крылах ракет.

* * *

На радзіму прыедзь, дзе лясы не заснулі
І шумяць і пяюць і вясной і зімой.
Цябе з цёплай усмешкай сустрэнуць бабулі,
Скажа кожная з іх: — Салавейка ты мой...

З імі ты не узводзіў смалістыя зрубы,
На сяўбе і жніве не хадзіў талакой,
За сталом не сядзеў. Але добрыя губы
Вымаўляюць прыветна: — Салавейка ты мой...

Як лясныя пажары, ішлі чужаніцы.
Кожны колас у полі абмыўся крывёй.
Ды жыло і ў барах, і ў сцюдзёных крыніцах,
Нібы сонца прамень: — Салавейка ты мой...

Той народ не памрэ, у вяках не растане,
Той народ будзе крочыць хадой маладой,
У каго апроч слоў барацьбы і змагання
Ёсць такія вось словы: — Салавейка ты мой...

## КАСТРЫЧНІК

Дым чалавечага жылля.
І ззянне вод крынічных.
Была б сляпой мая зямля,
Калі б не ты, Кастрычнік.

Сярод грымот і завірух
Узняўся ты над светам.
Кастрычнік — ты чырвоны плуг,
Што ўсю ўзараў планету.

Для тых, што ў голадзе жылі,
Ты стаў сваім навекі,
Бо ў кожным сейбіце Зямлі
Убачыў чалавека.

Квітней, мацней і маладзей,
Нясі свой сцяг крылаты.
Ты — поле ўсіх людскіх падзей,
А мы — твае зярняты.

* * *

*Пятру Ліпаю*

Яшчэ мае бары не адшумелі
І верасы мае не адцвілі.
Яшчэ радзіны будуць і вяселлі,
Дажджы і росы будуць на зямлі.

Яшчэ над тым квітнеючым узгоркам,
Над той раллёй, над шэптам дзікіх траў
Гарыць, не тухне ранішняя зорка,
Якую у маленстве я шукаў.

Яшчэ са мной зялёны гай гаворыць
І вабіць луг вясновай пекнатой,
І ўсё-ткі я не той, што быў учора,
Я ўжо не той.

Не веру рыфмаваным одам-пугам,
Ім гадаваць не жыта — чараты.
Люблю зямлю, што ўздрыгвае пад плугам
І плодна родзіць колас залаты.

Шаную працу, пот людскі гарачы,
Сябрую з кожнай кветкай і сасной,
Пачую: перапёлка ў жыце плача —
І галаву схіляю перад ёй.

За ўсіх не лепшы і не разумнейшы,
Так і жыву на матчынай зямлі,
Пакуль бары мае не адшумелі
І верасы мае не адцвілі.

## РАБОТА

Сляза на вейках закіпіць,
Бяда прыломіць плечы,
Запомні, калі хочаш жыць,—
Людзей работа лечыць.

Гані хапуг і валацуг.
Яны жывуць хвілінай.
Работа — наш няспынны плуг.
Работа — рух няспынны.

У ёй і пот, і важкі плод,
Надзея і натхненне,
Пчалы няскончаны палёт,
Цярплівых дрэў карэнне.

Яна апаліць спёкай твар,
Стараннага прывеціць.
Яна — агністы наш ліхтар,
Што нам заўсёды свеціць.

Устануць горда гарады.
Граніт прарэжуць рэкі.
Народы пройдуць, а сляды
Застáнуцца навекі.

## ГОРАД

Квітней, наш горад малады,
Ці летні дзень, ці вечар весні.
Не паміраюць гарады,
Звіняць пад небам, быццам песні.

Нямала грозных бур гуло,
Тваёй усмешкі ім не сцерці.
І пáдае тваё святло
На твары нашы і на сэрцы.

Люблю свой горад, калі ён
На працу нас усіх збірае
І крэсівам з будзённых дзён
Натхнення іскры высякае.

Хай кружыць снег, хай дождж імжыць,
Людзей чакаюць на заводзе
Разлікі, схемы, чарцяжы —
Санскрыт дваццатага стагоддзя.

Людзей чакае гул станкоў,
Метал расплаўлены чакае.
Люблю мой горад, бо яднае
Ён працаю маіх сяброў.

Бо з кожнай новаю зарой
Дамы будуем, пішам кнігі,
Капаем мінскае метро,
Бы йдзём у госці да Нямігі.

## УСКРАІНА

Ветрам неба — аж блішчыць — надраена.
Туманок над рэчкаю павіс.
Добры дзень, зялёная ускраіна —
Горада і вёскі кампраміс.

Дзень вясновы радасць выпраменьвае.
Быццам бачу ранішняй парой,
Як сплялася тут рука каменная
З цёплаю мурожнаю рукой.

Вуліца разбуджана трамваямі,
Далятаюць пеўняў галасы.
Вёска ў горад тут пераліваецца,
І няма нейтральнай паласы.

Ля вітрын праменных прыпыняюся,
З асфальтоўкі крочу на раллю.
Не зраблюся я дваістым Янусам —
Вам абоім веру, вас люблю.

Ўсё было... Нішчымніца-бясхлебіца...
Горкі пот... Ды веру зноў і зноў:
Мне ў жыцці не раз яшчэ спатрэбіцца
І суровасць ваша, і любоў.

Ганаруся справай вашай, славаю
І расту пад вашаю рукой,
Вёска — маці светлая, ласкавая,
Горад — бацька клапатлівы мой.

* * *

Я жыву на дзевятым паверсе,
Сын патомнага селяніна.
У акне маім сонца, і вецер,
І бяздоннага неба раўніна.

Нада мной толькі грому сховы,
Толькі неба блакітныя крохвы.
Дорыць мне першы дождж вясновы
Свае першыя срэбныя кроплі.

Вышынёй сваёй ганаруся.
Вышыні адчыняю дзверы.
Калі б сёння прадзед прачнуўся,
Ён ніколі б мне не паверыў.

Верце мне, мае продкі, верце —
Я жыву на дзевятым паверсе.
Вольнай птушкай сябе адчуваю,
Ну куды тут вашым сялібам!
Толькі часам сумна бывае —
Калі грымне бяда начная,
Мне ніхто не пастукае ў шыбу.

* * *

Пайшлі... І ў небе зоры згаслі.
Пайшлі... І светлы поўдзень згас.
За тонкай павуцінай Часу,
Дзяды, яшчэ мы бачым вас.

Яшчэ ваш цёплы голас чуем
І датыкаемся рукой,
Як быццам з вамі зноў начуем
У копах сена над ракой.

Вось адгучалі казкі, песні,
Спіць новы кошык у руцэ.

Заснулі й вы. Гарыць цяпельца
І адбіваецца ў рацэ.

Заснулі вы. І нам так горка,
Што мы не ўбачым ваш пагляд.
А на рацэ раве маторка,
Не спяць рака і рыбнагляд.

## СМЕРЦЬ ПЧАЛЯРА

*Памяці*
*Паўла Васільевіча Ліцвіна*

У ціхім сваім пакоі
Сядзеў за сталом я пісьмовым.
Быў поўдзень. Высокае сонца
Стаяла ў маім акне.
Гарачыя промні ліліся
На чысты аркуш паперы.
Трымаў я ў руках аўтаручку,
Як дзеці трымаюць свісток.
Было на душы маркотна.
Не мог напісаць я ні слова,
Бы нехта замкнуў у сэрцы
Словы халодным замком.
Кветкі раслі на балконе,
І ў іх летуценных усмешках
(Я нават пачуў скрозь шыбу)
Заплакала раптам пчала.
Маленькая жоўтая пчолка,
Адкуль яна прыляцела
І што мне сказаць хацела
На мове пчалінай сваёй?

І раптам я здагадаўся,
І разам з пчалой заплакаў...
Я ўспомніў цябе, дзядзька Паўла.
Твой твар загарэлы, добры.
Кусцістыя чорныя бровы.
Рабочыя моцныя рукі.
Навошта ж ты, дзядзька Паўла,
Частуеш нас горкім мёдам?
З вясёлым сваім дымакурам
Ў якія пайшоў ты лугі?
Там кветак прыгожых многа,
Чырвоных, белых і сініх.
Там пчолы гудуць залатыя.
Ды толькі нас там няма.
Адзін ты ідзеш па травах,
Адзін у лугах начуеш,
Смяешся, плачаш, бядуеш
Адзін.
Я ведаю, дзядзька Паўла,
Калі табе зробіцца сумна,
З багатай сваёй калоды
Ты выпусціш пчолку адну.
Яна прыляціць з лугоў тых
І нас на дасвецці разбудзіць,
І ўсе мы успомнім, дзядзька,
Усмешку і працу тваю.
Ты жыў, як мудрае дрэва,
Што ўсім дае прахалоду,
Не крыўдзіць ні пчол, ні птушак.
Ты быў падобны на дрэва —
Магутны і вузлаваты,
Спакойны і каранасты,
Прыгожы, надзіва прыгожы.
Не бачыў я дрэў непрыгожых,
Такіх на зямлі няма.
Ты быў найлепшым сынам

Сялянскага вечнага роду,
Які для міру і працы
Прыйшоў на нашу зямлю.
Прыслухайся: плача дуброва,
У небе пчала смуткуе,
Просяць яны: «Вярніся!»

Юным пчаліным роем
Вернецца мудры пчаляр.

* * *

Ніхто не ведаў нас, а мы жылі
Пад шум лясоў, пад грукатанне грому.
Ніхто нас не чакаў, а мы ішлі,
Бо жыць мы не хацелі па-старому.
Няхай грыміць стагоддзяў крыгаход,
Я радасны, я ганаруся,
Што на зямлі жыве і мой народ
Са светлым імем — беларусы.

* * *

І ўначы адшукаю лясы, і палі, і крыніцы,
Дзе хадзіў хлапчуком
і якіх мне да слёз не стае.
Так паранены звер шукае траву-чараўніцу
І загойвае ёю смяротныя раны свае.

Мне не жыць без зямлі,
што крывёю бацькоўскай паліта.
Мне не дыхаць без поля, дзе маці спявала мая.
Я люблю гэта неба, і сонца, і слова, і жыта.
Толькі тут я жыву.
Толькі тут паміраць буду я.

## СЛОВА

Пранізвае цемру маланкі кап'ё.
Туман над ракой, як попел стагоддзяў.
Слова маё, сонца маё,
Чаму ж так рана за хмары заходзіш?
Даваў табе праўду і трубную медзь,
Даваў табе моц і пяшчоту калосся.
Думаў:
дрэвам
будзеш шумець.
Ды толькі жолудам ты засталося.

* * *

А мне заўсёды карцела
Скласці песню пра цела,
Жывое,
Прыгожае,
Чалавечае цела.

...Зямля помніць:
Ішлі батыі.
Калчаны поўныя.
Вочы пустыя.
Меч свістаў.
Страла ляцела.
Хутчэй хацела
Упіцца ў цела.
У сэрца ўпіцца.
Крыві напіцца.
Ад злосці полымя
Стала сінім.
У полымі сінім
Гіне багіня.
Грукнуў лом —
Апалон на злом!
Складалі целу
Нябесныя гімны,
Зневажалі цела
Рабскім кляймом.
Ад страху трымцела
Цела.
Жыць хацела.
Яму б — Мікеланджэла
І Рафаэля.
Траву, хвалю марскую.
Ды ў небе
Галодна выюць прапелеры —
Чуюць кроў людскую.
Яму б —
На ўсіх стадыёнаў прасторы
Быць дужым,
Прыгожым,
Смелым.
Ды ўжо закурыў,
Задыміў крэматорый

Люльку смерці.
І ўсё ж — дарэмна!
Не стане ценем,
Кратом,
Дымам,
Ветрам
Бяссмертнае
Чалавечае цела —
Зямлі галоўная кветка.
Яму не вечны сон
цар —
Сонца!

## МАЦІ

Калі наваколле спачыне,
Замоўкнуць і рэкі, і долы,
Выходзіць старая жанчына
Пад месячык, бледны і кволы.
Жыццё не звінела кілішкам,
Заўсёды пякло мазалямі.
Цяпер адпачыць бы хоць крышку,
Цяпер пасядзець бы з сынамі.
Ды рушыў старэйшы ў шахцёры,
Хоць там, пад зямлёй, не салодка.
Малодшы ж падаўся на мора —
Ажно на падводную лодку.
І ціха ўздыхае старая.
І горач і сум у паглядзе...
Асенні віхор абтрасае
Апошнія яблыкі ў садзе.

* * *

Век жыві, усё жывое,
Ліся песняю жывой —
Воблака над галавою,
Луг квяцісты пад нагой.

Гэй, ударце, бубны, гуслі!
Дружна грымніце, грамы!
На вясновай Беларусі
Карагоды ладзім мы.

Хто сказаў, што хопіць, досыць?
Грай, музыка, грай яшчэ!
Нібы сонца цёплы дотык,
Пацалунак на шчацэ.

Нам не час збіраць манаткі
І брысці пад засень хвой —
Пупавінаю маланкі
Неба злучана з зямлёй.

* * *

Стаіць вясёлы дом
На ўзгорачку зялёным,
Напоўнены жыццём,
Як майскі лес азонам.

Сем дзетак тут расце,
Увішных малалетак,
Як быццам бы цвіце
Сем незабыўных кветак.

Прыволле тут малым —
Ні сваркі ў іх, ні звады.
І маці рада ім,
І бацька дзецям рады.

Пап'ю вады ў іх,
Пайду сваёй дарогай.
Сем радасцей зямных
Услед глядзяць з парога.

Пакажа шлях ручэй.
Сарока застракоча.
Іду. Сем пар вачэй
За кожным крокам сочаць.

А лес наўкол, як храм!
А луг — у пчольным гудзе!
Як мала трэба нам
Пад гэтым небам, людзі:

Вады ў сухмень папіць.
Зары убачыць крыллі.
І некага любіць.
І каб цябе любілі.

## ВЁСКА СВЯТАЯ ВОЛЯ

У лесе, у стэпе, у полі
Успомню яшчэ не раз
Вёску Святую Волю,
Што ёсць на Палессі ў нас.

Восеньскіх дзён турбота...
Лісце па цёмнай вадзе...
Жанчына ў гумовых ботах
Бульбу капаць ідзе.

А побач школьнікі-дзеці,
Муж, калгасны шафёр.
І ім так радасна свеціць
Роднай зямлі прастор.

Крочачы ў полі світальным,
Дружная гэта сям'я
Ведае нейкую тайну,
Якой не ведаю я.

Гляджу, маўчу...
                    Пра такое
Мне не забыцца нідзе:
Ціхае шчасце людское
Бульбу капаць ідзе.

А з шэрых нябёсаў над імі
Чуецца крык жураўля:
«Вечна будзьце святымі,
Воля, Радзіма, Зямля!»

## ЛЯ ПОМНІКА КУПАЛУ

У парку восеньскім стаіш,
У даль бязмежную глядзіш.
Пад лісцяў пошум залаты
Што бачыш ты? Што чуеш ты?

Паклон табе ад родных ніў,
Паклон за тое, што ты быў,
Што сілу меў і мужнасць меў
Сказаць за тых, хто анямеў.

## КАСЦЁР У КАРАЛІШЧАВІЧАХ

*Міколу Аўрамчыку*

Люблю гэты змрок вераснёвы,
Калі, перад тым як заснуць,
Жрацы-зберагальнікі мовы
Да вогнішча дружна ідуць.

Барвова страляе вуголле.
Звіваецца ў трубку кара́.
І робіцца сэрца міжволі
Часцінкай начнога кастра.

Сям'ёю шумлівай, багатай,
Што ўмее рабіць і спяваць,
Сядзяць ля кастра лаўрэаты
І проста паэты сядзяць.

Ля вогнішча яркай кудзелі,
Дзе вецер спыняе свой бег,
Вось гэтак дзяды іх сядзелі,
Шумеў гаманлівы начлег.

Высокае золата лісцяў...
Маўчанне халодных лясоў...

Няўжо не пачую калісьці
Жывую гамонку сяброў?

Няўжо адплыву я ў свой вырай,
Як гэтага вогнішча дым?
Дык дзякуй за дружбу і шчырасць
Таварышам верным маім.

Натхнення нідзе не прасілі.
Прайшлі праз грымоты нягод,
Бо з імі нязломная сіла.
Імя гэтай сілы — народ.

Нявера, бясплодны і прэсны,
Хай крывіць ва ўсмешачцы рот.
Пяюць яны вечную песню
Пра свой несмяротны народ.

* * *

Знаўся з бурай і слатой...
Гадаваў дзяцей і словы...
Толькі дзе я сёння, той,
Малады, сонцагаловы?

Толькі дзе мой першы след?
Дзе мой след апошні ляжа?
Не падлічыць Архімед,
І Капернік не падкажа.

Я хадзіў, і лётаў я.
Жыў у хаце і ў палацы.
Песню браў у салаўя.
У пчалы вучыўся працы.

Быў і я самім сабой —
Вольны, чысты і свабодны,
Нібы школьны сшытак той,
Дзе ні літары ніводнай.

Ды пакрэсліла жыццё
Светлых дзён маіх старонкі.
І ляціць у небыццё
Голас мой, калісьці звонкі.

О зямлі маёй лясы,
Рэкі, воблакі, узгоркі!
Дайце ранішняй расы,
Што сляпому дорыць зоркі.

Дайце жаўранка крыло,
Каб за неба ухапіцца.
Калі б можна так было,
Стаць хацеў бы я крыніцай.

Я звінеў бы дзень і ноч,
Плёскаў хваляй срэбнарогай
І красу дзявочых воч
Бараніў ад вока злога.

Я паіў бы чараты,
У світальным лузе краскі,
А калючыя драты
Разрываў бы я на часткі.

А таго, хто смерць нясе,
Кінуў бы у вір глыбокі.
Я такі,
як людзі ўсе.
Мне у ранішняй смузе
Чуюцца нашчадкаў крокі.



Дзеці, ўнукі, нашчадкі мае!
Майму голасу сіл не стае.
Падыходзьце з усіх бакоў,
З тых, яшчэ непачатых, вякоў.
Туманы разганіце наўкол,
Накрывайце касмічны стол.
Мы сустрэліся ў першы раз —
Будзе Месяц кубкам для нас.
Вас я марыў убачыць даўно —
Будзем зорнае піць віно.
Колькі родных усмешак і рук!
Ты з якой галактыкі, ўнук?
Сінявокі праўнук, скажы,
Як шумяць над Венерай дажджы?
Вам хадзіць па зорнай расе.
Заклінаю: помніце ўсе —
Дзе б ні лёталі, ні плылі
І куды ні завёў бы шлях —
Ад раллі вы ўсе, ад раллі,
Чорны пыл на вашых руках.



Ад родных ніў пайшлі упрочкі продкі.
Іх век суровы быў і быў кароткі.
Іх вёскі лютая вайна паліла.
Застаўся нам іх край, і хлеб, і ліра.

Кранi струну, бы дзень кранi мінуўшы,—
Пяюць і плачуць нашых продкаў душы.

Звініць струна, звініць на поўны голас,
Як быццам плача ў ціхім полі колас.

Той плач, той стогн... Глухі, хто іх не чуе.
Сярод балот яго душа начуе.
Звініць струна так, як сама хацела.
І грэх на ліры той сыграць няўмела.

## БАЛТЫЙСКАЕ МОРА

*Беларусам, рыбакам Балтыкі*

Балтыйскае мора, шумі, грукачы, не сціхай,
Вяслом навальніцы грывастыя хвалі варочай.
Праз дождж і туманы глядзяць за сівы небакрай
Тваіх маякоў залатыя надзейныя вочы.

Балтыйскае мора, ты — сіні разгневаны бог,
Паэт і каваль, што куе вадзяныя армады,
Ты — лепшая ў свеце дарога з мужчынскіх дарог,
Надзея і вера, сляза і пякучая радасць.

З салакай іількай іду я на траўлеры зноў,
У родную гавань мне трэба праз штормы дабрацца.
Грукочуць стальныя шалёныя крылы вятроў
Па палубе слізкай,
па стомленых спінах рыбацкіх.

Балтыйскае мора, люблю і парыў твой і гнеў.
Ты іншае долі ні ў бога, ні ў д'ябла не клянчыш.
Ты сёння равеш, нібы грозны, раз'юшаны леў,
А заўтра ты будзеш, як ціхі рахманы баранчык.

Пад шэрай вадою тут вікінгаў спяць караблі.
Мячы паржавелі і мачты зламаліся з хрустам.
Тут бурай разбіты плыты,
што з Дзвіны прыплылі
І з Нёмана плыннага,
слаўнай ракі беларускай.
Нямала адважных лягло на маўклівае дно.
Я чуў, як рыдае над імі аркестр твой шматструнны.
Ды хмеліць душу мне тваіх ураганаў віно,
На шчоках маіх тваіх штормаў гараць пацалункі.

* * *

Пяюць вятры... Грымяць трамваі...
Лілея дрэмле на вадзе...
Мая вясна саракавая
Са мной у белы свет ідзе.

Вазьму халодную лілею,
Сустрэўшы сонца узыход,
Ля сэрца ля свайго сагрэю —
Я стаў чуллівы ў сорак год.

Майго лірычнага героя
Нягучных слоў сагрэў агонь.
Стаіць паэзія, як Троя.
Згубіўся дзесь траянскі конь.

Не трэба мне каня, не трэба.
У Трою іншыя ўвайшлі.
Мне б слухаць зорны голас неба,
Убачыць строгі твар зямлі.

Я чую голас твой адвечны,
Мая зямля, мая ралля.
Мне сорак год... І я не вечны...
Вось
    і усё,
        што знаю
            я.

* * *

Вітаю працай кожны дзень.
І адчуваю, што з гадамі
Мне хочацца любіць людзей
Усё мацней, усё адданей.

Удалеч шлях жыцця вядзе.
Бялеюць дні. Чарнеюць ночы.
Хачу любіць,
        люблю людзей,
Тых, што са мною побач крочаць.

З адных крыніц я п'ю ваду.
Адно заўжды мне свеціць неба.
З людзьмі жыву, з людзьмі іду,
І лепшай радасці не трэба.

Усе яны — мая радня.
І з імі помню я заўсёды:
Народ мой вечны, як ралля.
Я — зерне ў глыбіні народа.

* * *

Там, дзе поле мяжуе з лугам,
Там, дзе жыта гамоніць з травой,
Палымнее на кветках спакой,
Ні сярпом не крануты, ні плугам.
Там задумна цвітуць васількі,
Хіліць колас чало залатое,
Там аблокі плывуць над зямлёю,
Нетаропкія, як вякі.
І зямля разам з імі плыве.
Цішыня... Галава ідзе кругам.
Спіць дзяўчына на ціхай траве
Там, дзе поле мяжуе з лугам.

* * *

Не ўтрымаеш рукамі гарачымі,
Не закружыш больш галаву —
У маёй душы навігацыя,
Ад цябе я ўсё далей плыву.

Мы і сонца, і шчасце бачылі.
Толькі сонечны дзень пацямнеў.
Ці то вочы твае, ці то бакены
Усміхаюцца ціха мне.

Над маўчаннем рэк не страчацца нам,
Не таптаць у лугах траву —
У маёй душы навігацыя,
Ад цябе я ўсё далей плыву.

* * *

Ты недзе ёсць, як Атлантыда.
Хай навакол і смех, і злосць,
Я марыць буду вечна, ціха —
Ты недзе ёсць, ты недзе ёсць.

Цябе цалуе летні вецер.
Высокі гром твой добры госць.
Найлепшая у цэлым свеце,
Ты недзе ёсць, ты недзе ёсць.

Пад небам залатым і сінім,
Сярод вясновай пекнаты
Якім глыбіням і вышыням
Свой лёгкі след пакінеш ты?

У бераг хвалі малацілі,
А сёння ўжо не чутна іх.
Чакаеш ты, як Атлантыда
Чакае ветразяў крутых.

* * *

Якая ранняя вясна!
Якая светлая надзея!
А ты адна, а ты адна...
Чаму сягоння ты адна,
Як на рачной вадзе лілея?

Якая ранняя вясна!
А ты жывеш у адзіноце.

Ты — нібы лодка без вясла.
Ты — нібы зорка без святла.
Чаму жывеш ты ў адзіноце?

Лес адшумеў. І дождж прайшоў.
І спеў разнёсся жаўруковы.
А твой каханы не прыйшоў.
Чаму цябе ён не знайшоў
На радаснай зямлі вясновай?

Якая ранняя вясна!
Не пралівай жа слёз ніколі.
Жыццё не тонкая струна,
Не вузенькая баразна,
Яно — бязмежнае, як поле.

Ідзі дарогаю сваёй
На перапёлчын ціхі голас.
Чакае там каханы твой.
Адзін. Пад хмарай агнявой.
Чакае, як жытнёвы колас.

* * *

Зноў завея адгрымела
Громам крылляў ледзяных.
Слепіць вочы колер белы,
Прадзед колераў усіх.

Сядзь бліжэй.
Заснулі гукі
Аж да ранняя, давідна.

Я твае сагрэю рукі,
Я налью табе віна.

Ты клянешся: — Назаўжды
Мы застанемся сябрамі...
Як завея, паміж намі
Стануць доўгія гады.

І цярплівае каханне
Не памрэ, не адплыве.
Проста ціхенька растане,
Як сняжынка на брыве.

* * *

Восеньскі вечар... Холад... Імгла...
Ты ў недалёкай вёсцы жыла.
Помню твой голас. Помню твой след.
Помню старэнькі веласіпед.
Я перад хлопцамі трохі фарсіў.
Я электрычны ліхтарык насіў.
Помніш, дваіх нас праз ноч да сяла
Вёў жаўтаваты снопік святла.
Глуха шапталі аб нечым кусты.
Восеньскай цемры баялася ты.
Помню твой голас. Помню твой след.
Зоркай глядзеў нам у вочы Сусвет.
Дык адгукніся. Дзе ж ты цяпер?
Шэпча журботна зжаўцелы аер.
Ціха стаю каля вёскі адзін.
Воблакі ў небе — статак ільдзін.
Восеньскі вечар. Холад. Імгла.
Вые на вёсцы бензапіла.



Журботны жоўты ліст
Злятае на дарогу.
Іскрысты пухкі снег
На плечы лёг палям.
У чоўне рук маіх
Пераплыві трывогу.
І сонца майскіх дзён
Зноў усміхнецца нам.

Мінецца дзень надзей.
І прыйдзе ноч бяссонніц.
Ды на сваёй зямлі
Мы будзем жыць з табой,
Пакуль з вышынь быцця
Смяецца людзям сонца,
Пакуль ля белых дзюн
Кіпіць марскі прыбой.

Каханне не памрэ
Пад самым лютым ветрам.
У цемры не згарыць,
Як той метэарыт.
Глянь на яго.
Яно — кавалачак Сусвету.
Глянь на яго.
Яно — і кветка, і граніт.

Як трэба нам маўчаць...
Як шмат сказаць нам трэба...
Запомні гэты міг.
І зберажы агонь.
Ёсць сёння — ты і я,
Як ёсць зямля і неба.
І голуб цішыні
Садзіцца на далонь.

* * *

Навошта мне твой смех гарачы?
Навошта ціхі смутак твой?
Глядзі — чародкай дзікіх качак
Ляціць світанне над зямлёй.

О, як тых качак сонца кліча,
Што разбудзіла свет ужо.
Няхай бяссонны паляўнічы
Узняў грымучае ружжо.

Ды іх назад нічым не вернеш.
Назло свінцу, назло агню
Яны ляцяць, ляцяць і вераць
У далячынь, у вышыню.

* * *

У гасцініцы «Ані» *
Жыў я вольны, бестурботны.
З недасяжнай вышыні,
Са сваёй далечыні
Арарат глядзеў мне ў вокны.

Быў падобны караблю
Ён, што праплывае ў скрусе.
Перагрэтую зямлю
Калацілі землятрусы.

---

* «Ані» — гасцініца ў Ерэване.

У гасцініцы «Ані»,
Там, дзе цвіў агнямі вечар,
У шумлівай цішыні
Зразумеў я сум адвечны.

Край мой родны, не карай
Вось за гэтае прызнанне:
Палюбіў я горны край,
Дзе пяе і плача камень.

Параднёны вы бядой
І падобныя пакутай,
Песняй сумнаю людской,
На зямлі сяброў пачутай.

Быў крывёй акроплен дол.
Тут, дзе смерць свой меч кавала,
Як паранены арол,
Манастыр сканаў у скалах.

Гнёў душу пакуты груз...
Тут, куды ні глянь наўкола,
Толькі шчэбень,
                    толькі друз —
Успамін аб
                горных сёлах.

Край вышынны,
                    не кляты —
Попел смерць тут засявала,
Ды глядзіш у неба ты
Вокам вечнага Севана.

## РУКАПІСЫ Ў МАТЭНАДАРАНЕ *

*Меружану*
*Тэр-Гуланяну*

Іх краталі пальцы агню.
Іх вецер пажараў чытаў.
Іх конь янычараў таптаў.
У ціхім Матэнадаране
Не верацъ яны ў цішыню.

Глядзі: яшчэ ўздрыгвае ліст.
І дыхаюць цяжка радкі.
Яны паміралі калісь.
Ім несці святло праз вякі.

Ім плыць праз жыцця акіян,
Праз полымя, праз ураган,
Таму што ў сэрцы народа —
Матэнадаран.

## ПРАГНОЗЫ НАДВОР'Я

Бяжым хто як можа пад хмараю чорнай —
Ізноў нас падводзяць прагнозы надвор'я.
Над сіняй ракой, над зямлёю зялёнай
Бушуюць цыклоны і антыцыклоны.
Нябёсы над намі свой шлюз адчыняюць,
Нябёсы людзей легкаверных караюць.

---

* Матэнадаран — будынак у Ерэване, у якім захоўваюцца старадаўнія армянскія рукапісы.

О, гэта разгубленасць дачнікаў мокрых!
О, мокрыя кветкі ў расчыненых вокнах!
Бяжым пад аблокаў віхурыстай пенай,
Маланкі — як быццам пад небам Пампеі!
А дождж — над Амерыкай, дождж — над
Еўропай.
І крочыць па лужынах мокры сіноптык.
У руках парасон. Ды, маўклівы, суровы,
Яго ён не хоча раскрыць прынцыпова.

* * *

Бог тэхнікі рашучы і суровы.
Усім ён затлуміў сабой галовы,
Усюды пасадзіў жалезны лес,
На Месяц нават пакрысе залез.
І ўсё ж як добра, што жывуць яшчэ на свеце
І снег, і дождж, і лесу шум, і вецер.
Вунь самалёт пранёсся, быццам бура,
Над снежнай зіхатліваю красой.
І злучвае тых лётчыкаў з зямлёй
Не толькі радыёапаратура —
Сняжынак ціхіх серабрысты рой.

* * *

Ёсць першабытна-дзікая краса
У ціхай свежасці кутка ляснога,
Дзе ні зграызот, ні звяг, ні вока злога,
Дзе кожная расінка, як сляза.

Танцуе ў змроку сонечны прамень.
Ён за далёкай хмарай нарадзіўся,
Ён у бязмежнай пушчы заблудзіўся
І дажывае свой апошні дзень.

Ён прамільгне вавёркай па сасне,
Асвеціць мох панылы і жаўтлявы,
Разбудзіць птушку, скоціцца на травы,
На вуснах кветкі вечным сном засне.



Клічу вас у восень. Можа, вы
Пражылі, не чуючы ніколі
Дзікі голас ветру між травы,
Шум дажджу ў маркотным стылым полі.

Клічу вас у восень. Там яна,
Дзе маўчаць скалелыя пракосы,
Дзе лясоў чырвоная сцяна
Падпірае белыя нябёсы.

Там спакой і воля. Вечнасць там.
Юных дзён нястрачаныя словы.
І адтуль насуперак гада́м
Прылятае вецер пастушковы.

З ім жыву, з ім мару, гавару,
З ім перамагаю боль і скруху.
Вецер той далёкі, як кастру,
Не дае душы маёй патухнуць.

* * *

Змяшаць усё: і боль, і буру,
І ўсю разгубленасць сваю,
І выпіць сумных дзён мікстуру,
І ціха ўпасці на зямлю.

Каб нечых рук пяшчотных дотык
Вярнуў і радасць і спакой,
Каб неба, як сярдзіты доктар,
Схілілася над галавой.

Змяшаць усё, пра ўсё забыцца
І слухаць, быццам бы здалёк,
Як у самім сабе бруіцца
Жыцця вірлівы ручаёк.

* * *

У кожным з нас жывуць аблокі,
Якія ранняю вясной
Плывуць, лятуць у шлях далёкі,
Нас забіраючы з сабой.

Не верыце? А я вось веру.
Чакаю — грымне першы гром,
І паплывём удалеч з ветрам,
З маланак радасным агнём.

Успыхнуць светла і нядрэмна
Вясновых зорак вугалі.
І будуць здзіўленыя дрэвы
Махаць галінамі з зямлі.



Ізноў пайду у лес туманны
Ад гарадоў і тлумных сёл.
Мурашнікі,
лясоў вулканы,
Маўкліва высяцца наўкол.
Там,
дзе раса гарыць бязважка,
Пад лісцяў залатой страхой
У вочы гляне мне мурашка,
І я у вочы гляну ёй.
І памаўчу,
бо тайну знаю,
Якою злучаны навек
Вось гэта кропелька лясная
І я,
турботны чалавек.
Яна імкне сваёй дарогай
Праз мох,
праз друз,
праз буралом,
Іскрынка полымя зямнога,
Што называецца жыццём.
І я,
сустрэўшы тварам вецер,
Кажу і ветру, і трысцю:
— Мы з ёй суседзі па планеце.
Мы з ёй суседзі па жыццю.
Мы — розныя.
Ды не чужыя.
Мы носім у вачах зару.
І уступлю я ёй сцяжынку.
І дом яе не разбуру.

## ЗІМА Ў НЯСВІЖЫ

Здаецца, чую рык гармат,
І шабляў звон, і куляў град.
Скажы: чаму ізноў не спіш,
Нясвіж.

Ля гэтых сцен прайшлі вякі,
Князі, уланы, мужыкі.
Так цяжка верыцца мне ў цiш,
Нясвіж.

Нібы на тых вякоў краю,
Ля Слуцкай брамы я стаю.
Як дым, віецца каля шчок
Сняжок.

Ні бліскавіц і ні грымот.
Мост... Насып... Роў... У рове лёд...
І качка па яго слюдзе
Ідзе.

* * *

Адгрукаталі цягнікі.
Чырвоны вечар лёг на шпалы.
І пахне сенам і металам.
І цішыня — на ўсе вякі.

У лугавіне ззяе Друць.
Трымцяць рамонкаў белых вейкі.
Па апусцелых цёплых рэйках
Кароўкі божыя паўзуць.

* * *

Ляжаць у лузе валуны...
Адкуль яны? І хто яны?
Нямыя сведкі даўніны?
Сівога космасу сыны?
Ляжаць у лузе валуны...

* * *

У летні дзень ці ў дзень вясенні,
Здаецца, бачу зноў і зноў
Вялікае перасяленне —
Не, не народаў — валуноў.
Глянь: скачуць, коцяцца, паўзуць,
Трашчаць, рыпяць, звіняць, грукочуць,
Як статак мамантаў, ідуць,
Усё зраўняць з зямлёю хочуць.
Вось растапталі майскі луг.
Вось пахавалі ўсе дарогі.
Арэ, арэ халодны плуг.
І нішчыць, нішчыць смерч бязногі.
Як цмока прагнага язык,
Злізаў палеткі ледавік.
Не аб'яўляючы вайны,
Раструшчыў хаты, буданы,
Цяпельца лёдам патушыў,
Замураваў пяском крыніцу,
Усё знявечыў, задушыў
І лёг сярод зялёных ніў
Аддыхацца, прычапурыцца.
А чалавек, пракляўшы свет,
Пабег у лес, як богам кляты,
Ды рушыў ледавік услед
І наступаў яму на пяты.
І для пацехі, для гульбы,

Як трэскі, ён ламаў дубы,
Лясы, нібы траву, касіла
Сляпая сіла.

* * *

Мёрз чалавек, худы, балесны,
Згубіўшы лук свой і агонь.
А валуны пад неба лезлі,
Скрышыць хацелі і яго.
Яны хацелі, каб адны
Былі на свеце валуны,
Каб ані кветкі, ні сасны,
А ўсюды — толькі валуны,
Хто шчэ жывы, хто бачыць сны,
Каб сніў той толькі валуны.
Паўзлі, не верылі у скон свой,
Хацелі нішчыць зноў і зноў.
Яны не ведалі, што сонца
Мацней за іх, за валуноў.
Ды надышоў вясновы дзень —
Ударыў сонечны прамень!
Вялікі грозны ледавік
Стаў ручайком, знямог і знік.
Зямлёй валодаць
Чалавек
Прыйшоў па ранішняй траве.
Ён глянуў на лугоў разліў,
Ён хату новую зрубіў.
Зрабіў. Пад кожную сцяну
Паклаў па валуну.

## ГРУНВАЛЬДСКАЯ БАЛАДА

*Янку Сіпакову*

Я на полі Грунвальдскім стаяў
Пяты з краю ў харугві Мсціслаўскай.
З мечам, з дзідай, з бацькоўскаю славай
Я на полі Грунвальдскім стаяў.

Заклубіўся, уздыбіўся бой
Гулам, грукатам, лямантам, звонам.
Мы зламалі хрыбетнік тэўтонам.
Мы мячы напаілі крывёй.

Вы, наступнікі, будзеце жыць!
Мечам рыцарскім паланёны,
Я ляжу на траве чырвонай.
На грудзях маіх воран сядзіць.

Птушка смерці, счакай,
бо грэх
Мне, жывому, выклёўваць вочы.
Я, здаецца, па вёсцы крочу.
Пеўні звонка крычаць са стрэх.

Вёска... Вёсачка... Радасць мая...
Я вярнуўся ізноў дадому...
Валасоў славянскіх салому
Апускаю ў блакіт ручая.

Жонка... Дзеці... Радзіма...
Пенна
П'ецца піва, бы век яго п'еш.
Раптам певень на плечы!
Певень!
Ты навошта мне вочы дзяўбеш?

То не певень. То воран-гнюс
Голад мною хоча спатоліць.
На крывавым Грунвальдскім полі
Памірае змагар-беларус.

Вы, наступнікі, будзеце жыць!
Як нясцерпна сонца палае...
Цяжкі меч у тэўтонаў...
Канаю...
О Дняпро, прыплыві з майго краю,
Дай мне смагу маю наталіць.

## ПЕРШАЧАЛАВЕК

Прымружу халодныя вейкі,
Убачу жаданы рубеж...
Ідзеш ты з каменнага веку,
Пад гул навальніцаў ідзеш.

Зямля маладая нявэтла
Агнямі вулканаў цвіце.
І з кожнай вясной чалавечнасць
У сэрцы, як кветка, расце.

Ты гэтую кветку галубіш.
Яна асвятляе твой шлях.
Ты гэтую кветку не згубіш
У цёмных дрымотных лясах.

Ідзеш, і галодны, і босы,
Не енчыць, не поўзаць, а жыць!
Прабіць галавою нябёсы,
Камету за хвост ухапіць.



Ну, няўжо не помніш ты
Край маленства вербалозны,
Рэчку, снежныя кусты,
Дзень зімовы, дзень марозны?

Сонца тонкі прамянёк,
Лёд бліскучы пад нагою...
На дваіх адзін канёк
Быў у нас тады з табою.

Ну, няўжо не помніш ты,
Як гарэлі бліскавіцы,
Як стагналі чараты
Пад напорам навальніцы?

Ну, няўжо забыў ты, як
Мы спявалі нашы песні?
Шкода мне цябе, зямляк,
Шкода мне цябе, равеснік.

У чужых, браток, краях
Адспяваў ты, адмурлыкаў.
Памяць сцерлася твая,
Як падэшвы чаравікаў.



Сузор'і кветак і сугуччы слоў...
Калоссяў хвалі... Воблакаў прылівы...
Няўжо ты ў гэты дзіўны свет прыйшоў,
Каб толькі сумным быць і нешчаслівым?

Няўжо не верыш сонцу ты? Няўжо
Цябе збівае з ног бяда любая?
Няўжо твая паэзія — ружжо,
Якое толькі раз у год страляе?

* * *

Што я шукаў? Што я пакінуў?
Куды ішоў? Куды пайду?
Мы ўсе сатканы з успамінаў,
Як вечар восеньскі з дажджу.

Расплавяць змрок агні рэкламы.
Трава асфальту шчыт праб'е.
А я прыпомню словы мамы:
«Сынок, шанцуе хай табе».

Прарэжуць шлях у зорак замець
Касмічных высяў караблі.
А ў сэрцы — вечны голас мамы:
«Сынок, будзь чэсны на Зямлі».

* * *

Паплач на маім плячы,
Расстанься з бядою,
Пакуту сваю залячы
Маёй цішынёю.

Адзіны абралі мы шлях.
Нам іншых не трэба.
Хай будуць у нас у гасцях
І сонца, і неба.

Я помню цябе маладой,
Як яблыня ў маі.
А сёння плаксунчык, сын твой,
Назваў цябе мамай.

Над тым, што ўжо не зберагчы,
Што там, за вясною,
Паплач на маім плячы
Дзяўчынкай малою.

## НА ПАЛЯНЕ, ДЗЕ МАЦІ КАЛІСЬЦІ ЗБІРАЛА ЧАРНІЦЫ

Там, дзе гараць адзінока
Кветкі — лясныя агні,
Матчыны лёгкія крокі
Чуюцца мне ў цішыні.

Варта мне долу схіліцца,
Смутак душу захлісне —
Бачу: вачамі чарніцаў
Маці глядзіць на мяне.

Быццам спытаць мяне хоча
Голасам ветру і траў:
«Ці не змарыўся, сыночак?
Ягад ці поўна набраў?»



Ноч. Зіма. Цягнік бяссонны.
Ціша цёплага вагона.
За акном, дзе вецер вые,
Голасна і несціхана,
Раптам могілкі старыя
Ціха выплываюць з туману.
Дрэвы чорныя... Магілы...
Гляну: сэрца ледзянее —
Тая, што мяне радзіла,
Тая, што мяне ўскарміла,
Што цяпло сваё дарыла,—
Спіць пад ледзяной завеяй.



Мне здаецца, што жывая
Мама родная ізноў.
За мяне перажывае
І заве мяне дамоў.
«Мой сынок, ідзі вячэраць...»
Я дадому не іду.
Пахне кменам і аерам,
Зорка падае ў ваду...
Тчэ туманы вечар сіні,
Залаціць азёр слюду.
«Мой сынок, вячэра стыне...»
Я ж дадому не іду.
Дні ляцяць, як тэлеграмы.
Сівізна на галаве.
...Нешта доўга мяне мама
На вячэру не заве.



Паміж палёў, густой імглой спавітых,
Прыслухайся, і з цемры даляціць
Самотны гук, даўным-даўно забыты,
Няўлоўны шэпт, што уначы гучыць.

Чый голас над палямі пралятае?
Ці гэта лесу шум? Ці ўзмах крыла?
А можа, плача зорка маладая,
Што над магілай маці узышла?

## СЯБРЫ МАЛЕНСТВА

Сплылі тыя воды,
што помняць нас малымі.
*Вячаслаў Адамчык*

Сябры маленства, дзе вы?
Паміж якой вясны?
Якіх вятроў напевы
Вартуюць вашы сны?

Сляды трывог на твары...
Турботы... Мазалі...
Ці здзейсніліся мары,
Якімі мы жылі?

Ці свеціць нам нязменна
Паміж грымот і хмар
Хаця б адзін праменьчык
Дзіцячых нашых мар?

Вясёлыя і дужыя,
Не зналі мы тугі.
Звінелі нашы душы,
Як летнія лугі.

Застаўся толькі след
Паміж расы і лісця...
Такі маленькі свет,
А мы ў ім разышліся.

## КІЕЎ

*Уладзіміру Каламійцу*

Не забуду неба шыр
І Дняпро крыштальна-ясны
Там, дзе князь Уладзімір
Гоніць Русь у хрысціянства.

Не забуду смех сяброў,
Сонца ў золаце дажджынак,
Веліч кіеўскіх муроў,
Вочы юных украінак.

Бег стагоддзяў і мінут,
Шумных вербаў пастаянства...
Адчуваю сэрцам:
тут
Корань нашага славянства.

Пад сівых мяцеліц свіст
Зноў за Прыпяць ад'язджаю.
Вецер, быццам бандурыст,
Песню мне тваю спявае.



Вырвуся за горад захмялела,
Як вавёрка з цёплага дупла.
Лугавой прасторы захацела
Урбанізаваная душа.

Вырвуся і зноў назад вярнуся.
Ён — мой дом, надзейны сябар мой.
І з якіх сцяжын ні азірнуся —
Нібы крылы, горад за спіной.



Гляджу на лес, на спелую зару,
На промень сонца, востры і гарачы.
Не верыцца, што некалі памру
І прыгажосці гэтае не ўбачу.

Як можна жыць без рэчак і ялін,
Без кнігаўкі, што лётае трывожна?
Без іх ты на зямлі адзін. Адзін!
Без іх ты — вязень у тузе астрожнай.

Глядзі: як кроплі неба, васількі.
Рамонкі заўсміхаліся прыветна.
Глядзі: капаюць норы барсукі.
У вечнай цемры ім заўсёды светла.

Трава... Раса... Былінка не дыхне...
Прырода, бессмяротная, жывая,
Пастукалася дзятлам на сасне,
І сэрца насцеж ёй я адчыняю.

* * *

Штодзённа і ў тлум і у працу
Ныраю, нібыта ў раку.
Пакіньце мне права здзіўляцца
Расінцы, сняжынцы, лістку.
Здзіўленнем хачу я сагрэцца,
Праверыць ім крок свой і зрок.
Пакіньце куточак у сэрцы,
У моры жыцця астравок.

* * *

Сумненні...
Журботнага дрэва нябачныя воку карэнні.
Ля вузкай дарогі пакрытыя пылам каменні.
За горла бяруць, не даюць мне спакою
сумненні.
Такі ўжо наш лёс, неспакойны, зямны,
чалавечы,
Што радасць і гора кладуцца на нашыя
плечы,
Кладуцца на сэрца. У тлуме жыццёвым
і гудзе
Усе мы такія спрадвеку турботнікі людзі.
Сумненні...
Ці дасць мая кветка хоць шчопаць жывога
насення?
Ці вечнасць жыццё, ці кароткае толькі
імгненне?
Сумненні...
Ідуць і ідуць да вяршыні жыцця
пакаленні.



Прыходзяць у нягоднасць,
Нібы струхлелы плот,
Падробкі пад народнасць,
Падробкі пад народ.

Той плот паправіць пнуцца
(Размах і спрыт які!).
Ды бачу я, як гнуцца
Іржавыя цвікі.



Няпэўнасць пачуцця...
І крыгалом... І вецер...
Яшчэ іду па свеце,
Як горкае дзіця.

Яшчэ краіну сноў
Ружовых не пакінуў,
Хоць маю сто маршчынаў,
Хоць маю трох сыноў.

Яшчэ ні чорных хмар,
Ні бур не заўважаю.
І, як пчала, ўзлятаю
Шукаць жыцця нектар.

Працую. Не хлушу.
Квітнее поўдзень сіні.
Ды ўжо халодны іней
Садзіцца на душу.

* * *

Усё найпершае было...
Усё найлепшае прайшло...
Няўжо не ўзнімецца мой ветразь?
Няўжо засне маё вясло?

Так блізка-блізка небасхіл...
І сэрцу не хапае крыл...
Няўжо ішоў я, каб вярнуцца
Да вашых, прадзеды, магіл?

* * *

Як хутка, сябры, прамінулася лета!
Квітнеючы свет пашарэў, пастарэў.
У лузе халодным агонія кветак.
У лесе маўклівым агонія дрэў.

Няўжо маладосць назаўжды праляцела
І жоўтай лістотай засыпаўся шлях?
А сэрца трымцела, а сэрца хацела
Пабыць у вясновага сонца ў гасцях.



Сярод людзей, такіх прывычных,
Што ці гарацъ, ці толькі тлеюць,
Ты для мяне, як шрыфт гатычны,—
Ледзь-ледзь той шрыфт я разумею.

Хаджу наўкола і ўздыхаю.
Жыву маўклівы, задумёны,
І думаю: ці прачытаю
Незразумелыя пісьмёны?



Гарэзілі, сваволілі, крычалі,
А сёння ўжо ідуць у першы клас,
Сыны, на нас падобныя вачамі,
Сэрцамі падобныя на нас.

Я знаю: будзе дождж і будзе іней,
Як зерне, мы адыдзем у раллю,
У росах і рамонках ім пакінем
Халодную і цёплую зямлю.

Жывіце! Ды не высечыце пушчу,
Не вытапчыце майскі светлы дол.
Не спудзьце слова, што дрыготкай птушкай
У сэрцы вашым хоча звіць гняздо.

## ВОСЕНЬ

Лес аблысеў, а быў кашлаты.
Маўклівы дождж лугі дзяўбе.
Як прадчуванне блізкай страты,
Апошні лісцік на вярбе.

У рэчкі твар ад сцюжы сіні.
Здранцвела песня чаратоў.
Вады скалелы алюміній
Блішчыць пад навіссю кустоў.

Тужліва, холадна і глуха...
Прадзьмула сцюжа небакраі.
Прыходзь, зіма, зіма-мятуха,
На скрыпцы ветру нам зайграй.

* * *

Рукі, што пахнуць летам.
Сініх вачэй цішыня.
На пахаванне паэта
Прыехала з вёскі радня.

Смуткуюць медныя трубы.
Апошняя свеціць зара.
Цалуючы брата ў губы,
Паэтава плача сястра.

«Навошта ты нас пакінуў?
Устань... Вярніся назад...»

Славуты на ўсю краіну,
Ён для яе —
толькі брат.

Сагрэты славай зямною,
Паэзіі раб і бог,
Некалі ён з сястрою
У прысаку бульбу пёк.

Гусей да цёмнага пасвіў.
Кніжкі чытаў давідна.
Шчаслівы быў і няшчасны.
Быў такі, як яна.

Словы, як дождж у лузе,
Як сум адзінокай пчалы:
«Устань, мой саколік... Юзік...
Хлопчык... Брацік малы...»

* * *

Быў паранены бацька пад Ломжай
На знявечанай польскай зямлі.
Лес гарэў у агні, як салома.
Нашы танкі на захад ішлі.

Колькі мёртвых палегла ўпокат
Сярод страшных абвугленых траў.
І пад дзікаю грушай у полі
Мой знясілены бацька ляжаў.

Пад агнём, пад вар'яцтвам метала
Сумна груша ўздыхала: — Жыві...

З майго бацькі жыццё выцякала
Ручайком пацямнелай крыві.

Ён правальваўся ў бездані болю.
Ён шукаў, не знаходзіў акоп.
Сярод дымнага польскага поля
Паміраў не салдат — хлебароб.

Вось дыхання парвецца нітка,
Разаб'ецца жыцця карабель...
Толькі ўпэўнена і дзелавіта
Сеў на  каску жалезную чмель.

Чорны вусік... Чырвоны жывоцік...
Хіба можна, салдат, паміраць?
Беглі дзеці — мо Яцэк,  мо Войцек —
Жменьку шчаўя у лузе сабраць.

Родны дом бацька ўспомніў шчымліва,
Ціха выдыхнуў дзецям: — Вады...
Б'ю чалом табе, польская ніва,
Што яго ажывіла тады.

## НАШЫ ПАЭТЫ

Гаварыў, і зноў сказаць гатоў,
І скажу, хоць перад цэлым светам:
Я люблю вас, як сваіх братоў,
Нашы беларускія паэты.

Калі кат фашысцкі нёс з сабой
Для людзей і вершаў дамавіны,

Вы крывёй пісалі, не расой,
Што на дзюбах ззяе салаўіных.

Вы спазналі ўсё: і фронт, і тыл,
Смерць, агонь, галодны сум аб хлебе.
Вы, як птушкі. Не знайсці магіл.
Дзе магілы птушак? Пэўна, ў небе.

Ваш суровы верш не балявау,
Пад кусточкам начаваў ракітным,
Ваяваў, вучыўся, працаваў
І не быў надомнікам рахітным.

Веру я: бяссмертныя радкі
Новай звонкай сілаю нальюцца,
Праз вякі і праз мацерыкі
Спелым жытнім коласам праб'юцца.

* * *

Кіпі гарачай лавай,
Будзь лёдам, плач ці смейся —
Каля цяпельца славы
Усім не хопіць месца.
Агонь, вястун з Алімпа,
Гарыць, густы і яры.
Усім відны вялікіх
Азораныя твары.
А нехта ў змроку ходзіць
Нябачнымі шляхамі,
Імглу вятроў разводзіць
Халоднымі рукамі.

## ЗІМОВАЯ ЭЛЕГІЯ

Вечар за пазухай поўню трымае,
Паказваць скалелай зямлі не хоча.
Па дрогкіх рэйках бягуць трамваі,
У цемры гараць электрычныя вочы.

Снег на зямлю баіцца ўпасці.
Пад сінім ільдом халадзее планета.
Шчасця няма. Ёсць сум аб шчасці.
Хопіць і гэтага для паэта.

* * *

Пройдзе ўсё. Нават камень сатлее.
Блісне сонца кавалкам слюды.
Дзён далёкіх сівыя завеі
Замуруюць нашы сляды.

Мы памром — не зашыемся ў норы.
Мы згарым у агні атак.
Вы прабачце мне за мінорнасць,
Але ўсё гэта будзе так.

І зямля ад жалобы не трэсне
І свой бег не паверне назад.
Пройдзе ўсё. Застанецца песня,
Непрыдуманая, як сляза.

* * *

Я сам сабе хлусіць не стану,
Не пасаджу надзей лясы.
Надыдзе час, і я растану,
Як кропля ранішняй расы.

Ні ў цішыні, ні ў землятрусе,
Ні ў спёку, ні ў завеях зім —
Ніколі я не паўтаруся
Ніводным атамам сваім.

Былі этрускі, скіфы, інкі.
Занесла пылам іх сляды.
Не буду я, а будзе іншы,
Упэўнены і малады.

Ён будзе свой лясам і рэкам.
Ён не павінен забываць
Пра сум і шчасце чалавека —
Дарогу іншым саступаць.

* * *

Мой сябра памёр у пятнаццаць гадоў.
Мой сябра пайшоў, не вярнуўся дамоў.
Пайшоў, адзвінеў, як вясновы раўчук.
Яшчэ не мужчына, ужо не хлапчук.
Нічога не ўбачыў, не змог у жыцці.
А мы ў мараходку хацелі ісці.
Мой сябра штовечара кніжкі чытаў.
Ён ножык-складанчык за кніжку мне даў.

Сплылі над зямлёй за зімою зіма...
Ёсць ножык-складанчык, а сябра няма.
І ў сэрцы нашу я гаркоту віны —
На скрыпцы жыцця не хапае струны.
Ніколі струне той не заспяваць.
Сябру дарослым ніколі не стаць.

## Я ЖЫЎ У ДВАЦЦАТЫМ СТАГОДДЗІ

**Размова з Будучыняй**

Вітаю вас, акселераты,
Сыны прыгажосці зямной.
Скажыце адразу, ці рады
Вы сёння сустрэчы са мной?

Не позна прыйшоў я? Не рана?
Шмат спраў неадкладных у вас?
Як рыба праз сто акіянаў,
Я плыў на сустрэчу праз Час.

Мне хуткасць апальвала скуру,
Я марыў пра вас ува сне.
Маланкі, магнітныя буры
Збівалі з дарогі мяне.

Дарога вяла праз туманы,
Пад хмары ўзвівала крыло.
Тайфун... Вывяржэнне вулкана
На гэтай дарозе было.

Ды чуў я ваш голас крынічны,
Адолеў і стому, і страх,
Хоць попел гарыць вулканічны
Яшчэ на маіх плячах.

І вось яно: вецер крылаты,
І сонца, і золата рэк.
Які ж у вас век? Дваццаць пяты?
Ну што ж: неблагі у вас век.

І з сонцам, і з ветрам у згодзе
Вазьміце мяне ў свой хаўрус.
Я жыў у дваццатым стагоддзі.
Маўчун. Фантазёр. Беларус.

* * *

Адтуль я, дзе звоняць крыніцы,
Дзе войнаў пракочваўся вал.
Я помню, як пахнуць суніцы.
Я знаю, як раніць метал.

Я помню далёкую вёску
Паміж непраходных лясоў —
Зары агнявую палоску
На ўзлёце юначых гадоў.

Там рэчачка бегла паўз хаты,
Паіла жывою вадой.
Рашучы быў меліяратар —
Не знойдзеце рэчачкі той.

Ды мы сваіх рэк не забудзем,
Паклонімся хваляў святлу.
Яны паміралі, як людзі.
Як людзі, пайшлі у зямлю.

Натхнёна,
аддана,
навекі,
Без клятваў, ільгот і выгод,
Люблю беларускія рэкі,
Люблю беларускі народ.

* * *

Вітаю вас, акселераты!
Па струнах трывожных дарог
Мой роздум і век мой дваццаты
Нашу,
як салдат рэчмяшок.

Пішу, ды даўно не чытаю
Нікому сваіх я паэм,
А ў думках сябе дакараю:
Ці так мы, як трэба, жывем?

Бяссмертнага розуму дзеці,
Ці можам мы звацца людзьмі,
Калі на нашай планеце
Былі і Хатынь і Сангмі.

Калі крыважэрнаю сталлю
На плошчах зямных гарадоў
Бязвінных дзяцей забівалі,
Жанчын і нямоглых дзядоў?

Адпомсцілі, перамалолі
Фашысцкую гідру ў пясок...
Ніколі, ніколі, ніколі
Не тухні,
памяці зрок.

* * *

Разбуджаны атама нетры...
Стыхіі сышлі з тармазоў...
Пінг-понгавы шарык планеты
Ляціць праз маланкі вякоў.

Які ён маленькі і кволы.
На ім — я запомніў яе!
Сярэдняя мінская школа,
Дзе вучацца дзеці мае.

На ім гарады, бусляняты,
Заводы, суніцы ў траве,
Драўляная ціхая хата,
Дзе бацька ссівелы жыве.

На ім гаманкія вакзалы,
І соснаў палескіх смала,
І бронзавы помнік Купалу,
І ліпа на ўскрайку сяла.

А шарык пінг-понгавы гэты
Ляціць праз пажары, праз дым.
Зусім не ракеткі —
ракеты
Лупцуюць штосілы па ім.

Крыві захацелася!
Мала
Мінулай сусветнай вайны.
Махае цытатнікам Мао,
Устаўшы, як прывід, з труны.

Яму б імператара ролю
Сыграць перад светам усім.
Ніколі, ніколі, ніколі
На згубу зямлю не дадзім.



Кладзецца па лыжнаму следу
Мяцеліц сярэбраных ніць...
Закончу работу, паеду
У лес, што ля Мінска шуміць.

І будзе салодка і горка
У морак глядзець мне лясны.
І мне усміхнецца вавёрка
З рудой крывабокай сасны.

На светлых прасторах Айчыны,
Дзе шчасце знайшоў я сваё,
Гады праімчаць. І магчыма,
І я зразумею жыццё.

Жыць можна, шануючы цела,
Узяўшы душу на замок.
Глядзіш, і жыццё праляцела,
Бяздумнае, як матылёк.

Жыць трэба не збоку, не з краю,
Браць зло і хлусню на таран
І быць ручаём, што ўпадае
Ў народа свайго акіян.



## НАРОД

Проста ў космас імчым
Ці праполваем градкі,
На футболе крычым
Для нервовай разрадкі,
Ладзім новы завод,
Каб там сталь забурліла.
Мы — народ. Мы — народ.
Мы — галоўная сіла.
Косім луг па расе.
Крочым штольняю цеснай.
Помнім, хоць і не ўсе,
Сваіх прадзедаў песні.
Плачам, сціснуўшы рот,
Ля бацькоўскіх магілаў.
Мы — народ. Мы — народ.
Мы — галоўная сіла.
Мы — граніт і метал.
Мы — пяшчота і ласка.
Мы — разгневаны шквал.
Мы — дзіцячая казка.

Мы — алмазная грань.
Зорных дзён узыходы.
Не зблудзі. Не адстань.
Стань часцінкай народа.

* * *

Я хацеў бы пражыць на зямлі
Так, як бацька з дзедам жылі.
Я хацеў бы зямлю разумець,
Да работы ахвоту мець,
Есці чэсна здабыты хлеб,
Бачыць радасць у кожным доме,
А калі спатыкнуцца, дык лепш
Спатыкнуцца аб сонечны промень.

* * *

Лясы — снегавыя палацы,
Палі — палатняны сувой.
Зіма — мая хросная маці,
Бо я нарадзіўся зімой.

І матчына сэрца балела.
І горкія слёзы цяклі:
«Завеі...
А дроў ні палена.
Замерзне, напэўна, малы...

Завеі...
А бацька на фронце.
Ці вернецца ён у сяло?
Не ўбачым, сыночак, мы сонца —
Снягамі яго замяло».

Ні разу не злётаўшы ў вырай,
Я ціха б, як птушка, сканаў,
Калі б не было брыгадзіра,
Што даў нам у дровы каня.

Калі б не маўклівы той дзядзька,
Што гэтыя дровы прывёз.
Усім ім вялікае дзякуй
За тое, што я не замёрз.

Я рос паміж снегу і дыму,
Нязломлены лютасцю зім.
Мяне адагрэла Радзіма
Пад сэрцам вялікім сваім.

## ЭСКІЗЫ ПЕРАМОГІ

Галодны, паранены, босы,
Ідзе салдат ледзь жывы.
Фашысцкія кулі, як восы,
Далётваюць да Масквы.

Згарэла матчына хата.
Вадой не напоіць рака.
Кароткі век у салдата —
На даўжыню штыка.

* * *

Цягнууся з плугам трафейны конь,
Мух адганяў хвастом-абрубкам.
Запальвала маці ў печы агонь,
Мяне, малога, ўзяўшы на рукі.

Ад гордых салютаў грымела Масква.
Сякерай бацька грукаў, стараўся.
Крокры ўставалі, як літары «А»,—
Новых дзён алфавіт пачынаўся.

* * *

Ты за кратамі, Клаўс Барб'е.
Не схавалі джунглі цябе.
Што ж сівой галавой панік?
Што сумуеш, «ліёнскі мяснік»?

Ты ў палоне турэмных сцен,
Дзе крывёй захлынаўся Мулен*,
Дзе грымеў твайго смеху гром,
Дзе ты катам быў і суддзёй.

На сцяну ты з жахам глядзіш.
Там — Мулен, як крывавы крыж,
Нават сёння, праз сорак гадоў,
З гордых вуснаў капае кроў.

Ты яму галаву разбіваў,
Ты пазногці яму здзіраў.

---

* Жан Мулен — герой французскага Руху Супраціўлення, закатаваны ў гестапа.

Не дрыжы. Ён не ўдарыць цябе,
Мёртвы ён.
Ты жывы, Барб'е.

Нібы куля, сляза з-пад павек.
Што ж калоцішся, «звышчалавек»?
Даганяла помста цябе
І дагнала, Клаўс Барб'е.

Б'ецца ў вокны раніца зноў,
І ад сонечных прамянёў,
Як сава,
ты хаваеш твар...
Над табою — цені ахвяр.

* * *

Навальніца адгрукацела...
Там, дзе быў сямейны парог,—
Курганкі абгарэлай цэглы
У баку ад вялікіх дарог.

І адтуль, на ўвесь свет шырокі,
Праз палі, лугі і лясы,
Як дзіцячае сумнае вока,
Ціха зззяе кропля расы.



Срэбра хваляў... Вольхі лісце...
Рэчка Вольса, рэчка Вольса,
Раскажы мне, як калісьці
Бацька мой ішоў у войска.

Малады, у поўдзень летні
Над табой ён прыпыніўся,
Шапку зняў, стаў на калені
І вады тваёй напіўся.

Рэчка Вольса, рэчка Вольса,
Я, здаецца, міг той бачу:
Над табой віруюць восы,
Промні сонца ў лузе скачуць.

Твар у бацькі задуменны.
Ён і плача і смяецца.
Цішыня... Вада струменіць
І скрозь пальцы, і скрозь сэрца.

## СЯБРУ, УДЗЕЛЬНІКУ ВАЙНЫ

Ты — старэйшы, я — малодшы.
Як з табою мы сышліся?
І прашу цябе я: лёсам
Ты са мною падзяліся,

Падзяліся боем, болем,
Сухаром і строем пешым,

Падзяліся снежным полем
Пад Масквой у сорак першым.

Пад смяротны гуд гарматаў
Прыхілюся да цябе я:
На дваіх — адна граната,
На дваіх — адна надзея.

## УЛАДЗІВАСТОК

Ёсць горад на ўскрайку
Савецкай зямлі.
Туды сваю радасць
Нясуць караблі.
Там рэжа граніт
Акіяна лязо.
Там чуюцца крокі
Сяргея Лазо.
Той горад — матрос.
Той горад — рыбак.
З пякучаю соллю
На юных губах.
У сэрцах адважных
Грукоча заўжды
Горка-салёная
Памяць вады.
Там ноччу
У бухту прыводзіць Нептун
Празрыстыя цені
Фрэгатаў і шхун.
І чайка на скалах
Свой ладзіць куток.

І хвалі спяваюць:
«Уладзівасток».
Я быў там,
Я жыў на яго скразняку.
І я Акіяну
Пацісвуў руку.
І я зразумеў
Пад удары штармоў,
Што цяжка,
Што нельга пражыць без сяброў.
Хай стомай свінцовай
Напоўніцца дзень,
Я ў сопках жыцця
Адшукаю жэньшэнь,
Бо моцнай рукой
Мне махае здалёк
Мой брат і настаўнік
Уладзівасток.

## ЭСТОНІЯ

*Тыну Отсу*

Тут не любяць парывістых жэстаў,
Не ганяюць слязу па шчацэ.
У краю светлавокіх эстаў
Светлай рэчкай гаворка цячэ.

Не сутуліць Вышгарад плечы,
Хоць стагоддзі стаяць за спіной.
Ты не бачыў сярэднявечча?
Вось яно. Дакраніся рукой.

Яшчэ дымам пахнуць байніцы.
На халодны гранітны парог
Прылятае і падае ніцма
Вецер, сын акіянскіх дарог.
Валуны... Балоты... І крыўды...
Мох цярпення на шэрай сцяне...
«Дзе пасееш нас, там мы і ўзыдзем»,—
Кажа талінскі сябра мне.
Налягала на плечы змора,
З поля грукаўся ў хаты няўрод,
Ды жыве каля звонкага мора
Валуновы гранітны народ.
Ноч... Па вулках брыдзем нерухомых...
Флюгер месяца ў небе згас...
І стары задуменны Томас
Пазірае з-пад хмары на нас.

## ГАРАДЖАНКА

Гараджаначка, гараджанка...
На тралейбусе зімнім ранкам,
Там, дзе едзе процьма народу,
Ты спяшаешся на работу.
Я такую б хацеў мець сястрою.
Кім працуеш ты: медсястрою?
Кранаўшчыцай? Швачкай? Ткачыхай?
Вецер зімні, у твар не дыхай.
Тваім лёгкім рукам пакорны
І метал задымлены, чорны,
І рыдлёўка, і цэгла, і плазма,
І дзіцячая светлая пасма.

Гараджаначка, гараджанка...
Лёс не скацерка-самабранка.
Муж зап'е — не ў гуморы, не ў форме,—
І сям'ю на зарплату корміш
Ад палучкі і да палучкі.
Беларускі — не беларучкі!
І Паўлінка ты і Прадслава.
Як ты можаш расказваць цікава,
Як смяешся ты, як спяваеш,
Як пра крыўды свае забываеш!
Нам цябе б сустракаць у вальсе,
А не з ломам цяжкім на асфальце.
Ды мы возьмем той лом. Мы павінны!
А іначай мы не мужчыны.
Гараджаначка, гараджанка...
Плавіць сэрца вачэй маланка.

## ДОЙЛІД

Як у сваё прызванне вера,
Як чысты голас з нematы,
Прысніцца Эйфелева вежа
Ці ленінградскія масты.
І ты, такі усхваляваны,
Пад зорным мроістым дажджом
Стаіш, як непабудаваны
І невядомы людзям дом.
За прыгажосцю ў край нябліскі
Імчыш. На Марс ляцець гатоў!
А пад нагою камень Мінска,
Якому тысяча гадоў.

* * *

Мой горад, ты не змружыш воч,
Не спіш, маўклівы, чуйны, строгі.
Зноў уразаецца у ноч
Машына «хуткай дапамогі».

Ляціць святло турботных фар.
І ў тым святле — трывога века.
Гадай: інсульт або інфаркт
Зваліў знячэўку чалавека.

Хто быў ён? Што ён сёння сніў —
Сцяжынку ў лесе? Мора кветак?
Хоць слоўца цёплае шапні
Ты чалавеку напаследак.

* * *

Ідзе павольны снегапад
Над белаю зямлёю.
Мой снегапад, мой белы брат,
Вазьмі мяне з сабою.

Мы паплывём у ціхі край.
Мы там свой сум утопім,
Дзе адгарэў асенні гай
І снег ляжыць, як попел.

Там заяц з цішыні палёў
Імчыць, ласун рахманы.
Ён ланцужком сваіх слядоў
Да страху прыкаваны.

Там лёд блішчыць. Там лес шуміць,
Затоена і глуха.
Там праз імглу мы будзем плыць
На крыллях завірухі.

Я ўбачу родную зямлю,
Зімовую, начную.
Чым я жыву, што я люблю,
Як запавет, адчую.

Паміж каменных гарадоў,
Паміж палёў скалелых
Я ўбачу край сваіх дзядоў,
Зажураны і белы.

* * *

Маіх дзядоў сялянскія імёны —
Язэп, Марцін, Давыд, Кандрат, Якуб —
Вы з далечы плывеце заімглёнай,
Каб зноў крануцца нечых душ і губ.

Вас не шануюць у сталічных загсах,
Ды і ў вясковых выйшлі вы з цаны.
А вас насілі, мушу я прызнацца,
Майго народа лепшыя сыны.

Мы ў космасе суровым пабывалі.
Мы новых дзён узводзім вечны зруб.
Мы сеялі, спявалі, будавалі.
Прабачце мне, што вас не ўшанавалі,
Язэп, Марцін, Давыд, Кандрат, Якуб.

# ДРЫГАВІЧЫ

*Аляксею Пятрухну*

Дрыгавічы — лясныя людзі.
Сыны вады. Сыны зары.
Шляхоў назад мне больш не будзе —
Я тут кідаю якары.
Бяжыць рака ў трыснёг зялёны.
Бліскоча месяц уначы.
То позірк ваш, пагляд бяссонны,
Дрыгавічы.
На сцежках веку навальнічных
Я чую ваш зазыўны кліч,
Бо я дзіця лясоў, язычнік,
Бо я таксама дрыгавіч.
Назло захопніку-забойцу
Вы ўмелі родны край любіць,
І сеяць хлеб, і ладзіць борці,
І на дубовым чоўне плыць.
Калі ж было чужынцу мала
Зямлі, паветра і вады,
Сцяной нязломнай вы ўздымалі
Свае чырвоныя шчыты.
Дрыгва ваш след не праглынула.
Мы чуем вашы галасы,
Калі з гарачым свістам, гулам
Віхор суровы гне лясы.
Калі ж метал зазвоніць строга,
Палезе звер у родны кут,
Мы вас паклічам на падмогу,
І вы адкажаце: «Мы тут!»
Няхай удалеч дні імчацца —
З крыніцы вашай будзем піць.
Бярозка, як дрыгавічанка,
Над той крыніцаю стаіць.

# ПОСТАЦІ ГІСТОРЫІ АЙЧЫННАЙ

Не кліч, не кліч —
мне ўдалеч добра крочыцца,
Аддамся я шляхам, вытокам, нетрам,
Бо мне ў душу стагоддзяў глянуць хочацца,
Нібы ў акно, расчыненае ветрам.

Да вас іду, адважныя, палеглыя.
І разам з вамі за народ свой б'юся.
І праз усе нягоды і адлегласці
Нам свецяць вочы роднай Беларусі.

## ВЯЧКА. 1224 ГОД

Дзядзінец дагарае.
Прабіў сцяну таран.
Князь Вячка памірае
Ад ран.

Смяюцца мечаносцы:
— Здыхай, славянскі пёс!
Не ўбачыш болей ноч ты
І дзень у ззянні рос.

Глядзі: агонь віхурыць...
Смыліць, пячэ — няўсцерп!
Мы знішчым горад Юр'еў,
Збудуем горад Дэрпт.

Мы пройдзем лесам, полем,
Смерць несучы і боль.
Мы спалім горад Полацк.
На попел кінем соль.

Ты бой прайграў. На трупах
Сваіх людзей ляжыш.

Пад неба сіні купал
Плыве тэўтонскі крыж.

Ніліваў і ні селаў *
Не ўбачыш больш, сляпы.
Ты жыта ў полі сеяў.
Мы сеем чарапы.

...Дзядзінец дагарае.
Скрышыў сцяну таран.
Князь Вячка памірае
Ад ран.

Пральецца хмара-плачка
Слязінкай дажджавой.
Але не плача Вячка,
Смяецца мужны вой:

— Сын Полацка не стане
Аб літасці прасіць.
Умеюць палачане
Заморскіх птушак біць.

З-за мора, совы-госці,
Вы прыляцелі ўсе.
І ў мора вашы косці
Паводка панясе.

Прыблудам-ліхадзеям
Славян не зацугляць.
Мы будзем жыта сеяць,
Спяваць, жанчын кахаць.

---

* Лівы, селы — прыбалтыйскія плямёны, якія ў пачатку XIII стагоддзя сумесна з Полацкім княствам змагаліся супроць агрэсіі рыцараў-мечаносцаў.

Ваш меч не пацалую.
Цалую васілёк...
Пацалаваўшы кветку,
На попел Вячка лёг.

Сканаў. І ў тыя ж хвілі,
Трывогі вестуны,
На Полацкай Сафіі
Ускрыкнулі званы.

...За векам век згарае.
Зірні ў начны блакіт —
Вунь маладзік над гаем,
Як князя Вячкі шчыт.

## ЛЫШЧЫНСКІ. 1689 ГОД

У вочы прыродзе
Гляджу і пытаю:
Адкуль мы прыходзім?
Куды мы знікаем?

Гэй, ксёндз, пакажы
(Хоць сёння будзь шчыры)
Прытулак душы
У нябесным эфіры.

Дзе рай залаты?
Дзе спеў херувімскі?
Не пойдзе туды
Бязбожнік Лышчынскі.

Не прагну ярма,
Салодкай няволі,
Бо раю няма
І бога тым болей.

Няма мне ў той бок
Ні сцежкі, ні броду.
Адзіны мой бог —
Зямная прырода.

Каб здрадзіў я ёй,
Ніхто не прымусіць.
Прыродзе адной
Над плахай малюся.

Усё. Родны брат
Па веры, па богу,
Язык вырве кат,
Шпурне на дарогу.

Сыноўні паклон
Зямлі беларусаў.
Іду я ў агонь.
Іду. Не скаруся.

## ВЕЦЕР. 1744 ГОД

Аб шчаку завіруха трэцца.
Снежны лес у халодным сне.
Я — мядзведзь з чалавечым сэрцам.
На шматкі рвуць сабакі мяне.

Ад пажараў быў ранак буры.
Радзівіл перамог ізноў.
Нас зашылі ў мядзведжыя шкуры,
Нацкавалі на нас ганчакоў.

Так, сябры, мы звяры, мы мядзведзі.
Хочаш, рэж нас. Хочаш, страляй.
Ды на нашай спіне не заедзе
Радзівіл у свой панскі рай.

Мы сказалі панам: «Даволі!
Хопіць з жылаў вяроўкі віць!»
Падзяліліся хлебам-соллю,
Птушку волі пайшлі лавіць.

Не злавілі. Далёка птушка.
Толькі пер'е пагладзіць змаглі.
Але мару ніпто не патушыць
Аб свабоднай мужыцкай зямлі.

У чырвоны снег асядаю.
Крок зрабіць не хапае сіл.
Беларусь, за цябе паміраю
Верны сын твой, Вецер Васіль.

Я — мядзведзь. Я вясёлы, вясёлы...
Вулей мёду цягну на спіне.
Я — мядзведзь. Ды кусаюць не пчолы,
А жаўнерскія кулі мяне.

## ГРЫНЯВІЦКІ. 1881 ГОД

Агнём палае рана...
Крывёй дыміцца брук...
На новага тырана
Выходзіць новы Брут.

Не размінуцца болей —
Шлях скрыжаваўся ваш,
Баец «Народнай волі»
І царскі экіпаж.

Ты любіш рэчак буйства,
Ды рэкі пад ільдом.
А дзесьці ля Бабруйска
Сумуе бацькаў дом.

Там светлым птушкам віцца.
Там юных сноў міраж.
Чакае Грынявіцкі...
Грукоча экіпаж...

Крывавых і агідных,
Ты змёў бы ўсіх цароў.
Ды ў ненавіснай гідры
Занадта шмат галоў.

На край, тыранствам скуты,
Яны наводзяць жах.
Полымя з атрутай
У іх стальных вачах.

Душу распалавіняць.
Загоняць у труну.
Ды з тых галоў павінен
Ты ссекчы хоць адну.

І з бомбай смертаноснай
(Загіну, а ссяку!)
Ўздымаеш пад нябёсы
Няўмольную руку.

## ЧАРВЯКОЎ. 1922 ГОД

Чуеш: метал пяе і гудзе.
Праз прахадную завода
Стараста Ўсебеларускі ідзе,
Ідзе да свайго народа.

Кажа:
«Волю здабыў беларус.
Каб вольнымі быць навечна,
Трэба з'яднацца ў адзіны Саюз,
Саюз Рэспублік Савецкіх.

Домам Братэрства ўздымецца ён —
Не Вавілонскаю вежай,—
Злучыць сэрцаў нашых агонь,
Земляў нашых бязмежжа.

Разам з Масквой не збаімся нягод,
Рушым у шлях перуновы».
І адказаў беларускі народ:
«Верым табе, Чарвякову!»

Чуеш: метал пяе і гудзе.
Бачыш: вясна расцвітае.
Гэта ў ясното ныя далі ідзе
Наша зямля маладая.

Не, ты не згубішся ў громе вякоў,
Ты не загінеш, наш краю,—
Цені вялікіх адважных сыноў
Неба твае ахінаюць.

## ПАЧАТАК

*Прысвячаецца*
*Якубу Коласу*

Не трэба хмельных чарак.
Хай згінуць сум і злосць.
Ёсць права на пачатак,
На выбар права ёсць.
Маўчыш, паэт, сумуеш.
Пяро баіцца рук.

Ты, як страла, якую
Пускае веку лук.

Ад зайздрасці пацее
Чарнільны крыхабор —
Куды страла пацэліць?
На чый багаты двор?

А ты паўз двор той. Міма.
Ты — ўдаль на поўны лёт.
Там — вецер. Там — Радзіма.
Там — поле. Там — народ.

Там у нятленным слове
Нямых вякоў давер.
І ты на роднай мове
Напішаш першы верш.

## АБ ЛІТАРАТУРНЫХ ПАКАЛЕННЯХ

Нібы агню пакланенне —
Размовы аб пакаленнях.
Паэт і празаік горды —
Лучацца ўсе ў кагорты,
Узрост пад графу падводзяць,
Па сэрцах мяжу праводзяць.
Усё і рашуча і тлумна.
І вельмі мне сёння сумна,
Бо я між тых пакаленняў,
Нібыта мох між бярвенняў.
У тое — гадоў не хапае.

У тое — сусед не пускае.
Куды маёй песні дзецца
І ля каго ёй сагрэцца,
Сціплай, не дужа звонкай,
Ля Голуба, ля Зуёнка?
Як пушчы адной карэнне,
Будзь жа адно пакаленне!
Тое, дзе сэрцаў гарэнне,
Тое, дзе праўдзе служэнне.
Метрыкам вершы не верацъ.
Навошта пра ўзрост ім ведаць?
Любоўю, аддадзенай свету,
Узрост вымяраюць паэты.

## ПАМЯЦІ КІНААКЦЁРА ПЯТРА АЛЕЙНІКАВА

Зажыве журба, як рана.
Зробіцца зусім маленькаю.
Зноў смяешся ты з экрана,
Пётр Мартынавіч Алейнікаў.

Не, няпраўду той гаворыць,
Б'е аб стол рукамі дужымі,
Што жыццё кінаакцёраў —
Гладкі шлях, услады ружамі.

Будзе май, абед на траўцы,
І сябры, і трубы медныя.
Ды няпраўда, ды няпраўда,
Што жыццё — кінакамедыя.

У душу, у сэрца нетры
Зноў нацэлены юпітэры.
І стаіць пад зімнім ветрам
Чалавек у тонкім світэры.

Ён спявае. Ён смяецца.
Плача ён. Скрозь сон ускрыквае.
Перад векам
              сваё сэрца
Па кавалачку
              адшчыквае.

## ОДА ЦВЯРОЗАСЦІ

Якое шчасце быць цвярозым,
Самім сабою быць.
За добры смех, за ясны розум
Людзей любіць.

Я піў віно. Піў часта, многа.
Браў радасць напавер.
Душу кіпцюрыла трывога,
Як чорны звер.

Я піў віно. Крычаў вітанні
Гульбе, а не сяўбе.
І у каханай, у кахання
Краў сам сябе.

Віно і зрок і мозг патушыць.
І вось я зразумеў:
Няма на свеце п'яных птушак
І п'яных дрэў.

Ні траўкі п'янай і ні плода
Зямля не сцерпіць, не!
Глядзіць цвярозая прырода
У вочы мне.

* * *

Прыснілася мне сёння —
Стаім з табою мы
На белым эшафоце
Бязлітаснай зімы.
Мароз пятлю накінуў
На горла ручая,
Ды я кажу: «Не бойся,
Каханая мая».
У шчыліну між хмараў
Я рукі працягну —
Сонца! Дзе ты, сонца?
Дай свайго агню!

* * *

Было, было душы свячэнне.
Быў рай на ўсёй зямлі.
І мы з табой супроць цячэння,
Як караблі, плылі.
Былі, былі зайздросніц плёткі.

Была душы
мішэнь.
Скажы,
чаму такі кароткі
Кахання ясны дзень?
Вясновай песні не разбудзіш.
Яе не заспяваць.
Скажы,
чаму так любяць людзі
Каханне руйнаваць?
Чаму жадаюць з нецярпеннем
Прабоін
караблю,
Анёлу беламу
падзення
На чорную зямлю?

## СНЯЖЫНКІ НАД АГНЁМ

Сняжынкі над агнём —
Бяскрыўдныя істоты —
На вас зімовым днём
Я пазіраў употай.

Ляцелі з неба вы
Зіхотка і няспынна,
Ды вецер верхавы
У полымя вас кінуў.

Прывыклі вы здавён
Разбельваць лес і поле,

Але ўзяло ў палон
Чырвонае вуголле.

Гудзе наўкол зіма.
Усё ў сцюдзёнай белі.
А вас няма, няма,
Вы ў полымі згарэлі.

Свой чалавечы дом
Будую. Ўвысь імкнуся.
І сам сабе здаюся
Сняжынкай над агнём.

Грыміць злавесны гром,
Рыхтуе смерць і мукі.
Няўжо каханай рукі —
Сняжынкі над агнём?

Хто ж сонечным крылом
Нас ад бяды атуліць?
Не стань, зямля-матуля,
Сняжынкай над агнём.

Хачу іскрысты снег
Суцішваць у далоні.
Хачу дзіцячы смех
І заўтра чуць і сёння.

Хачу кахаць, спяваць,
Верш сеяць на паперу.
Унукаў дачакаць
І злётаць на Венеру.

Віруй, жыццё! Сцялі
Імклівых дзён сцяжынкі.
Не бомбы, а сняжынкі
Хай б'юцца ў скронь Зямлі.

## КАХАННЕ

Ты пачакай мяне, пастой.
Я ў вечны змрок пайду з табой.
*Эпітафія на старадаўняй магіле*

Каханне, з намі ты і ў нас.
Нязгаснай зоркай ты гарыш.
Што прад табой бясконцы час,
І цемра, і смяротны крыж?
У небе месяц — згоды знак.
І шэпча дзеўчыне юнак:
«Ты пачакай мяне, пастой.
На танец я пайду з табой».
Мінецца дзень... Мінецца век...
І скажа той жа чалавек:
«Ты пачакай мяне, пастой.
Я ў вечны змрок пайду з табой».

## ЖАНЧЫНА

Ты вядзеш мяне ўдалячынь.
Ты — дарогі першапрычына.
Я не веру ў нябесных багінь,
У цябе я веру, жанчына.

Веру тайны тваёй лясам,
Веру слёз тваіх акіяну.
Рана ты і гаючы бальзам,
Што ліецца на рану.

Не прад громам (не страшны гром!) —
Прад табой я падаю ніцма.

Я хадзіў бы ў шкуры, з кап'ём,
Каб не ты, чараўніца.

Я сціскаю тваю далонь.
О маленькай далоні сіла!
Помніш — ты запаліла агонь,
Змрок вякоў асвяціла.

І калі панясе на спакой
Маё сэрца касмічны вецер,
Прамяністай сваёй душой
Мне дарогу асвеціш.

* * *

Іду...
        Песня спета не ўся,
І сіла ў нагах маладая,
Ды светлага суму раса
На сцежку жыцця асядае.

Іду...
        Гора ўмею трываць
І плям не шукаю на сонцы,
А недзе чакае прывал
Таемны, халодны, бясконцы.

Я песні складаю вясне,
Ды помню, што ў восеньскім гудзе
Не будзе, не будзе мяне,
Ніколі, ніколі не будзе.

Ці ўбачу ж свой дом хоць здалёк
У вечнай камандзіроўцы?
І хто за мяне васілёк
Пагладзіць па сіняй галоўцы?

* * *

Я запомню назаўжды
Гэта вечнае імгненне:
Ты выходзіла з вады...
Залаціліся калені...
Ты трымала на руках
Сына нашага малога.
І жыла ў тваіх вачах
Мора сіняга трывога.
Сын і жонка — соль і хлеб!
Я вавек вас не забуду.
Той аглух і той аслеп,
Хто не цэніць гэткіх цудаў.
Сын і жонка — вечны шлях!
Без яго жыццю спыніцца.
Я згару на ўсіх кастрах,
Я памру ва ўсіх цямніцах,
За пякучае крыло
Я схаплю рукой маланку,
Толькі б гэта вось жыло
Ад світанку да світанку:
Толькі б ты ішла з вады,
Залаціліся калені,
І было б са мной заўжды
Гэта вечнае імгненне.

* * *

Сяброў шукаю.
                    Штохвілінна
Тугой сябе гняту.
Сярод асфальту так травінку
Шукаў бы дзікі тур.

Пад валтузню вясновых рэкаў,
Пад шапаценне дрэў
Прыходзіць сум па чалавеку,
Якога не сустрэў.

І песні нашыя і сэрцы
Мы з ім маглі б з'яднаць.
Ён аднадумцам, аднаверцам,
Ён братам мог бы стаць.

І разам (бы ў адным акопе,
Калі — да скроні скронь)
Дзялілі б мы халодны попел
І залаты агонь.

## СЦІПЛЫ ЧАЛАВЕК

Які ён быў?
                    Звычайны. Будзённы.
Цярплівы. Цвярозы. Меў трое дзяцей.
І не любіў здымацца на фоне
Высокіх гор і вялікіх людзей.



Зноў вясна пратрубіла трывогу.
Колькі промняў і колькі ільдзін!
Вось выходзіць малы на дарогу.
Сто кірункаў, а хлопчык адзін.

Будзе ўсё: сустрэчы, расстанні...
І пад позіркам зорак і хмар
Я хвалююся: кім ты станеш,
Дваццаць першага веку жыхар?

Станеш сейбітам? Станеш паяцам,
Каб крычалі табе: «Рассмяшы!»?
У якія ты трапіш пальцы,
Пластылін дзіцячай душы?

## СЫНУ

Хочаш вырасці ты, стаць дарослым хутчэй.
Я таксама хачу.
                    Але ў змроку начэй
Я шапчу: «Не старэй. Не ляці праз гады!
Пакуль ты малады,
                    я — малады».

## ШАХМАТЫ

Забудзем пекла з раем,
Намэнчымся як след —
У шахматы гуляем,
Шліфуем інтэлект.

Над дошкаю пярэстай
Камечу бараду,
Штурмую Эверэсты,
Па полюсе ільду.

Ах, шахматнае войска,
Строй пешак і сланоў.
Кручок прынадна-востры
Глытаю зноў і зноў.

Я — першы, першы, першы.
Працiўнік, вус грызі.
Я — пешка, пешка, пешка,
Ды рвуся я ў фярзі.

Яшчэ націсну трошкі...
Яшчэ...
          Яшчэ...
                    І ўсё!..
За шахматнаю дошкай
Ідзе гульня ў жыццё.

Тут з ног збіваюць буры,
Тут не змаўкае гром.
Драўляныя фігуры
Напоўнены агнём.

Дзе драму вось такую
Убачыць вы б змаглі?

Тут пешкі трыумфуюць
І плачуць каралі.

Хаджу. Дрыжу. Нямею.
Дам царства за каня.
І раптам разумею,
Што гэта ўсё — гульня.

Так-так!
Гульня!
Забава.
Касцёр, дзе паляць час.
Якая пешкам справа
Да ўсіх жывых, да нас?

Ды зноў гарцуюць коні.
Грыміць атакі медзь.
Ах шахматы — пагоня
За тым, чаго не мець.

Усё цяжэй удары
І дзён зямных і спраў.
Юнацтва... Сталасць... Старасць...
Няўжо і я прайграў?

* * *

Зрадніўшыся навек з палямі жытнімі,
Напіўшыся вады з азёр і рэкаў,
І мы калісьці станем старажытнымі,
Падобнымі на рымлян і на грэкаў.

Імклівымі жылі ці нетаропкімі —
Усе адыдзем.
                    Трэба так прыродзе!
І скажа археолаг над раскопкамі:
«Вось камень...
Ён з дваццатага стагоддзя».

## БУЛЬБА

Як помню я — яна расце
Які ўжо год за нашым хлевам.
Як помню я — яе нідзе
Не называлі каралевай.

Лёс бульбы просты. Накарміць
Сяло і горад бульбе звычна.
У бок яе і не глядзіць
Аматар рэчаў экзатычных.

Хто бачыў,
                як яна цвіла,
Як ззяла ў росах раніцою?
Яна,
        як нашая зямля,
Не лезе ў вочы з пахвальбою.

Ды з ёй цяплела сцюжа зім,
Была яна —
                    і ў хаце шчасце.
Я гімн шчэ хлапчуком малым
У гонар бульбы марыў скласці.

Я гэты б гімн вось так пачаў:
Даўным-даўно, ў вяках туманных,
Народ магутны жыў, спяваў
За сінім морам-акіянам.

Насмешнік, вочы працяры.
Глытай, аматар цудаў, слінкі.
Шлях бульбы,
як зямля, стары —
З ёй мелі справу самі інкі.

З крутых палёў сплывала ноч,
Успыхваў золак над зямлёю,
І жрэц галоўны
бульбы корч
Кранаў матыкай залатою.

Дарослыя і хлапчукі
Адразу працу пачыналі,
Сплятталі з дзікіх траў вянкі
І бульбу ў песнях праслаўлялі.

...Рыпіць мароз на ўсіх шляхах.
Снягамі беляць поле зімы.
А бульбе сніцца у капцах
Яе далёкая радзіма.

І быццам зноў прыходзіць май.
І з кошыка ў сялянскай хаце
Пра невядомы дзіўны край
Яна маёй шаптала маці.

* * *

Атрымалі кватэру?
Віншую.
Свята поўніць вам чаркі віном.
Шмат гасцей.
Толькі госцю адну я
Не сустрэў за святочным сталом.
З ёй мы зведалі смагу і голад,
Дык чаму ж, калі шчасця стае,
Назаўжды ад'язджаючы ў горад,
Пакідаем у вёсцы яе?
Пакідаем і ўсе забываем
Шум лясоў, бляск расы на траве,
Светлы край, дзе за полем, за гаем
Наша родная мова жыве.
Ёй балюча. Жыцця акіянам
Разам з намі ёй хочацца плыць.
Адчувайце ж яе, нібы рану,
Што ля самага сэрца смыліць.

* * *

Захлынулася сэрца ад смутку і болю,
Сон прысніўся мне ў ціхай, утульнай кватэры,—
Я пярэдняе дрэва адвечнага бору,
Да якога з пілой падступілі, з сякерай.
Ужо крайнія дрэвы са стогнам упалі.
Тыя дрэвы дзядамі былі мне, бацькамі.
І святлела наўкола ад страшных прагалін.
І віхурыла замець над свежымі пнямі.
О, як цяжка быць дрэвам,
разгубленым,
крайнім!

Шчэраць зубы сталёвыя гнеўныя пілы,
І суседзяў няма, каб маглі што параіць.
І няма больш сяброў, каб сабою прыкрылі.
Я стаяў адзінокі і плакаў смалою,
Падаў я, па зямлі сваё голле распростваў.
З крыкам птушкі ляцелі ад мяне, нада мною,
Каб у іншых лясах будаваць свае гнёзды.

* * *

Бялеюць травы ад расы.
У небе хмарам цесна.
Шукае восень адрасы
Лясоў майго маленства.
Яна — дракон. І праглыне
На цёмным небе зоркі.
Яна засыпле вочы мне
Дажджом сляпым і горкім.
Ды тых лясоў ёй не сагнуць
І з памяці не сцерці.
Яны растуць, яны гудуць,
Яны цвітуць у сэрцы!

* * *

А бог вясны прыходзіць босы,
З жалейкай звонкай у руках.
Лугі сінеюць, як нябёсы.
Сузор'і кветак на лугах.

Ручай, нібы дзіця, лапоча.
Бягуць на поўнач халады.
Па чорным полі гулка крочаць
Мільёнаногія дажджы.
Звяры і птушкі ў першым класе.
Штурмуюць сонца мурашы.
Спявае вецер. Пачалася
Веснафікацыя душы.
Як добра жыць у дзень вясенні,
Душой адтайваць пакрысе
І адчуваць сябе насеннем,
Што неўзабаве прарасце.
І, скінуўшы з душы трывогу,
Паверыць сонцу і вадзе,
Знайсці адзіную дарогу,
Што ў край бацькоўскі прывядзе.
На небасхіле ўжо маячыць
Зеленакрылы ветразь дрэў.
О дрэвы родныя, я плачу
Ад радасці, што вас сустрэў.
Шумі, звіні, жывое вецце!
Паклон табе, турботны лёс,
За гэты міг, за гром, за вецер,
За вочы мокрыя ад слёз.

## ПАЛЯВАЯ ДАРОГА

Не закаваная ў бетон
Паміж травы жыве дарога.
На ёй слядоў птушыных многа.
Над ёй калоссяў перазвон.

Тут вецер ходзіць. Ручаёк
Пасля дажджу шуміць нястрога.
І, як сярэбраны плужок,
Бяжыць, узорвае дарогу.

Тут кружаць пчолы і чмялі.
Тут нівы дождзжык палівае.
Жыве дарога палявая,
Як прадзеды мае жылі.

Пад сонцам дня, пад бляскам зор
Жыве з адкрытаю душою.
Сама не змогшы стаць шашою,
Выводзіць іншых на прастор.

* * *

Таемнае жыццё раслін.
Свет незабруджаны, зялёны.
У ім жывуць свае законы,
Свой лік стагоддзяў і хвілін.

Магчыма, дрэвы і кусты
Пяюць, смяюцца і сумуюць,
Спрадвечны свой хаўрус шануюць
І ў лесе між сабой браты.

А мо ім згоды не стае,
Мо напаткаў іх лёс няўдалы,
І ў іх свае ёсць феадалы
І цемрашалы ёсць свае.

* * *

Куст лазы, як зялёны спрут,
Нетаропка на сцежку выходзіць...
Мне здаецца — я жыў ужо тут
У якімсьці далёкім стагоддзі.

Мне здаецца — я бачыў ужо
Пад злінялага неба блакітам
І вось гэты зацішны лужок,
І вось гэтых чмялёў басавітых.

Быў галодны і стомлены свет.
Мы схаваліся ля вадапою.
І глядзеў я, як мамантаў след
Заліваецца рыжай вадою.

* * *

Ізноў усхліпвае асіна.
Стань ля яе, душой замры —
Чырванакосая дзяўчына
Аб нечым плача ў гушчары.

Ці мо яе пакрыўдзіў вецер?
Ці чалавек яе пракляў?
Ці восеньскі туманны вечар
На плечы рукі ёй паклаў?

Яна заходзіцца ад плачу,
Рыдае. А ў лясным жыцці
І радасць светлую, і ўдачу
І ёй хацелася знайсці.

9 Зак. 1760

Пяюць бярозкі-каралеўны.
Балююць сосны. А яна
Вось так і будзе тут, напэўна,
Заўжды адна, заўжды адна.

Хто ёй падорыць суцяшэнне?
Навучыць хто, як трэба жыць?
Ад макаўкі і да карэння
Залаталістая дрыжыць.

Ідзіце, едзьце за край свету.
Я ж ля асіны пастаю.
Я, як завешчана паэту,
Таго, хто плача, больш люблю.



Няма марсіянскіх каналаў,
Нідзе іх след не відзён.
Сумна і крыўдна сканала
Мара юначых дзён.

Навука сваё даказала,
Убачыла праз туман:
Няма марсіянскіх каналаў,
А значыць, няма марсіян.
А значыць, няма Аэліты,
Няма расы на траве.
Марс, быццам з суму адліты,
У мёртвай прасторы плыве.

Усё там глуха і нема,
Як у нямым кіно.

Падае чорнае неба
На змрочных кратэраў дно.
Люты вецер гуляе,
Вые, ляціць з небыцця.
...Хачу ўявіць — не ўяўляю,
Што можа не быць жыцця.

Напэўна, усё там тараняць
Суровыя ледавікі.
Напэўна, ад іх марсіяне
Схаваліся пад пяскі.
Яны жывуць, не здаюцца,
Жывуць стагоддзе і два.
Яны з-пад пяскоў прарвуцца,
Як ранняй вясной трава.

І сонца іх твары абмые.
І смех запоўніць жытло.
...Іду у прасторы начныя
Пад месячнае святло.
Гляджу, як дрэвы заззялі,
На цені гляджу ад галін,
Падобныя на каналы
Паміж марсіянскіх раўнін.

* * *

Аб чым сумую і ўздыхаю,
Аб чым я думаю, калі
Халодным снегам замятае
Цёмна-зялёныя палі?

Я думаю пад небам белым,
Што шлях і лёс мы маем свой,
Што стане сейбіт жытам спелым,
Лайдак — балотнаю травой.

Што стрэну, сонцам захмялёны,
Я прадзеда ў цішы палёў.
Знайду яго паміж мільёнаў,
Паміж мільярдаў каласоў.

Паклон табе, далёкі прадзед!
Хоць ты сканаў, ды нас з табой
Заўжды адна яднае радасць,
Заўжды адзін яднае боль.

Абодва любім мы Радзіму,
Яе палеткі і лугі.
На розных мы канцах адзінай
Гіганцкай вольтавай дугі.

Ты ёй не здрадзіў. Я не здраджу.
Бо мы заўжды яе сыны,
Ці майскі вецер шчокі гладзіць,
Ці б'юць у сэрца перуны.

* * *

Ізноў надыходзіць хвіліна адчаю,
Бязлітасна лупіць пад дых.
У моры адчаю сяброў прыкмячаю
І ворагаў бачу сваіх.

Вось — вораг.
Між хваляў раз'ятрана-чорны
Ён дасць і вясло і стырно.
Руку ён працягне. Пасадзіць у човен.
У човен, што пойдзе на дно.

* * *

Чытаючы вершы даўнейшых паэтаў,
Душою мацнею, смяюся і плачу,
І разам мінулае з будучым бачу,
Чытаючы вершы даўнейшых паэтаў.

У час, калі зоркі з нябёсаў злятаюць,
Прыходзяць яны да мяне сярод ночы,
Прыходзяць,
садзяцца за стол мой рабочы,
Маўчаць, напаўголаса вершы чытаюць.
Вось гэты паэт з-за кахання спакою
Ніколі не зведаў па ўласнай ахвоце.
Вось гэты пакутваў за шчасце людское
І склаў галаву на крутым эшафоце.

І хочацца сэрцу змагацца і марыць.
І страх скалане:
«Ці не сон усё гэта?»
І чуюцца крокі
на рэках і ў хмарах...
Паэты... Паэты...
Сусветы... Сусветы...



Кітам у акіяне цесна...
У велізарным акіяне
Ідзе нябачнае змаганне
Вады і велізарных целаў.
Дзе ж ратавацца ім ад бедаў?
І па якой ім плыць дарозе?
І скачуць на шурпаты бераг.
І паміраюць у знямозе.
Ляжаць, нібы тарпеданосцы,
Падбітыя агнём варожым.
І верацъ — мы ім дапаможам,
Мы выручым, мы зробім штосьці.
Кітам у акіяне цесна...
Мо слепіць іх паміж блакіту
Вулкан, што знішчыў Атлантыду,
Граніт зрабіўшы мяккім цестам?
Мо смаліць іх агонь глыбінны,
Што ў чэраве зямлі схаваны?
Мо труціць бруд, што ў акіяны
З мацерыкоў цячэ няспынна?
Здаецца б, крыкнуў: «Кіт, не бойся!
Жыві! Плыві! Глядзі на зоры!»
Дык вось ён — пляж...
Самазабойства...
Ляжаць кітоў нямыя горы...
...Я — кіт.
Я жыць хачу на свеце.
Я сын крутой салёнай хвалі.
Хачу, каб штормы бушавалі,
Каб айсбергі пахістваў вецер.
Хачу, каб побач ціха-ціха
Плыла каханая кіціха.
Я — кіт.
Ды жах сціскае горла,

Халодны і незразумелы.
І я сваё шпурляю цела
На пляж пустынны, дзікі, голы.
І сонца выпякае вочы.
І хвост клююць няўседы-чайкі.
Чаго ж мой мозг бунтоўны хоча?
Куды ірвецца ён адчайна?
Чаго шукае ён бяссонна —
Свабоды? Радасці? Планктону?
Ляжу і ў акіянскім гудзе
Крычу: «Хутчэй ратуйце, людзі!»
Ляжу... Крывёй бруіцца рана...
Наўкол глухое бездарожжа...
Пачуйце ж крык мой з акіяна —
Хай розум розуму паможа!

* * *

Калі скуе мароз крыніцу
І з ног збівае снегавей,
Умей над пропасцю спыніцца,
Сваю бяду сустрэць умей.

Яна наваліцца знянацку,
Пасее ў сэрцы чорны страх.
Ты станеш папяровай цацкай
У вогненных яе руках.

Ды сонца ўбач праз аблачыны,
Ды помні ў лютай барацьбе,
Што ёсць твой дом, твая жанчына,
Якая верыць у цябе.

* * *

Жаночы позірк, як ручай вясновы.
Яшчэ злуе, упарціцца зіма,
Але змятае ён запоры-сховы
І паратунку ад яго няма.

Я зімнім быў, ды ўжо душа смяецца.
Спяваю я, і вершы я пішу,
Як быццам у грудзях замест сэрца
Падвоблачнага жаўранка нашу.

Быў ледзяным я, снежным быў, а сёння
Сатканы я з гарачых прамянёў.
Каханая, жаданая, мадонна,
Вясновая, мне не хапае слоў.

Не трэба слоў.
У травах згубім словы.
Шчаку рамонак зннобка апячэ.
Жаночы позірк, як ручай вясновы.
Няхай ён вечна у душу цячэ.

* * *

Толькі вясна іскрыста
Зорак запаліць кастры,
Хлопчыкі-гітарысты
Зноў запяюць на двары.

Сто пражыві ці трыста
Доўгіх, як памяць, гадоў,

Хлопчыкі-гітарысты
Пець будуць зноў і зноў.

Недзе, як дзікі голуб,
Месяц спіць у траве.
Ломкі ўзвіваецца голас.
Сэрца каханнем жыве.

Слаўлю чыстых і юных,
Слаўлю вячэрні двор,
Слаўлю вечныя струны,
Вечны сардэчны хор.

* * *

Гарыш, нервуешся, працуеш,
Габлюеш найсучасны верш,
Да славы велічна прастуеш.
Калі ж — прызнайся — ты жывеш?

Душа пакрыта гладкім лакам,
Ды стукне вечнасць у акно.
І ўздрыгнеш, бо даўно не плакаў
І не смяяўся ты даўно.

* * *

Страляе хлопчык у ціры.
Чаму гэты хлопчык не я?
Пазначана толькі пункцірам
Сцяжынка яго жыцця.

Страляе хлопчык у ціры.
Ён з племя сапраўдных мужчын!
Шакалы, ільвы і тыгры
Падаюць як адзін.

Зайздрошчу табе, мой мілы!
Дзе ж тое ружжо мне ўзяць,
Каб беды свае і памылкі
Умомант перастраляць?

* * *

Амаль усе жыццёвыя ступені
Прайшоўшы па сцязе сваёй зямной,
Разгублена шукаю прымірэння
З самім сабой.

І рады я —
з сумленнем жыў у згодзе,
Не краў, сабакам сена не касіў,
Пісаў,
як мог,
як верыў,
аб народзе
І роднаму народу не хлусіў.

## ЖАРТ

Пішам, брат, няблага ўсе мы.
Ёсць пяро? Бяры. Пішы.
Ах вы, вершыкі, паэмы,—
Піратэхніка душы.
І гарадь кастры агніста.
Вогнішчы пад неба б'юць.
Не хапае толькі іскры,
Той, што божаю завуць.

## КРЫТЫКІ

Добрых крытыкаў і злых
Бачыў я аж лішку.
І прыходзіў кожны з іх
Са сваёю лыжкай.

Поліўку, што я зварыў,
Сёрбалі паволі.
Той крычаў: «Перасаліў!»,
Гэты — «Мала солі!»

Той задумліва жаваў
І даваў «накачку»,
Што я слаба ўпаляваў —
Не дзіка, а качку.

Шмат вады з тых дзён сплыло,
Помню ж (смех прызнацца):
Мала паміж іх было
Вегетарыянцаў.

## ДУМКІ

Кастрамі думкі гараць, не стынуць,
Трапечуць думкі, як зор праменні.
Давайце ж думаць не прымітыўна,
Давайце думаць праметэйна.

## ІСЦІНА

Кліча яна цябе і мяне.
Яна, як маяк, на планеце.
Ісціна не ў віне, не ў вайне.
Ісціна ў нашых дзецях.

* * *

Слоў палахлівых нічым не аздобіць —
Ні ўяўнаю сілай,
ні ўяўнаю мужнасцю.
Яны прымаюць мужнасць,
як допінг,
Каб потым памерці ад перанапружання.



Ёсць невядомы нехта,
Маленькі нехта ёсць...
З упартасцю ландскнехта
Сваю ён тоіць злосць,
Ён падбірае ключык,
Пляце паклёпаў ніць,
Каб мне зрабіць балюча,
Каб з ног мяне зваліць.
Ні ў лесе, ні ў харомах
Не збегчы ад яго.
Мая няўдача, промах,
Як свята для яго.
Ды хмару ў небе ўкусіць,
Змарнуе ночы, дні —
Я смелы. Не баюся
Мышынай мітусні.



Прыйдзе час — я назаўжды пакіну
Сіні лес і рыжы смех бурштыну,
Поле, мора, дзікі куст ажыны...
Дык няўжо не стану хоць сняжынкай,
Што пра вечны змрок мой не раскажа,
Што на скронь табе аднойчы ляжа?



Разумець пачынаў паступова
Вецер, волю, жанчыну, слова.
Хоць, здаецца, іх разумею,
Як хлапчук, перад імі нямею.
Праз вякі, праз баі, без спачыну
Да сваёй мне ісці жанчыны.
Праз граніт маўчання суровы
Да свайго дабірацца слова.
Дык спявай жа мне, вецер строгі,
Песню вечнай вольнай дарогі.



Галоўнае, каб думаць, мысліць мог
Брунет, бландзін,
маўчальнік ці прамоўца.
Галоўнае ў нас, людзі,—
гэта мозг.
Няважна, у якой ён упакоўцы.

## ЛЕВАНІЯДА

Позна нас перавыхоўваць,
Позна горла перакоўваць.
Мы спяваем так, як можам.
Песняй белы свет трывожым.

Я застануся Лявонам,
У сваю зямлю ўлюбёным,
Хоць хваліце вы, хоць лайце,
Хоць на гуслі мне шпурляйце
Золата з усіх шкатулак —
Толькі там душы прытулак,
Дзе чакаюць, і працуюць,
І «Лявоніху» танцуюць.

* * *

Напэўна, час падводзіць вынікі —
Хто што зрабіў, хто як гарэў.
Нямала мы сіропу выпілі.
Няшмат мы пасадзілі дрэў.

Шуміць не пушча Белавежская,
А так — малюсенькі гаёк.
І мы з суровай непазбежнасцю
Жыцця размотваем клубок.

І сэрца горкай думкай раніцца,
Што курс адзін у карабля,
Што больш не прыйдзе наша раніца
І не пачне жыццё з нуля.



Засынае дом шматпавярховы.
Змрок... Маўчанне...
Толькі я не сплю.
Дзесьці шэпча ў лузе куст лазовы.
Сіні дождж ступае на зямлю.

Точыць мозг бяссонніца ганебна.
І, як добры сон, як светлы храм,
Матчына хачу я ўбачыць неба,
Пакланіцца бацькавым барам.

Толькі там — і вера, і збавенне
Ад бяды, што, як сляпы фугас,
Глушыць, валіць, ставіць на калені
Нават самых моцных паміж нас.

Я пабег бы колькі хопіць сілы,
Каб, як талісман сваіх надзей,
Адламаць крышталік небасхілу
І прыціснуць моцна да грудзей.



Мой збаўца, ты прыйшоў,
Як ціхшыні апостал.
Люблю начных дажджоў
Глухі таемны поступ.

Усё жывое спіць.
Празрыста, небалесна.

Палае сіні спірт
Воблакаў нябесных.

Маўчу, гляджу на іх.
І ў нейкім утрапенні
І мар і сноў былых
Ізноў нясуцца цені.

Праз цемрыва акна,
Дзе шыба срэбна ззяе,
Далёкая вясна
Мяне ізноў гукае.

Іду на кліч вясны,
Спяшаюся за ёю,
І дождж, як сувязны,
Між мною і вясною.

* * *

Дзе вы, хлопцы? Дзе вы, лірыкі?
Не заснулі, не аглухлі вы?
Век дваццаты сам саліруе.
Нас, паэтаў, ён не слухае.

Вельмі ж ён занепакоены,
Век нейтронаў, кібернетыкі,
Што салідна мы асвоілі
Кабінеты, кабінецікі.

Што не ў той мы бок заехалі,
Не на ніву хлебародную,

Бо спяваць чамусьці некалі
Песню, веку неабходную.

І пакуль на месцы тоўчамся,
І пакуль з-за славы лаемся,
Можа, недзе ў нейкім хлопчыку
Песня гэта пачынаецца.

## ІКАР

Ён трызніў аб волі, зрабіў сабе крылы.
Палалі агнём небасхілы.
Высокае неба чакала Ікара.
І кара чакала Ікара.
— Куды ты ляціш? Ты ж, напэўна, заплачаш.
Згараць твае крылы ля сонца.
— Няхай я заплачу, але пабачу,
Якое яно, наша сонца.
— Вярніся назад.
Ты яшчэ пашкадуеш.
Ты рухнеш з нябёсаў у мора.
— Няхай пашкадую, але я пачую,
Як вольна шуміць наша мора.
І ўзвіўся пад сонца. І крылы расталі
З гарачага мяккага воску.
Юначае сэрца арлы раздзіралі
На скалах бязлітасна вострых.
Багоў не збаяўся...
Згарэў, што камета...
Навошта ж пішу я пра гэта?
Калі з граманосных вышынь уцякаем,
Бяжым, як Піліп у каноплі,

Ікарава сэрца ў сабе забіваем
Па кроплі, па кроплі, па кроплі.
Калі пра агульны наш дом забываем,
А дбаем пра ўласныя кроквы,
Ікарава сэрца ў сабе забіваем
Па кроплі, па кроплі, па кроплі.

. . . . . . . . . . . .

Я й сам у грахах,
як у чорнай смале,
Ды лепей хоць сёння памерці,
Чым бачыць:
ляжыць на пісьмовым стале
Ікарава мёртвае сэрца.

* * *

Вабяць далі. Клічуць высі.
Мае сэрца сіл запас.
Не спяшайся. Не спазніся.
Ведай свой і шлях і час.
Глянь: адна з адною поплеч
Кроплі ткуць марскі блакіт.
Будзь жа той нястомнай кропляй,
Што расколвае граніт.
Выпраўляюцца аблокі
У вандроўнае жыццё,
Стань жа воблакам высокім,
Каб убачыць змог усё.
Слоў пустых цурайся дыму.
Сэрцам стрэнь бяды карцеч.
Беражы сваю Радзіму.
Ёй аддай і верш і меч.

* * *

Ударце, гарматы вясны,
Над кожнаю галавою!
Хай стане душа агнявою,
Забудзе халодныя сны.

Палёгку душы прынясе
Начных навальніц грукатанне.
Душу не збянтэжыць пытанне:
«Адкуль мы? Навошта мы ўсе?»

Адкуль мы? З касмічных вышынь,
З глыбінь акіянскіх.
Навошта?
Мы — вечнасці юная пошта.
Мы — заўтрашніх дзён далячынь.

Струна небасхілу, звіні!
З далёкага светлага краю
Двухтысячны год выязджае
На белым, як радасць, кані.

* * *

У сэрца павінна быць тайна.
Я гэта ад сэрца кажу.
Каханнем, крыклівым і танным,
Не варта падманваць душу.

Каханне жыве непрыкметна,
Як хвалі рачной ускалых.

Каханне жыве для сусвету,
Каханне жыве для дваіх.

Ты — слаўны, прыгожы, вучоны,
І ўсё ж ты — няшчасны, калі
Душы запаведныя зоны
Заснулі, як спяць камяні.

Ламаць будзе лёс нас і трэсці,
Але пераможам мы лёс,
Каб кветку кахання пранесці
Праз самы пякучы мароз.

У келіху неба крыштальным
Зары маладое віно.
У сэрца павінна быць тайна.
Інакш навошта яно?

## У ПОЛАЦКУ НАД ПАЛАТОЮ...

Над Палатою, над залатою
Радасць хадзіла разам з бядою.
Тут падпіралі неба мячы.
Тут жылі і жывуць крывічы.
Над Палатою
Стой і маўчы.
Стаю пад вячэрнім ветрам,
Сафія бяссмертна блішчыць,
Сарока з дзесятага веку
Над Палатою траішчыць.
Дрэвы гудуць.
Палаюць аблокі.

Людзі ідуць з вякоў далёкіх,
Праз морак густы
Ззяюць вачамі.
«Хто вы, браты?» —
«Мы — палачане!»
Над Палатою, над залатою
Не адчуваю сябе сіратою.
Смела гляджу я ва ўсе бакі —
Побач вякі і землякі.

## ІГОЛКА І МЕЧ

Пачынаю жыццё разумець,
Бачу ўвечары, бачу на золку
У мужчыны ў руцэ меч,
У жанчыны ў руцэ іголка.

Час крывавай ракой цячэ,
Валуны чарапоў абмывае.
Меч без літасці б'е, сячэ,
А іголка сшывае, сшывае...

Кліча ў бітву літаўраў медзь,
І ляціць галава нежывая.
Слёз не чуе, карчуе меч,
А іголка сшывае, сшывае...

Зноў нясецца: «Сячы! Калі!»
На душы трывожна і золка.
Дзе ж той век, дзе той дзень, калі
Пераможа мячы іголка?

## ЗМЕСТ

### «Галасы», 1969

### «Бераг чакання», 1972

## «Начныя тэлеграмы», 1974

**«Мая вясна саракавая», 1979**

**«Вечнае імгненне», 1985**

**Дайнека Л.**

Д 14 Сняжынкі над агнём: Вершы і паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 270 с., [1] л. партр.: іл.

ISBN 5-340-00264-0.

Дайнеко Л. Снежинки над огнем: Стихи и поэмы.

У кнігу ўключаны лепшыя вершы і паэмы з пяці зборнікаў паэта, якія пісаліся на працягу дваццаці гадоў. Любоў да Радзімы, нязгасная памяць продкаў, складаны свет чалавечай душы — вось стрыжнявыя матывы творчасці паэта.

ББК 84Бел7

$Д\frac{4702120202-087}{М302(03)-89}$ 119—89

Литературно-художественное издание

*Дайнеко Леонид Мартынович*

СНЕЖИНКИ НАД ОГНЕМ

*Стихи и поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Дайнека Леанід Мартынавіч*

СНЯЖЫНКІ НАД АГНЁМ

*Вершы і паэмы*

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька.* Рэдактар *Л. Р. Законнікава.* Мастак *Ю. М. Цюрын.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук.* Карэктар *Н. У. Доваль.*

ІБ № 3099

Здадзена ў набор 23.08.88. Падп. да друку 20.02.89. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,05+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 11,29. Ул.-выд. арк. 10,34. Тыраж 3300 экз. Зак. 1760. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.